КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 8 (279) ◂ 24 лютага ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**ГАТОВЫ ПАМЕРЦІ Ў ІМЯ СПРАВЯДЛІВАСЦІ**

Стар. 5

**ТРЫВАННЕ ТРЭСНУЛА**

На прадпрыемстве РУВП «Граніт» разгарэліся баі паміж кіраўніцтвам і рабочымі. Супрацоўнікі патрабуюць даць ім магчымасць стварыць незалежны прафсаюз, у адваротным выпадку пагражаюць зладзіць страйк

Стар. 4

**ПІНГВІНЫ І НАЦЫСТЫ**

Аматары нацысцкіх НЛА сцвярджаюць, што ў самым пачатку сакавіка 1947 года караблі і самалёты Чацвёртай антарктычнай экспедыцыі падпалі нападу дзіўных лятаючых апаратаў

Стар. 27

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**РЭЖЫСЁР ВАЛЕРЫЙ МАЗЫНСКІ**

Нарыс Аляксандра Тамковіча з цыклу «Лёсы»

▸ З НАГОДЫ

# ЯКІЯ САНКЦЫІ ЭФЕКТЫЎНЫЯ?

Вольга ХВОІН

**Беларускае пытанне — аповед бясконцы і алагічны. Еўрапейская дыпламатыя, у якой на стратэгічных межах непрадказальны палітык, у каторы раз губляецца ў метадах уздзеяння. Спробы дамовіцца па-добраму абарочваюцца роляю «сам дурань», а «прымусіць да міру» перашкаджаюць суб'ектыўныя і аб'ектыўныя прычыны. Застаецца апеляваць да тактыкі «people to people contacts» — яна, прынамсі, выглядае натуральнай для Еўропы. Хаця праблемы не вырашае.**




З прапановай у рамках названай тактыкі Беларусь наведваў пасол па асобых даручэннях МЗС Чэхіі Петэр Марэш. Падчас двухдзённага візіту ён меў сустрэчы з прадстаўнікамі МЗС, міністэрства культуры і адукацыі, БДУ і Нацыянальнай акадэміі навук, дзе і абмяркоўваў магчымыя шляхі супрацоўніцтва ў абыход вышэйшых інстанцый. Хаця паверыць у тое, што БДУ будзе весці праекты без ухвалення Мінадукацыі, выглядае няпростай задачай. «Адносіны паміж Беларуссю і Еўрасаюзам апошні час знаходзяцца ў свайго роду тупіку і не рухаюцца наперад, — дзяліўся Петэр Марэш з журналістамі падрабязнасцямі свайго візіту. — Чэшская дыпламатыя імкнецца развіваць тыя адносіны, што не звязаныя з дзяржорганамі. Я прыехаў сюды гаварыць пра магчымасці супрацоўніцтва ў галіне культуры, адукацыі, супрацоўніцтве паміж ВНУ краін ЕС і Беларусі, пра магчымасці стыпендый для студэнтаў і гэтак далей».

Пры гэтым, па словах Марэша, тэма палітвязняў ні ў адной з сустрэч не здымалася. «Як заўсёды, на сустрэчах мы закранулі тое, што мы называем праблемамі ў нашых адносінах — гэта агульнапрынятыя каштоўнасці. Але тэма на гэты раз не развівалася, — патлумачыў чэшскі дыпламат. — Вызваленне палітвязняў — гэта першы крок для развіцця супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Еўрасаюзам. Я нічога новага сюды не прывёз. Мае калегі ў МЗС гэта добра ведаюць». На пытанні, ці нармальна ісці на падобныя перамовы, калі ў турмах знаходзяцца людзі, спадар Петэр Марэш адказаў пытаннем: «Лягчэй было б сказаць: яны не згодныя з нашымі еўрапейскімі каштоўнасцямі, выбары тыя ж самыя ў іх. Хай жывуць сабе ў рэзервацыі, навошта яны нам?» Напрыканцы сустрэчы ўжо ў прыватнай размове чэшскі дыпламат заўважыў, што тэма правоў, свабоды і палітвязняў не можа быць забытая прынамсі ўсходнееўрапейскімі палітыкамі, і не толькі таму, што Беларусь у сферы геапалітычных інтарэсаў Польшчы, Чэхіі, у адрозненні, напрыклад, ад Іспаніі ці Грэцыі. «Я памятаю, як выглядае турма знутры», — рэзюмаваў пасол па асобых даручэннях МЗС Чэхіі.

Калі гаварыць пра палітыку санкцый, то часта можна пачуць словы, што яны не эфектыўныя. Але што разумеецца пад эфектыўнасцю? Лібералізацыя беларускага рэжыму і паварот да нармальных традыцый выканання правоў чалавека і пераемнасці ўлады? Гэта немагчыма ў прынцыпе паводле партрэту беларускага лідара. Змена ўлады? Але для гэтага санкцыі мусяць быць сапраўднымі, узгодненымі ўсімі палітычнымі бакамі ЕС і вытрыманымі ў часе. Дарэчы, інтэрнэт-партал naviny.by апублікаваў інфармацыю, што адна з вядучых міжнародных праваабарончых арганізацый рыхтуе да публікацыі справаздачу па сітуацыі ў Беларусі. І ў дакуменце будзе адведзена месца крытыцы санкцый ЕС у дачыненні да прадстаўнікоў беларускай дзяржавы. У прыватнасці гаворыцца аб тым, што замарожванне рахункаў некаторых беларусаў, якія падазраюцца ў датычнасці да кіраўніцтва дзяржавы і фінансавай падтрымцы Лукашэнкі, не перашкодзіла гэтым асобам працягваць сваю камерцыйную дзейнасць на тэрыторыі Еўропы. Згадваецца і факт таго, што ў 2011 годзе на ЕС прыходзілася 38% беларускага экспарту (Белстат пацвярджае лічбамі значнасць заходняга партнёра), адпаведна, эканамічны складнік супрацоўніцтва ў падтрымцы балансу беларускага рэжыму істотны.

З вышыні «чырвонага дому» рызыку санкцый ацэньваюць не горш за еўрапейскіх праваабаронцаў. Відаць, таму рэгулярна з вуснаў палітычнага лідара Беларусі агучваюцца нервовыя пасажы. Так, 20 лютага, прымаючы даверчыя граматы ў амбасадараў Аргенціны, Ізраіля, КНР, Люксембурга, Нарвегіі, Сан-Марына, Эфіопіі і Японіі, у апостальскага нунцыя, Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Гэтыя санкцыі, якімі вы, еўрапейцы, размахваеце перад нашым носам, вы зразумейце — мы пакуль трываем. Але як толькі вы пераступіце чырвоную лінію, мы адкажам вельмі жорстка. ...Калі ў Еўропе нехта думае пра тое, што нас па-ранейшаму яшчэ можна нахіліць нейкімі санкцыямі, папрокамі, патрабаваннямі, — гэта дарога ў нікуды. Нават, калі мы застанемся ў адзіночку без Расіі, Кітая, без іншых нашых сяброў, паверце, мы будзем да смерці стаяць тут, як калісьці ў 1941–1945-м, абараняючы сваю незалежнасць і суверэнітэт».

Каб даказаць, што порах у парахаўніцах мае быць, Аляксандр Лукашэнка павучальна адзначыў запатрабаванасць Беларусі на міжнароднай арэне. «А сяброў у нас шмат. І сёння тарпедаваць нашы адносіны з Еўропай і спрабаваць нас дзесці прыструніць, пакрыўдзіць, пакараць — бесперспектыўна. Для нашай краіны, калі шчыра казаць, супрацоўніцтва з Расіяй, Кітаем, Індыяй, Цэнтральнай Азіяй — больш чым дастаткова. Мы забяспечым нармальнае жыццё нашых людзей. Але мы не хочам быць стрэмкай у еўрапейцаў, таму што тут цэнтр Еўропы... Мы павінны мець рэзерв, дыверсіфікаваць нашу знешнюю палітыку. Таму мы адкрываем амбасады ў такіх буйных і вядомых дзяржавах, як Нігерыя. У нас адкрытая эканоміка, экспартаарыентаваная. Нам нікуды не падзецца ад супрацоўніцтва з іншымі дзяржавамі», — аптымістычна папярэдзіў упёртую Еўропу Лукашэнка.

Нагадаю, 27 лютага адбудзецца пасяджэнне Савета міністраў замежных спраў краін-удзельніц Еўрасаюза, на якім будзе разглядацца пытанне аб прымяненні пашыраных крытэрыяў санкцый у дачыненні да беларускага кіраўніцтва. І ў час, калі вы чытаеце гэты тэкст, у турмах краіны знаходзяцца людзі за «злачынствы», што называюцца іншадумствам.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### НАВАПОЛАЦК. СТУДЭНТА ХОЧУЦЬ ЗРАБІЦЬ ЭКСТРЭМІСТАМ

**Падчасператрусу ў кватэры ў сям'і дэмакратычных актывістаў з Наваполацка былі канфіскаваныя камputарная тэхніка і носьбіты інфармацыі. Паводле слоў Зміцера Рыжычэнкі, спецслужбоўцы на забраную флэшку запісалі дыскрэдытуючыя файлы.**

Зміцер Рыжычэнка і яго маці, актывістка Руху «За Свабоду» Вольга Дамаскіна, напісалі заяву ў пракуратуру і Следчы камітэт на незаконныя вобыск і канфіскацыю. Цікава, што забраная флэшка спачатку ўвогуле не фігуравала ў пратаколе. Праз некалькі дзён, калі актывісты паскардзіліся на тое, што флэшку скралі, гэты носьбіт інфармацыі дапісалі ў пратакол вымання.

Разам з тым супрацоўнікі КДБ заявілі Рыжычэнку, што на ягонай флэшцы яны знайшлі тэкставыя файлы з экстрэмісцкім зместам. Там нібыта былі знойдзены дапаможнік па вытворчасці выбухоўкі, гісторыя ўзнікнення і арганізацыі партызанскага руху ў лацінаамерыканскіх краінах і іншая падобная інфармацыя.

Зміцер Рыжычэнка рашуча адмаўляе, што на яго флэшцы былі такія файлы. Ён перакананы, што іх запісалі наўмысна, пасля канфіскацыі носьбіта, каб у перспектыве сфабрыкаваць супраць яго абвінавачванні. На думку актывіста, гэта помста з боку КДБ за тое, што ён адмовіўся супрацоўнічаць са спецслужбай і распавёў пра факт вярбоўкі ў публічнай прасторы.

Нагадаем, супрацоўнікі міліцыі і КДБ правялі ператрус у кватэры Вольгі Дамаскінай ранкам 16 лютага. У пастанове на ператрус было пазначана, што яе сын Зміцер Рыжычэнка «можа мець дачыненне» да з'яўлення графіці, якія «прапагандуюць антыграмадскія ідэалы і антысацыяльныя каштоўнасці, зневажаюць чалавечую годнасць і мараль». На наступны дзень Зміцера Рыжычэнку каля ягонага дому збілі невядомыя. Ні грошай, ні рэчаў не забралі. У юнака таксама, як прадказвалі спецслужбоўцы, пачаліся праблемы з навучаннем у каледжы.

**Паводле рух.by**

### НАВАГРУДАК. РЭПАРЦЁРАЎ ВЫГНАЛІ

**21 лютага міліцыя змусіла траіх журналістаў недзяржаўных СМІ пакінуць вёску Нязнанава Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці.**

Карэспандэнт інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» Сяргей Балай і карэспандэнты газеты «Обозреватель» Аляксей Мацюшкоў і Дзмітрый Корсак спрабавалі высветліць прычыны прымусовага знішчэння ўсіх свіней у гэтым населеным пункце.

Як распавёў Сяргей Балай, у хуткім часе пасля прыезду карэспандэнтаў у вёску там з'явіліся супрацоўнікамі Навагрудскага РАУС: «Двое падпалкоўнікаў заявілі, што на тэрыторыі, дзе праводзяцца вучэнні, нам знаходзіцца нельга». У выпадку непадпарадкавання іх прыгразілі даставіць у пастарунак «для высвятлення абставін».

У катэгарычнай форме міліцыянты запатрабавалі выдаліць усе фотаздымкі, на якіх прысутнічалі. Фотакарэспандэнтам, аднак, удалося сфатаграфаваць «картэж» у люстэрка задняга віду.

**Паводле baj.by**

### ГРОДНА. МАГІСТРАЛЬ НА РЭШТКАХ СЯРЭДНЯВЕЧНАГА ГОРАДА

**У сувязі з неабходнасцю разгрузіць гістарычны цэнтр горада, распрацаваны праект будаўніцтва транспартных абыходаў. Змены адбудуцца ўжо сёлета.**

Плануецца працяг вуліцы Падгорнай з выхадам на вуліцу Будзённага (з усходняга боку) і будаўніцтва дублёра вуліцы Вялікай Траецкай (з заходняга боку). Праекты рыхтуе Інстытут «Гроднаграмадзянпраект».

Распрацавана дакументацыя па рэканструкцыю вул. Будзённага з пашырэннем да чатырох палос руху і рэканструкцыяй пляцоўкі чыгуначнага вакзала. Акрамя таго, плануецца завяршыць будаўніцтва двух участкаў унутрыгарадской аб'язной магістралі: паўднёва-заходняе паўкальцо (працяг вул. Славінскага да вул. В. Соламавай з будаўніцтвам пуцеправода над чыгункай) і паўночна-ўсходняе паўкальцо (ад пр. Касманаўтаў да вул. Брукеля з пуцеправодам над чыгункай у раёне Азёрскай шашы).

Сваё меркаванне адносна праекта выказаў гродзенскі краязнаўца Ігар Лапеха, адзін з аўтараў альтэрнатыўнай прапановы па развіцці транспартнай сістэмы Гродна:

— Дзякуй Сямёну Шапіру за тое, што ўзяўся за будаўніцтва малога транспартнага кальца. Спадзяюся, гэта развяжа транспартныя праблемы, але мы катэгарычна супраць будаўніцтва дублёра Траецкай. Гэта будзе вялікая транзітная магістраль па рэштках сярэднявечнага горада, магутны археалагічны пласт будзе знішчаны.

Гэта пагроза сінагозе, спакойным прагулкам турыстаў па гістарычным цэнтры, доступу да замкаў і цэлым археалагічным пластам (падмуркам царквы XII стагоддзя, мураваных вежаў часоў Вітаўта, драўлянага горада X–XII стагоддзяў), дасследаванні тут не праводзіліся.

Мы будзем пераконваць, што і без дублёра вуліцы Траецкай транспартная сістэма будзе працаваць.

А другое — вуліцы Кірава, Карла Маркса і Давыда Гарадзенскага папросту абавязаныя быць пешаходнымі. Гэта яшчэ магчыма зрабіць, а інакш гістарычны цэнтр горада развівацца не зможа.

**Паводле сайта «Твой стыль»**

---

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# МАЛАДЫЯ АКТЫВІСТЫ АБВЯСЦІЛІ ГАЛАДОЎКУ



**Генадзь КЕСНЕР**

**Актывісты грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» Павел Вінаградаў і Аляксандр Арцыбашаў 22 лютага абвясцілі галадоўку пратэсту наўпрост у зале суда Маскоўскага раёна Мінска.**

У гэты дзень суд прызнаў былога палітзняволенага Вінаградава вінаватым у парушэнні артыкула 23.34 Кодэкса аб адміністратыўных парушэннях (арганізацыя і ўдзел у несанкцыянаванай акцыі) за даволі крэатыўную імпрэзу «Игрушко митингуэ», якая 10 лютага адбылася каля будынку Мінскага гарвыканкаму на плошчы Незалежнасці.

Паўла Вінаградава прысудзілі да дзесяці сутак адміністратыўнага арышту, якія маладзён правядзе ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІП) на Акрэсціна. Вінаградаў заявіў у судзе, што супрацоўніка міліцыі, які выступаў на працэсе ў якасці сведкі і даваў паказанні супраць актывіста, ён бачыць толькі другі раз, упершыню гэта адбылося ў міліцэйскім пастарунку, куды Паўла даставілі адразу пасля затрымання напярэдадні. Вінаградаў сцвярджаў, што ніякага ўдзелу ў акцыі «цацачнага пратэсту» ён не прымаў. Нават на распаўсюджаных фотаздымках з акцыі Паўла Вінаградава няма.

Пасля агучвання судовага рашэння па справе Вінаградава актывіст кампаніі «Гавары праўду!» Аляксандр Арцыбашаў паспрабаваў аддаць асуджанаму перадачу, але хутка і самога Аляксандра затрымалі ў зале Маскоўскага суда. Арцыбашаву таксама інкрымінуюць удзел у згаданай акцыі «лялечнага пратэсту» (артыкул 23.34 КаАП). На знак пратэсту супраць затрымання і арышту Павел Вінаградаў і Аляксандр Арцыбашаў абвясцілі галадоўку.

Варта адзначыць, што затрыманне Паўла Вінаградава 21 лютага нагадвала кепскі трылер. Маладзевы актывіст накіроўваўся на сустрэчу, якая мелася адбыцца ў кавярні «Містраль» у раёне сталічнага стадыёна «Дынама», але там ён не з'явіўся. Ніхто не бачыў актывіста пасля 17-й гадзіны, калі той пакінуў офіс кампаніі «Гавары праўду!». Тэлефон Вінаградава быў недаступны.

Жонка нядаўняга палітвязня Святлана Вінаградава звярталася і ў міліцыю, і ў ізалятар на Акрэсціна, але ўцямнага адказу, куды падзеўся яе муж, не атрымала. Толькі ў палове на чацвёртую гадзіну раніцы стала вядома, што Павел затрыманы і знаходзіцца ў ЦІП на Акрэсціна, адкуль яго ў сераду даставілі ў суд.

Павел Вінаградаў, як і Аляксандр Арцыбашаў, уваходзіць у моладзевае крыло «Змена» грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!». За некалькі апошніх дзён актывісты «Змены» зладзілі ў беларускай сталіцы некалькі незвычайных акцыяў — ужо згаданы «цацачны пратэст», «хрэн вам ад прэзідэнта» з раздачай адпаведнага прадукту мінакам каля Камароўскага рынку, а таксама «страшны ШОС!» каля Дома ўраду на Плошчы Незалежнасці. Нагадаем, што за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 года ў Мінску Паўла Вінаградава прысудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі. У верасні 2011 года кіраўнік дзяржавы памілаваў прызнанага «Міжнароднай амністыяй» палітвязнем актывіста, хоць ніякіх прашэнняў на імя Аляксандра Лукашэнкі Павел Вінаградаў не падаваў.

---

АКЦЫЯ

# САЛІДАРНЫЯ З ІВАНАМ ШЫЛАМ

**21 лютага ў Катавіцах адбылася акцыя салідарнасці з адным з лідараў МФ, студэнтам мясцовага Універсітэту Сілезіі.**

У знак салідарнасці з Іванам прадстаўнікі парталу «Усходні карэспандэнт», бюро еўрадэпутата Марка Мігальскага і Незалежнага задзіночання студэнтаў арганізавалі акцыю насупраць рэктарату Універсітэту Сілезіі. На працягу 4 гадзінаў больш чым 200 студэнтаў падпісалі паштоўкі для Івана, якія будуць высланыя ў Беларусь. Удзельнікі акцыя мелі магчымасць таксама напісаць некалькі словаў на транспаранце, што будзе перададзены Івану пасля ягонага вяртання ў Катавіцы.

Кульмінацыяй акцыі стаў флэш-моб, у час якога студэнты сваімі белымі і чырвонымі балонікамі зрабілі нацыянальны сцяг Беларусі.

Нагадаем, што Іван Шыла быў арыштаваны 14 лютага каля офісу ПЭН-Цэнтру ў Мінску перад уручэннем прэміі «Люблю Беларусь».

---

БНР

# ПАДРЫХТОЎКА ДА ДНЯ ВОЛІ

**Генадзь КЕСНЕР**

**Пададзена заяўка на правядзенне 25 сакавіка ў Мінску шэсця і мітынгу, прысвечаных 94-й гадавіне абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Заяўнікамі акцыі сталі кіраўнік Рады беларускай інтэлігенцыі рэжысёр Уладзімір Колас, намеснік старшыні мастацкай суполкі «Пагоня» Аляксей Марачкін і сябра аргкамітэту па стварэнню партыі «Беларускі рух» Віктар Івашкевіч.

Як паведаміў намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў, сваіх прадстаўнікоў у аргкамітэт вылучылі Партыя БНФ, Аб'яднаная грамадзянская партыя, Рух «За свабоду», Грамадзянская кампанія «Гавары праўду!», Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», аргкамітэты па стварэнню партыяў «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і «Беларускі рух», іншых дэмакратычных арганізацый Беларусі.

«Мы таксама робім прапанову ўладам усвядоміць важнасць гэтага свята, ушанаваць належным чынам гэтую дату і, як крок да грамадзянскага прымірэння, вызваліць да гэтай даты ўсіх палітычных зняволеных», — заявіў Уладзімір Колас. Аргкамітэт таксама прапануе «сумленную і прынцыповую дыскусію, абмеркаванне падзей, якія адбыліся ўвесну 1918 года, з тым, каб менавіта ў спрэчках, у дыскусіях шукаць ісціну». З гэтай мэтай будзе зладжаны «круглы стол», у якім прапануюць узяць удзел і прадстаўнікам улады. «Але адбыцца гэта можа толькі пасля таго, як будуць вызвалены ўсе палітычныя зняволеныя», — падкрэсліў Уладзімір Колас.

Сябры аргкамітэту, па словах ягонага старшыні, плануюць таксама актыўна весці асветніцкую працу, выступаць з публікацыямі ў СМІ. Будзе праведзены ўрачысты сход, а таксама традыцыйныя вулічныя акцыі. Шэсце, паводле заяўкі, плануецца 25 сакавіка шэсця ад будынку прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук да Плошчы Бангалор (ад 13.30 да 14.30). Мітынг ў Парку дружбы народаў (ад 14.30 да 17.00). «Мы таксама плануем правесці акцыю «Падары чыноўніку кнігу». Усе нашы кантакты з чыноўнікамі будуць суправаджацца такім падарункам — кніга па гісторыі Беларусі, фільм па гісторыі Беларусі, таму што тая сітуацыя, у якой мы знаходзімся, гэта ёсць вынік браку ведаў па сапраўднай гісторыі нашай краіны», — падсумаваў Уладзімір Колас.

У рамках адзначэння ўгодкаў БНР будзе зладжана і мастацкая выстава, за правядзенне якой адказны Аляксей Марачкін. Аргкамітэт Дня Волі прыняў зварот да грамадзян Беларусі, які на прэс-канферэнцыі агучыў Віктар Івашкевіч. Як адзначаецца ў дакуменце, не ўсе ў Беларусі пасля набыцця ёй незалежнасці ў 1991 годзе аказаліся гатовыя да свабоды, да адказнасці за сябе і сваю краіну.

На пытанне, каго б арганізатары не жадалі бачыць на шэсці і мітынгу 25 сакавіка, адказ быў такі: правакатараў, як у форме, так і без. «А таксама гэтых жахлівых вялікіх цёмна-зялёных машын з кратамі», — дадаў Аляксей Марачкін.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЗАВЯДЗЁНКА

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Здаецца, Беларусь сапраўды засталася тым «пунктам стабільнасці», якая ўзнікае толькі на могілках. Ужо колькі разоў беларускі прэзідэнт абяцае і патрабуе — і ўсё адно і тое самае.**

«Перад усімі намі, усёй краінай сёлета, да канца пяцігодкі, будуць стаяць вельмі сур'ёзныя задачы, якія не выканаць мы проста не можам», — заявіў Аляксандр Лукашэнка 21 лютага, звяртаючыся да прызначаных ім кіраўнікоў мясцовых выканаўчых органаў улады.

«Я сказаў аднойчы, што на працягу года, максімум паўтара, мы не проста павінны выйсці на дакрызісны ў фінансавых адносінах узровень, а перавысіць яго. Не выйсці мы проста не маем права, калі мы пазіцыянуем сябе як самадастатковая краіна, якая штосьці можа», — цытуе Лукашэнку прэс-служба прэзідэнта.

«Што такое сярэдняя зарплата ў 500 долараў? Гэта зусім нізкі ўзровень, які мы павінны пераадолець. І гэта задача ўсіх, — падкрэсліў беларускі кіраўнік. — Я гэта вам кажу таму, што мы зверху пачнём мацней, кажучы па-народнаму, ціснуць на мясцовыя органы ўлады».

Паводле слоў Лукашэнкі, мясцовай вертыкалі трэба навучыцца зарабляць грошы, улічваючы мясцовыя ўмовы. «Грошы трэба шукаць усюды, зарабляць усюды, на чым толькі можна. Тады мы можам значна перавысіць нават гэты ўзровень па даходах насельніцтва. Вы павінны ў сябе мець адзін план — выхаду на гэты ўзровень», — заявіў ён.

Што ж, такія заявы, кшталту калійных угнаенняў «па ложцы прадаваць», мы чулі і ў дакрызісны, і ў крызісны, і зараз — у паслякрызісны перыяд. Што з гэтага змянілася? Нічога.

Але Лукашэнка сам не стамляецца шукаць новыя рынкі збыту. Беларусь пачынае асвойваць афрыканскі кантынент, заявіў 21 лютага Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся да прызначанага паслом у Нігерыі Вячаслава Бяскостага.

«Вы ведаеце, што ў нас там сяк-так. Нават у краінах, дзе ў нас ёсць пасольствы, мы не вельмі разгарнуліся, але пачынаем вельмі сур'ёзна працаваць. Там цікавасць да беларусаў сур'ёзная. Мы ўжо празандавалі глебу. Там непачаты край работы, і мы шукаем апорныя пункты. Сёння нам патрэбная апора ў выглядзе пасольства ў Нігерыі, — цытуе Лукашэнку яго прэс-служба. — І вам трэба быць гатовым да пашырэння сваёй дзейнасці. Калі ў Нігерыі мы будзем ажыццяўляць два-тры праекты, гэтага для пачатку дастаткова. Але вы павінны будзеце бачыць і суседнія дзяржавы, дзе мы таксама можам мець пару сур'ёзных праектаў».

«Я хачу вам больш сказаць. Я пайду нават на тое, каб дзесьці скараціць нашу прысутнасць у тых рэгіёнах, якія не вельмі хочуць з намі супрацоўнічаць, і перакінуць нашы асноўныя дыпламатычныя намаганні на тыя рэгіёны, дзе нас чакаюць і дзе мы можам атрымаць аддачу ад гэтага супрацоўніцтва. І вы — адзін з першых, хто накіроўваецца на гэтую працу», — адзначыў беларускі кіраўнік.

Што ж, не дзіўна. Фармальна, Нігерыя з'яўляецца шматпартыйнай рэспублікай, але ёсць таксама меркаванне, што ў сапраўднасці Народная дэмакратычная партыя кантралюе амаль усе рычагі ўлады.

У Нігерыі двухпалатны Нацыянальны сход (Нацыянальная асамблея). Верхняя палата — Сенат (109 месцаў). Сенатары абіраюцца па мажарытарнай сістэме адноснай большасці ў 36 трохмандатных і адным аднамандатных акругах. Старшыня Сената абіраецца непрамым галасаваннем з сенатараў.

Ніжняя палата — Палата прадстаўнікоў (360 месцаў). Дэпутаты абіраюцца па мажарытарнай сістэме адноснай большасці.

73 месца ў Сенаце і 213 у Палаце прадстаўнікоў знаходзяцца пад кантролем прапрэзідэнцкай Народнай дэмакратычнай партыі. Ва Усенароднай партыі — 28 і 95 месцаў адпаведна.

Багатая нафтай Нігерыя доўгі час пакутавала ад палітычнай нестабільнасці, карупцыі, неразвітай інфраструктуры і дрэннага кіравання эканомікай. Ранейшыя ваенныя кіраўнікі Нігерыі не змаглі дыверсіфікаваць эканоміку, каб пазбавіць краіну ад яе поўнай залежнасці ад нафтавага сектара, які дае 95% валютных даходаў і забяспечвае 80% прыбытковай часткі дзяржаўнага бюджэту. У апошнія некалькі гадоў урад пачаў праводзіць рэформы, у прыватнасці прыватызацыю найбуйнейшых нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў краіны, было адменена рэгуляванне ўладамі цэн на нафтапрадукты. Урад таксама заахвочвае развіццё інфраструктуры ў краіне ў прыватным сектарам.

ВУП на душу насельніцтва ў 2009 годзе — 2,4 тыс. дал (177-е месца ў свеце). Ніжэй узроўню беднасці — 70% насельніцтва. У сельскай гаспадарцы занята 70% працуючых, у прамысловасці — 10%, у сферы абслугоўвання — 20%.

Нішто не нагадвае? Прыкладам, Беларусь па палітычнаму ладу, і Венесуэлу — па нафтаваму? Быццам бы, з правалам экспарту нафты з Венесуэлы мы таксама не правалімся з Нігерыяй?

Сапраўды, гісторыя нічому не навучае тых, хто імкнецца навучацца не на сваіх памылках, а на памылках іншых.

Між тым, беларуская ўлада не збіраецца рэфармавацца. Ні пад якім ціскам, ні пад якімі ўмовамі. Фактычна пра гэта заявіў Лукашэнка 21 лютага, звяртаючыся да Сяргея Кандрацьева, якога прызначыў суддзёй і намеснікам старшыні Вярхоўнага суда. «Малайцы людзі, працуюць суддзі нармальна. Яны не схіліліся перад тым, што хтосьці там уводзіць супраць іх санкцыі, — заявіў Лукашэнка. — Гэта наогул абсурд — супраць суддзі ўводзіць санкцыі. Суддзя — нявольнік перад законам. Якія могуць быць санкцыі супраць суддзі? Але тым не менш нашы суддзі ў гэтай сітуацыі проста малайцы. Яны ні перад кім не схіляюцца, робяць сваю справу. Таму ў мяне асаблівых прэтэнзій да судзейскага корпусу няма, і вы павінны ведаць, што я вельмі беражліва ахоўваю нашу судовую сістэму ад усялякага ўмяшання ў яе работу. І ламаць судовую сістэму, якая існуе ў Беларусі, недапушчальна».

У прынцыпе, Лукашэнка забыўся на тое, што ніхто і не прапануе змяняць судовую сістэму. Змяненню падлягае, па меркаванні праваабаронцаў, толькі правапрымяняльная практыка і становішча суддзяў. А менавіта тое, што ў нас няма незалежнай судовай сістэмы, што суддзі прызначаюцца выканаўчай уладай, і шмат што іншае. Прынамсі, Лукашэнка пра гэта ведае, бо праваабаронцы яму на гэтым плеш праелі.

Можа, надышоў час спыніць «завядзёнку», і паглядзець на гэта новым позіркам?

Але А. Лукашэнка сам не стамляецца шукаць новыя рынкі збыту. Беларусь пачынае асвойваць афрыканскі кантынент, заявіў 21 лютага Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся да прызначанага паслом у Нігерыі Вячаслава Бяскостага

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ДЗМІТРЫЙ УС



Кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Дзмітрый Ус пасля паўторнай адмовы Мінгарвыканкама ў правядзенні сходу ініцыятыўнай групы па змене выбарчага заканадаўства мае намер падаць заяўку ў трэці раз. Дзмітрый Ус нагадаў, што асноўная мэта аргкамітэта — «змена выбарчай сістэмы, якая абараніла б простых людзей ад падману ўладаў падчас выбараў». Прапанаваныя папраўкі ў Выбарчы кодэкс дазволілі б цалкам кантраляваць працэс галасавання і падліку галасоў, піша БелаПАН.

Разам з тым экс-кандыдат у прэзідэнты не спадзяецца «на лаяльнасць уладаў, якія раптам зацікавяцца правядзеннем дэмакратычных выбараў». «У нас ёсць два шляхі пераходу ўлады — рэвалюцыйны і дэмакратычны. У дэмакратычным улада не зацікаўлена», — падкрэсліў Ус.

На яго думку, за месяц да выбараў у Палату прадстаўнікоў адміністрацыі раённых выканкамаў Беларусі прадставяць сваіх кандыдатаў у дэпутаты на зацвярджэнне прэзідэнту. «Тых, хто не жадае ўдзельнічаць у гэтым шоў, я запрашаю ў нашу кааліцыю», — заявіў палітык.

### СЯРГЕЙ ЛЕМЯШЭЎСКІ



У сілавых структурах дзяржавы працягваюцца кадравыя перастаноўкі. Генерал-маёр Сяргей Лемяшэўскі — камандуючы Ваенна-паветранымі сіламі і войскамі супрацьпаветранай абароны — адпраўлены ў адстаўку «за правіны, што дыскрэдытуюць званне вайскоўца, і звольнены з ваеннай службы ў запас у сувязі з сістэматычным невыкананнем ім умоў кантракту». Сяргей Лемяшэўскі займаў пасаду камандуючага ВПС і войскамі СПА ад 6 мая 2011 года. На працягу амаль чатырох месяцаў ён выконваў абавязкі камандуючага гэтым відам Узброеных сіл пасля таго, як пад крымінальны пераслед патрапіў яго папярэднік генерал-маёр Ігар Азаронак.

Ігар Азаронак, да слова, быў асуджаны да 9 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры. Калі суддзя пакідаў залю пасяджэнняў, Азаронак гучна прамовіў: «Марыянеткі, будзьце вы праклятыя!»

Новым камандуючым ваенна-паветарных сілаў і супрацьпаветранай абароны прызначаны генерал-маёр Дзмітрый Пахмелкін.

З сілавых структур нядаўна былі звольнены генерал-маёр міліцыі Сяргей Гурэеў (працаваў намеснікам міністра ўнутраных спраў — начальнікам папярэдняга расследавання), намеснікі кіраўніка МУС Алег Пякарскі і Яўген Полудзень былі звольненыя «ў сувязі з учыненнем правіны, што дыскрэдытуюць званне супрацоўніка органаў унутраных спраў». Яўген Полудзень цяпер у СІЗА па абвінавачванні ў злоўжыванні ўладай. Генерал-маёр міліцыі Леанід Фармагей звольнены з органаў унутраных спраў у запас з-за хваробы.

### ЮРЫЙ ЖАДОБІН



«Знешнія фактары прымушаюць нас звяртаць увагу на ваенны складальнік бяспекі дзяржавы, і 2011 год, і 2012 год не сталі выключэннем у гэтым пытанні», — заявіў міністр абароны Беларусі генерал-лейтэнант Юрый Жадобін. І патлумачыў хто і што можа пагражаць спакою сінявокай.

«На жаль, свет не становіцца спакайнейшым. Гэта і падзеі ў Паўночнай Афрыцы, і тое, што цяпер адбываецца вакол Сірыі, вакол Ірана — нагнятанне абстаноўкі, што адбываецца ў краінах ЕС, звязанае з эканамічнымі і фінансавымі ўзрушэннямі. Плюс да гэтага мы бачым эскалацыю напружанасці вакол нашай дзяржавы, нягледзячы на тое, што мы ні да каго не маем тэрытарыяльных прэтэнзій, нікога не вучым жыць, не ўмешваемся ва ўнутраныя справы нашых суседзяў, не выстаўляем ім ні чатыры, ні дванаццаць умоў. Але, на жаль, усе чамусьці лічаць неабходным нас навучыць жыць, нам выстаўляць тыя ці іншыя ўмовы. Гэта прымушае трымаць порах сухім і ваенна-палітычнаму кіраўніцтву рабіць усё для ўмацавання абараназдольнасці дзяржавы, забеспячэння нацыянальнай бяспекі, у тым ліку і ваеннай», — цытуе словы Жадобіна БелаПАН. Але хацелася б параіць генералу больш пазітыўна думаць і менш глядзець апакаліптычных перадач па тэлебачанню.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ГАСПАДАРКІ БЕЗ ГАСПАДАРОЎ

Сяргей НІКАЛЮК

**Калі бюракратыя распрацоўвае і ажыццяўляе сацыяльна-эканамічныя праекты, яна кіруецца выключна асабістымі інтарэсамі, галоўным з якіх з'яўляецца павелічэнне кіруемасці грамадства.**






У маладога пакалення беларускіх кароў — праблема. Мілкі з цяжкасцю адаптуюцца да сучасных кароўнікаў, упарадкаванне якіх падаткаплатнікам толькі летась абышлося ў 2,6 трыльёна рублёў. Але не варта адчайвацца. *«Необходимо время на адаптацию коров к новым условиям,* — тлумачыць першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі Надзея Каткавец. — *Пройдет не один месяц, прежде чем будет полностью задействован потенциал молодых животных. Не сомневайтесь, эффективность и отдача однозначно будут».*

Адаптацыя (ад лацінскага *adaptation* — «прыстасаванне») бывае фізіялагічная і сацыяльная. Пад першай разумеюць сукупнасць рэакцый, якія забяспечваюць прыстасаванне арганізма (ці яго органа) да змены навакольных умоў, пад другой — працэс прыстасавання асобы ці сацыяльнай групы да зменлівага сацыяльнага асяроддзя. Які тып адаптацыі мае на ўвазе намеснік міністра? Адказ на гэта пытанне невідавочны. Каровы — жывёлы стадныя, г.зн. сацыяльныя, таму другі тып адаптацыі ім не чужы.

У сваю чаргу, сацыяльная адаптацыя падзяляецца на пазітыўную (актыўную) і негатыўную. Мяркуючы па зніжэнні вытворчасці малака ў мінулым годзе на 1,2 працэнта, беларускія каровы адрэагавалі на змены ўмоў утрымання негатыўна, пасарамаціўшы тым самым чыноўнікаў з Мінсельгасу, якія запланавалі павелічэнне надояў малака на 15 працэнтаў. Нагадаю, што і 2010 год асаблівай радасці не прынёс: 0,7 працэнта прыросту — гэта не нагода радавацца.

## Якое яно, абноўленае аблічча?

У 2011 годзе былі пабудаваныя 87 новых фермаў, яшчэ 180 рэканструяваныя. Усяго ж, паводле распараджэння «адзінага палітыка» (АП), неабходна абсталяваць сучаснымі тэхналогіямі каля 1300 фермаў. Беларускім кіраўнікам, з якіх шмат хто прайшоў яшчэ савецкую школу, да падобных маштабаў не цяжка прызвычайвацца. Цэнтралізаваная эканоміка не здольная займацца драбязой. Кожны праект унікальны, але з вяршыні ўладнай «вертыкалі» ўнікальнасць дробных праектаў не заўважная і ўжо хаця б таму не паддаецца цэнтралізаванаму кантролю.

Сацыялізм (цэнтралізаваная эканоміка), як вучыў правадыр сусветнага пралетарыяту, — гэта ўлік і кантроль. Чыноўнік — галоўны суб'ект такой эканомікі. Чыноўнік — чалавек рацыянальны, таму бярэцца за рэалізацыю толькі тых праектаў, якія ў стане кантраляваць. Адсюль максімальныя стандартызацыя і спрашчэнне, што лёгка адсоўваюць эканамічную эфектыўнасць на задні план. Бюракрат думае справаздачамі, таму ў выбудаваным па бюракратычных лякалах свеце заўсёды дакладна вядома, колькі фермаў мадэрнізавана, колькі тон кармоў нарыхтавана і колькі гэта складае працэнтаў да мінулага года. Вось толькі каровы даіцца не спяшаюцца…

Каштоўнасць эфектыўнасці кантролю для чыноўнікаў вышэй за каштоўнасць эканамічнай эфектыўнасці. А эфектыўны кантроль — гэта кантроль, пры якім ухіленне *«станет таким неизмеримо трудным, таким редчайшим исключением, будет сопровождаться, вероятно, таким быстрым и серьезным наказанием <…>, что необходимость соблюдать несложные, основные правила всякого человеческого общежития очень скоро станет привычкой»* (Ленін). Лепшага гімну бюракратычнай логіцы, мабыць, і не знойдзеш.

Ідэальны выканаўца для бюракрата — гэта выканаўца, чые дзеянні даведзеныя да аўтаматызму. Зразумела, што выканаўца-аўтамат мае патрэбу не толькі ў кантролі, але і ў дэталёва распісаным плане, спушчаным зверху. Вось як гэту ж думку выказаў АП, выступаючы перад дэлегатамі VI з'езду ФПБ у кастрычніку 2010 года: *«Но еще раз подчеркну, что я хотел показать: в сельском хозяйстве, в этом огромном секторе, мы четко определились — что производить, сколько производить, где производить, куда везти, нести и как продавать. Все прописано и организовано. Значит, проблема снята. Мы показали, какие фермы будущего. И это уже не просто единичные фермы, а сотни ферм, которые дают сегодня прибавку молока и мяса».*

Тут варта нагадаць, што даклад быў апублікаваны пад загалоўкам «Наша мэта — стварыць абноўленае аблічча Беларусі». Такой вось планавай і ўпарадкаванай бачыцца абноўленая Беларусь з вокнаў кабінетаў на Карла Маркса, 38.

## Пра перакіслы сілас

За апошнія гады спічрайтары неаднаразова ўстаўлялі ў даклады АП цытаты Канфуцыя. Вазьму з іх прыклад: «Лепшае ўгнаенне на любой ферме — сляды ног уладальніка». З гэтай мудрасцю пагодзіцца і любы ўладальнік дачнага ўчастку. Аднак круг абавязкаў уладальніка не абмяжоўваецца заняссеннем угнаенняў па Канфуцыю. Ён значна шырэйшы. Уладальнік — гэта суб'ект эканомікі, які самастойна вырашае, *«что производить, сколько производить, где производить, куда везти, нести и как продавать».* Такім суб'ектам на беларускіх фермах з'яўляецца чыноўнік, але сляды яго ног не часта можна сустрэць сярод каровіных аладак у памяшканнях малочных фермаў.

У выніку мы маем эканоміку, якае не вытрымлівае, па ацэнцы прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча, «ніякай крытыкі». У папярэдній «Азбуцы паліталогіі» я ўжо прыводзіў невясёлую статыстыку: пры чаканай у 2012 годзе выручцы ў 47 трыльёнаў рублёў, запазычанасць па абавязках сельгаспрадпрыемстваў на 1 студзеня склала 60 трыльёнаў. Іншымі словамі, тое, што выпадковы назіральнік прымае за сельскагаспадарчую вытворчасць, на самай справе з'яўляецца сельскагаспадарчым спажываннем. Так працуе цэлая галіна народнай гаспадаркі з яе сотнямі фермаў будучыні, якія нібы ўжо сёння павялічваюць вытворчасць малака і мяса.

Але апусцімся з макраўзроўню з яго трыльёнамі рублёў на ўзровень рэальных фермаў, дзе маладым жывёлам выпала шчасце адаптоўвацца да новых умоў. Каб не адхіліцца ад карціны афіцыйнай рэальнасці ні на крок, я звярнуся па дапамогу да прэм'ер-міністра: «За год мы страцілі 381 тысячу кароў, ці 28,7 працэнта статку. Такія лічбы недапушчальныя, асабліва калі пагалоўе скацілы часцяком закупляецца па імпарце, на што выдаткоўваюцца значныя сродкі. У шматлікіх выпадках да страты пагалоўя вядзе безгаспадарлівае стаўленне з боку гаспадарак. Шмат хто думае: гэта не маё, калгаснае, прапала карова — і бог з ёй, аднак смерць каровы павінна быць трагедыяй для гаспадаркі».

Павінна, але не стала. Прычына такой неадпаведнасці асабіста мне бачыцца ў недапрацоўцы ўраду. Калі прымаць да ўвагі маштаб з'явы, даўно ўжо варта было падрыхтаваць цыркуляр, які абавязвае працаўнікоў фермаў успрымаць кожны асобны факт смерці буйной рагатай жывёлы як трагедыю. На раённую і абласную «вертыкаль» неабходна ўскласці ўлік такіх рэакцый. Знойдзецца праца і для яе ідэалагічнага сегменту: ён зоймецца распрацоўкай і давядзеннем адпаведнага паказчыку да выканаўцаў, а таксама арганізацыяй ініцыятыў па яго зніжэнні.

Ну а пакуль мая прапанова не прынятая да выканання, прэм'ер-міністру даводзіцца тлумачыць чальцам прэзідыума Саўміна: «Якасны корм дазваляе атрымліваць якаснае малако. А ў нас кароў кормяць сіласам, часта перакіслым. Здароўя ў жывёлы няма, пакутуе эфектыўнасць». Ці дапамогуць такія прафесійныя развагі даяркам, чыя зарплата, як вядома, дасягае ў Беларусі 900 долараў у месяц, ці ў мадэрнізаваныя па апошнім слове тэхнікі скотамесцы будзе па-ранейшаму паступаць перакіслы сілас — сказаць цяжка. Але ў любым выпадку канчатковы вынік вызначыць юрыдычны статус слядоў ног на фермах.

## Чые інтарэсы выяўляе лідар нацыі?

На мінулым тыдні Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ азнаёміў грамадскасць з ацэнкамі асноўных падзей мінулага года. Сумны лёс 381 тысячы кароў, якія заўчасна адкінулі капыты за такі кароткі тэрмін, увагі аналітыкаў у пагонах не прыцягнуў. Відавочна, гэты факт яны палічылі малазначным у параўнанні з той беспрэцэдэнтнай дыскрэдытацыяй «органаў кіравання дзяржавай, у першую чаргу — інстытутаў прэзідэнта, КДБ і МУС», арганізаванай «пятай калонай», якая паразітуе на часовых цяжкасцях.

У кожнага сваё бачанне праблем і сваё іх ранжыраванне па ступені важнасці. Паводле планаў, прынятых на IV Усебеларускім народным сходзе, у бягучай пяцігодцы ўсе мы наблізімся да еўрапейскага ўзроўню жыцця. Паводле Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ, вельмі важна пры гэтым «не дапусціць спаўзання краіны ў зону палітычнага і эканамічнага хаосу». У мінулым годзе падобнага сцэнару атрымалася пазбегнуць за кошт сумесных дзеянняў усіх дзяржорганаў, згуртаваных «палітычнай воляй прэзідэнта краіны». Дзякуючы, даглядчыкі жывёлы і мільёны прадстаўнікоў іншых масавых прафесій да стабілізацыі эканомікі дачынення не мелі.

Дайце бюракратам волю, і яны тут жа пачнуць ажыццяўляць мегапраекты, кошт якіх будзе вымярацца не толькі ў грашовых знаках, але і ў чалавечых жыццях. «Вялікі скачок у Кітаі, калектывізацыя ў Расіі і прымусовае збіранне людзей у вёскі ў Танзаніі, Мазамбіку і Эфіопіі займаюць асаблівае месца сярод вялікіх чалавечых трагедый XX стагоддзя па колькасці загубленых і непапраўна разбураных жыццяў», — піша ў сваёй кнізе «Добрымі намерамі дзяржавы» сацыёлаг Джэймс Скот. Усе гэтыя праекты ставілі сваёй галоўнай мэтай павелічэнне «празрыстасці» грамадства для дзяржавы, без чаго немагчыма цэнтралізаванае кіраванне.

Законы функцыянавання бюракратыі агульныя для ўсіх тыпаў палітычных сістэм. Прадстаўленыя самі сабе, бюракраты пачынаюць памнажацца, падобна ракавым клеткам, выдаючы пры гэтым свае ўласныя інтарэсы за агульнанацыянальныя. Тым не менш, кваліфікаваная, рацыянальная бюракратыя ў прыродзе існуе, але толькі пры ўмове знешняга кантролю з боку грамадства, інтарэсы якога фармуе і выяўляе не лідар нацыі, а канкурэнтная палітычная сістэма.

У гэтым сэнсе сам факт існавання ў Беларусі АП азначае, па-першае, бескантрольнасць бюракратыі; па-другое — немагчымасць вызначэння нацыянальных інтарэсаў, і, адпаведна, немагчымасць правядзення асэнсаванай палітыкі іх рэалізацыі.

СУД

# ГАТОВЫ ПАМЕРЦІ Ў ІМЯ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

**У Віцебску 21 лютага пачалі судзіць Сяргея Каваленку. Яму пагражае да трох гадоў зняволення. Ад пачатку суда ён абвясціў сухую галадоўку. Справу разглядае суддзя Алена Жук.**



Актывіст КХП-БНФ Сяргей Каваленка абвінавачваецца паводле артыкула 415 Крымінальнага кодэксу «ўхіленне ад адбыцця пакарання». Крымінальна-выканаўчая інспекцыя Першамайскага раёна Віцебска мяркуе, што актывіст парушыў рэжым адбыцця пакарання — «хатняй хіміі», да якой быў асуджаны за вывешванне ў Віцебску бел-чырвона-белага сцягу (гістарычны і нацыянальны сімвал Беларусі).

Падчас першага судовага пасяджэння Сяргея Каваленку накіравалі ў шпіталь СІЗА. У другі дзень суда жонка Сяргея Алена Каваленка з 7-месячнай дачкой на руках дастала бела-чырвона-белы сцяг у залі суда. Супрацоўнікі міліцыі спрабавалі выдаліць яе з памяшкання, аднак заступіліся людзі. У выніку судовае пасяджэнне перанеслі ў іншую залю, куды ўжо не пусцілі сваякоў і журналістаў. Маці пад зачыненымі дзвярыма галасіла: «Дайце мне паглядзець на сына! Ён памрэ, а я не пабачу». З залі ёй адказалі: «Будзем выводзіць яго, тады і пабачыце». Сяргей Каваленка ў часе судовага працэсу гаварыў, што кепска чуе і бачыць, што яму блага, а перад вачыма кропкі. Калі Каваленку выводзілі з залі, ён паспеў крыкнуць прысутным: «Рабіце акцыі пад бел-чырвона-белымі сцягамі!»

Цягам двух дзён суд так і не пачаў разглядаць справу — усе падзеі зводзяцца да супрацьстаяння міліцыі сваякам, да выклікання хуткай дапамогі, медаглядаў Сяргея.

На судовых пасяджэннях прысутнічаў праваабаронца Павел Левінаў, ён падкрэслівае: «Суда няма!»

«У мяне такое ўражанне, што я на міліцэйскім палігоне, дзе ідуць нейкія вучэнні. Калі падыходжу да будынку, то побач міліцыя, у самім судзе міліцыя. Па будынку і двару суда людзі ў форме вольна гуляюць. Міліцыянты камандуюць суддзі, у якой залі праводзіць разгляд справы. Ім дазволена здымаць усё і ўсіх, а іншых людзей у залю ні з фотаапаратамі ў руках, ні з ноўтбукамі не пускаюць. Прыязджае хуткая, і супрацоўнікі міліцыі вырашаюць, што дапамога Каваленку не трэба. І толькі калі ўмешваецца суддзя, то яны вымушаныя дапусціць дактароў», — дзеліцца жахлівымі ўражаннямі ад працэсу праваабаронца Левінаў.

У часе суда Сяргей Каваленка як рэцыдывіст сядзіць у клетцы, вакол яго стаяць шэсць-восем міліцыянтаў у форме, яшчэ шэсць чалавек у цывільным сядзяць у залі. «Вы ўяўляеце, якую небяспеку ён уяўляе для грамадства?!» — іранізуе Павел Левінаў. Па словах праваабаронцы, за два дні пасяджэнняў суддзя ні разу не спытала, ці не выклікаць хуткую дапамогу абвінавачваемаму, гэта рабілі родныя. Дзяржаўны абвінаваўца ні разу не засумняваўся ў стане здароўя Каваленкі, хаця той ад пачатку суда трымае сухую галадоўку. «Яны ж, наадварот, робяць высновы, што ён можа адэкватна ўспрымаць рэчаіснасць. Я ведаў яго да галадоўкі і бачу цяпер яго стан. Ён крытычны», — гаворыць Павел Левінаў.

Праваабаронца падаў тры заявы з просьбай змяніць меру стрымання падсуднаму на больш мяккую, каб ён мог пачаць выходзіць з галадоўкі. Але адказу не было.

«Я не разумею: суддзя Жук, маці, як яна ноччу спіць, як яна есць? Мне б хацелася ў гэта зазірнуць. Ладна, супрацоўнікі міліцыі, якія прывыклі выконваць загады, а не думаць. Але чаму яна так робіць?» — пытанні ў пустэчу.

Па словах Левінава, нягледзячы на свой стан здароўя, Каваленка кіруе працэсам і суддзёй. Ён у рамках заканадаўства не дае пачаць разгляд справы. Але чым гэта скончыцца і на колькі хопіць здароўя ў актывіста — цяпер ніхто адказаць не можа.

Левінаў распавёў, што ў Віцебску гэтымі днямі ладзяцца акцыі па вывешванню нацыянальнага сцяга, што фактычна прызнана ў Беларусі злачынствам. «Ён можа пайсці да канца і ахвяраваць сабой. Я не разумею, чаму суддзя Жук гэта не ўсведамляе. Як яна будзе жыць у гэтым горадзе, калі Каваленка памрэ?» — зноў задае пытанні ў пустэчу праваабаронца.

Ці ёсць беларусам справа да чалавека, які гатовы памерці ў імя справядлівасці і гістарычнага сімвала Беларусі? — такое ж пытанне без адказу.

БІЗНЭС

# СПАДЗЕВЫ НА АДЭКВАТНАСЦЬ УЛАДЫ

**У прадстаўнікоў бізнэсу Беларусі мноства прэтэнзій да заканадаўства. І нельга сказаць, што дробныя ды сярэднія бізнэсоўцы нічога не робяць. Маршы ладзяць, у экспертных камісіях удзельнічаюць, ацэнкі законапраектам выносяць, і нават у турмах сядзяць за ініцыятыўнасць у змене заканадаўства. Сёлета ў Палату прадстаўнікоў будзе чарговы набор парламентарыяў. Ці гараць жаданнем прадстаўнікі бізнэсу патрапіць у заканатворцы, высвятляла Вольга Хвоін.**

Сябры буйной і хіба што найбольш вядомай у Мінску прафесійнай асацыяцыі — Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў (МССПіР) — па словах яе кіраўніка Уладзіміра Карагіна, у парламентарыі не рвуцца да таго часу, «пакуль не будзе рэформы выбарчай сістэмы, пакуль мы будзем і далей адставаць у гэтым пытанні ад той жа Расіі, Еўропы, у нас і далей кожны будзе прадстаўляць выключна сам сябе і абараняць толькі ўласныя інтарэсы». Карагін на прэс-канферэнцыі нагадаў пра небяспеку, што тоіць у сабе спроба патрапіць у палітыку ў Беларусі. «Дзе сёння ўсе тыя прадпрымальнікі, якія калісьці сталі парламентарыямі? Памятаеце, Дзялендзік быў? Дзе сёння ён? (Уладзімір Дзялендзік — заснавальнік і гендырэктар УЧП «Дарыда».) Дзе ўсе яны? Яны згубілі свой бізнэс, у парламенце ніякім чынам не прадстаўлялі інтарэсы бізнэссупольнасці і сталі чыноўнікамі, якія ў 09:00 павінны прыходзіць на працу, адпрошвацца, калі трэба кудысьці з'ехаць. То бок, у іх была поўная страта дзелавой ініцыятывы. Добра яшчэ, што не страта твару і асобы», — заўважыў Уладзімір Карагін.

Віцэ-старшыня МССПіР Віктар Маргелаў пацвердзіў, што рызыкі, якім падвяргае сябе бізнэсмэн, калі ідзе ў дэпутаты, не сувымерныя з атрыманай выгадай. «Удзел у парламенцкай гонцы нясе вялікую рызыку для бізнэсу — яго можна проста страціць або наогул сесці ў турму. Шанцы сумленна выйграць выбары роўныя нулю. І нават калі вы ў гэты парламент патрапілі, шанцы рэалізаваць свае ініцыятывы і абараніць інтарэсы дзелавой супольнасці невысокія», — растлумачыў Маргелаў.

Уладзімір Карагін нагадаў, што цяпер цэнтр заканатворчасці знаходзіцца па-за парламентам. З чатырох тысяч нарматыўных актаў, якія штогод прымаюцца ў Беларусі, толькі 100 прымаецца парламентам.




Кіраўнік Бізнэс-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў ім. прафесара Куняўскага Георгій Бадзей — чалавек у сваіх колах паважаны і з досведам — да пытання, ці будуць сябры згаданай арганізацыі вылучацца ў кандыдаты ў парламентарыі, выказаўся больш чым стрымана. «Не будуць, мы не палітычная арганізацыя, у нас іншае кола зацікаўленасцяў. І ўвогуле, па закону нашая арганізацыі не мае права вылучаць кандыдатаў. Калі ж нехта захоча самастойна балатавацца і звернецца да нас за падтрымкай, то мы дапаможам», — дыпламатычна патлумачыў Георгій Бадзей. На пытанне, ці займаецца Бізнэс-саюз адстойваннем сваіх правоў, лабіраваннем інтарэсаў на вышэйшым узроўні, Георгій Пятровіч адказаў не менш сцісла: «Гэтым мы займаемся штодзённа, у нас праводзіцца экспертысы законапраектаў, нашы прадстаўнікі прымаюць удзел у рабоце розных камісій». Чаму кіраўнік саюза, што стварыўся ў 1990 годзе, добра арыентуецца ва ўсіх этапах развіцця айчыннага бізнэсу, аднак скептычна ставіцца да магчымасцяў «палаткі»? Відаць, усё тлумачыцца вялікім досведам.

Актывіст прадпрымальніцкай ініцыятывы «За свабоднае развіццё прадпрымальніцтва» Алег Шабетнік з Рэчыцы распавёў, што цікаўнасць у мясцовых бізнэсоўцаў да парламенцкай кампаніі ёсць, але там прадпрымальнікі свае дзеянні пакуль што плануюць з аглядкай на палітычную апазіцыю. «Пакуль не зразумела, да чаго дамовілася «кааліцыя шасці», паглядзім, што будзе далей. Трэба знайсці агульную мову наконт варыянту зняць кандыдатаў перад галасаваннем, але жаданне балатавацца ёсць, — дзеліцца планамі рэгіянальных бізнэсоўцаў Шабетнік і кажа, што гэтая кампанія не мусіць быць такой небяспечнай, як была апошняя прэзідэнцкая, калі кандыдаты патрапілі ў турмы: — Людзі спадзяюцца, што ўлады будуць адэкватныя, і такіх эксцэсаў, як былі на прэзідэнцкіх выбарах, на парламенцкіх не будзе. Нашы людзі ўжо прымалі ўдзел у палітычных кампаніях. Адзін прадпрымальнік балатаваўся на мінулых мясцовых выбарах. Па нашай інфармацыі, у яго было больш за 70% галасоў, а напісалі яму каля 20%. Хаця гэтага чалавека ў яго раёне ўсе ведаюць, бо ён раней працаваў у школе».

І хаця Алег Шабетнік далёкі ад будынку парламента, сітуацыю ацэньвае цвяроза. «Мяркую, што патрапіць у парламент немагчыма, бо Лукашэнка вырашыў ужо ўсё — колькі і каго там мусіць быць. Шанцаў абсалютна ні ў каго няма. Гэта проста магчымасць пахадзіць па людзях, распавесці ім, як жывецца прадпрымальнікам, якія ў нас расходы, прыбыткі, як развіваецца бізнэс, — дзеліцца планамі прадпрымальнік з народа. — Мы будзем прымаць рашэнне аб удзеле так, каб не стаць насуперак нашай апазіцыі. Але галоўнае — калі будуць палітвязні, то якія могуць быць выбары?!»

▸ ЖЫЦЦЁ

# ТРЫВАННЕ ТРЭСНУЛА

Вольга ХВОІН

**На прадпрыемстве РУВП «Граніт» разгарэліся баі паміж кіраўніцтвам і рабочымі. Супрацоўнікі патрабуюць даць ім магчымасць стварыць незалежны прафсаюз, у адваротным выпадку пагражаюць зладзіць на буйным прадпрыемстве страйк. Свае намеры гарнякі могуць рэалізаваць меншы чым на працягу месяца.**



Алег Стахаевіч

Алег Стахаевіч запэўнівае, што ўсе работнікі «Граніту» гатовыя дамагацца выканання сваіх патрабаванняў, але пра магчымыя захады расказваць адмаўляецца: «Я не буду сцвярджаць, што мы гэта зробім, але што можам зрабіць — факт»

## Гранітны сімвал супраціву

Яшчэ ў снежні 2011 года з прафсаюзнай арганізацыі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі выйшлі каля 600 чалавек, з 3,2 тысячы працоўных РУВП «Граніт» больш за 200 чалавек выказалі жаданне стварыць сваю незалежную прафсаюзную арганізацыю. 24 снежня яны звярнуліся з заявай у Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, у якім прасілі прыняць іх незалежны прафсаюз у склад БКДП. Рабочыя звярнуліся да адміністрацыі прадпрыемства «Граніт» з просьбай дапамагчы з памяшканнем пад юрыдычны адрас, што неабходна для рэгістрацыі арганізацыі згодна з дзеючым заканадаўствам. У адказ кіраўніцтва прадпрыемства і мясцовыя ўлады распачалі шэраг дзеянняў, накіраваных на недапушчэнне стварэння на дзяржпрадпрыемстве незалежнага прафсаюза. На «Граніт» прыязджаў кіраўнік Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар і заявіў, што ніякага незалежнага прафсаюза на РУВП «Граніт» не будзе. На сябраў незалежнага прафсаюза аказваецца моцны ціск.

У прыватнасці, быў звольнены кіраўнік незалежнага прафсаюзу на РУВП «Граніт» у Мікашэвічах Алег Стахаевіч. У дачыненні да Стахаевіча сфабрыкавалі справу аб адміністрацыйным правапарушэнні — нібыта ён на сваім аўтатранспарце не прапусціў бабульку праз пешаходны пераход. Прафсаюзнаму лідару інкрымінуецца стварэнне аварыйнай сітуацыі, правы забралі — і аўтаматычна рабочы згубіў працу, бо быў кіроўцам «Белаза». Цікава, што асоба пацярпелай дагэтуль не названая. Таксама былі звольненыя жонкі двух прафсаюзных актывістаў.

«Мы цудоўна разумеем, што гэта той выклік, на які ўлада не магла інакш адрэагаваць, бо калі раптам з «турмы» збягаюць 600 сядзельцаў на свабоду і ствараюць сваю ўласную супольнасць, — гэта сігнал і астатнім вязням Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, якая ёсць часткай таталітарнай сістэмы. Іншых дзеянняў і не магло быць, — каментуе сітуацыю на «Граніце» старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП), віцэ-прэзідэнт Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў (МКП), член Адміністрацыйнага савета Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) Аляксандр Ярашук. — «Граніт» — гэта сімвал супраціву. Мы пройдзем увесь шлях законных магчымасцяў узнавіць на працы Алега Стахаевіча і прымусіць улады зарэгістраваць суполку незалежнага прафсаюзу. Выкарыстаем і ўнутраныя, і знешнія сродкі, я маю на ўвазе падтрымку з боку міжнароднага прафсаюзнага руху».

## Пачалося з хамства адміністрацыі

Сітуацыя на «Граніце» цяпер напружаная — Стахаевіч звольнены незаконна. Ён скончыў Маскоўскі горны інстытут, на РУВП «Граніт» хапае вакансій для яго спецыяльнасці, але працаўладкавацца на прадпрыемстве кіраўніцтва не дае. Рабочыя (28 чалавек) напісалі ліст да кіраўніцтва «Граніта» з патрабаваннем спыніць дыскрымінацыю незалежнага прафсаюзу, аднавіць на працы Алега Стахаевіча і даць незалежнаму прафсаюзу памяшканне на прадпрыемстве. Калі гэта не будзе зроблена, то рабочыя абяцаюць зладзіць страйк.

Алег Стахаевіч дэманструе бадзёры настрой і запэўнівае, што «ўсё будзе добра». Ён распавядае, што людзей, якія падпісалі гэты ліст, выклікаюць да начальства, ціснуць і патрабуюць адмовіцца ад свайго подпісу. Алегу вядома, што прынамсі два чалавекі напісалі, што «падышлі незнаёмыя людзі і папрасілі паставіць подпіс», «загітавалі падпісацца пад лістом». «Але гэта хлусня! Ніхто нікога не прымушаў, не агітаваў, таемна нічога не рабілася — ліст зачыталі і падпісалі адкрыта», — падкрэслівае прафсаюзны лідар.

Па словах Стахаевіча, ужо складзена дапаўненне да таго ліста, людзі далучаюцца да гэтых патрабаванняў. Але кіраўніцтва «Граніта» пускае дэзінфармацыю, што людзі падпісваюцца пад супрацьзаконнай забастоўкай. «Людзі ставілі подпісы пад патрабаваннямі, а не пад забастоўкай!» — удакладняе Алег.

Можа падацца дзіўным: гадамі рабочым было добра, а тут раптам у іх з'явіліся прэтэнзіі. Але гэты бунт на караблі — не парыў аднаго моманту. «Нікога ніколі не задавальняла праца, усё пакрысе накоплівалася гадамі. Проста выліўся ў цэху аўтатранспартнага парка, дзе разам збіраюцца кіроўцы БелАЗаў. Тое, што ўсе былі незадаволеныя, — 100 працэнтаў. Я адказваю за сваю брыгаду з 50 чалавек. Яны самі прыйшлі з просьбай дапамагчы. Пытаўся, ці пойдуць да канца, абяцалі, што толькі так. А цяпер некаторыя саскокваюць...



Аляксандр Ярашук

— распавядае малады абаронца правоў рабочых. — Найперш ёсць праблема хамскіх адносінаў адміністрацыі, а з гэтага выцякае і малы заробак. На момант, як гэта ўсё заварылася, можа некалькі чалавек з двухсот атрымлівалі пяць мільёнаў заробку — за стаж, класнасць, брыгадзірства, прэмію. У асноўным кіроўцы на той момант зараблялі тры мільёны беларускіх рублёў, у той час як дзяжурны зваршчык — 3,5 мільёны рублёў».

## Deadline — месяц

Алег Стахаевіч запэўнівае, што ўсе работнікі «Граніту» гатовыя дамагацца выканання сваіх патрабаванняў, але пра магчымыя захады расказваць адмаўляецца: «Я не буду сцвярджаць, што мы гэта зробім, але што можам зрабіць — факт. Што канкрэтна будзем рабіць, хай застанецца сакрэтам для астатніх».

«У такіх сітуацыях і праяўляецца якасць арганізацыі, грамадства, калі мы павінны ўсімі даступнымі сродкамі адстойваць правы людзей. Беларускае грамадства мусіць ганарыцца такімі людзьмі — яны выратавалі нашу рэпутацыю тым, што абвясцілі: калі іх патрабаванні не будуць задаволеныя, то будзе арганізаваны страйк. Тэрмін правядзення страйку не вызначалі, але гэта не значыць, што няма крытычнай рысы. Мы кансультуем рабочых, кажам, што трэба быць рашучымі, фактар часу — не тое, што нам спрыяе. Усё мусіць ажыццяўляцца хутка», — гаворыць Аляксандр Ярашук. Па яго словах, страйк можа быць зладжаны цягам месяца.

Ярашук паведаміў, што пра падзеі на «Граніце» праінфармаваная міжнародная прафсаюзная супольнасць, Міжнародная арганізацыя працы. Прэзідэнт Канфедэрацыі працы Расіі (КПР) Барыс Краўчанка, сябра прэзідэнцкай рады па правах чалавека заявіў ад тым, што калі не будзе вырашанае пытанне, то КПР абвесціць байкот беларукіх тавараў.

«Сітуацыя пільна адсочваецца. Мы не маем намеру адступаць ад «Граніту». Я не бачу іншага выйсця, апроч як прымусіць улады выконваць законы дзяржавы і ратыфікаваныя міжнародныя пагадненні», — падкрэслівае старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук.




### Даведка:

Рэспубліканскае ўнітарнае вытворчае прадпрыемства «Граніт» — найбуйнейшае ў Еўропе прадпрыемства па здабычы і перапрацоўцы граніту на друз і пясок для будаўнічых работ, месціцца пад Мікашэвічамі Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці.

Прамысловая пляцоўка прадпрыемства звязаная транспартнымі камунікацыямі з чыгуначным вузлом Сітніца (магістраль Брэст — Бранск), аўтамагістраллю Брэст — Гомель, суднаходным каналам з ракой Прыпяць, што дазваляе дастаўляць гатовую прадукцыю чыгуначным, аўтамабільным і рачным транспартам.

РУВП «Граніт» — гэта тэхналагічны комплекс па вытворчасці друзу з агульнай магутнасцю 7,6 мільёна кубічных метраў друзу на год.

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 27 ЛЮТАГА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**08.45** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся».
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**12.10** Меладрама «Трэці лішні» (Украіна).
**13.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**14.45** Відэафільм АТН «Подых чашніцкай зямлі» цыклу «Зямля беларуская».
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Культурныя людзі.
**15.55** Да цешчы на бліны.
**16.25** Цыкл тэлеперадач «Дыялогі аб цывілізацыі».
**16.55** Меладраматычны серыял «Маруся».
**17.45** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**18.45, 00.50** Зона Х.
**19.35** Арэна.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.00** Дзень спорту.
**21.50** Камандзіроўка.
**22.05** 84-я цырымонія ўручэння штогадовай прэміі «Оскар» Амерыканскай кінаакадэміі.
**23.50** Клуб рэдактараў.

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Правы на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!». Працяг.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Беражыся аўтамабіля».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.10** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.05** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.10** «Першы клас».
**00.15** «След».
**00.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10, 17.20** «Міншчына».
**06.20, 07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40, 17.30** «Званая вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.05** «Далёкія сваякі».
**13.50** Т/с «Студэнты-2».
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**18.30** Т/с «Агонь кахання».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** М/ф «Індзі».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Прафесійны бокс».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Навіны надвор'я.
**10.30** Школа рамонту.
**11.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**13.25** «Афіцэры» (СССР).
**15.15** Мультфільм.
**15.30** Нянудны глобус.
**15.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**16.55** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Бітва экстрасэнсаў.
**20.40** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**23.05** Авертайм.
**23.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.

### ЛАД

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**05.20** «Даведнік».
**06.05** М/с «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** «Цік - так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Ваўчыца».
**09.05** Выніковая праграма «Разам».
**10.05, 11.05** М/ф «Мяне гэта не тычыцца».
**12.20, 22.05** Д/с «Гарадскія легенды».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Давай пажэнімся».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток - шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40, 02.00** «Саюзнікі».
**19.20** «Усоды жыццё».
**19.50** «Сардэчна запрашаем».
**20.30** «Беларусь сёння».
**21.30** «Свет спорту».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».

### Discovery CHANNEL

**05.00, 14.35** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**05.25, 10.00, 00.55** Рукатворныя цуды.
**06.20, 17.00, 04.10** Як гэта ўладкавана?
**06.50, 17.30, 04.40** Як гэта зроблена?
**07.15, 15.05** Браты па зброі.
**08.10, 16.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**09.05, 13.40** Круты цюнінг.
**10.55** Ці магчыма гэта?
**11.50** Скрыўленне часу.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear.
**19.00, 00.00** Залатая ліхаманка.
**20.00** Вугаль.
**21.00** Рыба-меч.
**22.00** Працяк за мяжой.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы.

### EUROSPORT

**10.30, 14.30, 20.30, 01.45** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Кітая. Хайнань.
**12.30, 17.30** Тэніс. Турнір WTA. Дубай. Фінал.
**13.30, 18.30, 21.45** Скачкі на лыжах з трампліна. Чэмпіянат свету. HS 206. Вікерсунд.
**19.30, 00.45, 04.15** Футбол. Часопіс.
**22.45** Вось дык так!!!
**23.00** Пра рэстлінг. Агляд WWE.
**23.45** Пра рэстлінг. Vintage Collection. ЗША.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 11 серыя.
**08.05** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**08.20** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.30** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348», дак. фільм, 2008 г., Бразілія.
**09.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**10.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.00** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**11.30** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.35** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**12.05** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**12.20** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 11 серыя.
**12.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.15** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348», дак. фільм, 2008 г., Бразілія.
**14.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.50** Фільматэка майстроў: «Блюз па-гаванску», маст. фільм, 2005 г., Іспанія–Францыя–Куба.
**16.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**17.00** «Мой родны горад», серыял: 28 серыя.
**17.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** Дакументальная гадзіна: «Архімандрыт», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**18.55** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**19.00** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.30** «Тэра постсаветыка. Надзя – целахоўніца палітыкаў», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.50** Фільматэка майстроў: «Блюз па-гаванску», маст. фільм, 2005 г., Іспанія–Францыя–Куба.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.10** Гарачы каментар.

## 28 ЛЮТАГА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія- Украіна).
**10.10** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**12.10** Арэна.
**12.35** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**12.45** «Дарагія лялькі». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**13.35** Мультфільм.
**13.55** «Толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камандзіроўка.
**15.40** Каробка перадач.
**16.10** Мастацка-публіцыстычны фільм «Эпоха. Падзеі і людзі».
**16.50** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**17.45** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**18.45, 01.05** Зона Х.
**19.30** Сфера інтэрасаў.
**19.55** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія- Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.15** Дзень спорту.
**21.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты-2» (ЗША).
**23.25** Спартовая меладрама «Аўтсайдары» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Правы на абарону».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Шальныя грошы».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм. Заключная серыя.
**23.15** «Несакрэтныя матэрыялы».
**23.50** «Зваротны адлік».
**00.20** «След».
**00.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10, 17.20** «Міншчына».
**06.20, 07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТБ-спорт».
**08.40** М/ф «Індзі».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40, 17.30** «Званая вячэра».
**12.35, 18.30** Т/с «Агонь кахання».
**13.50** Т/с «Студэнты-2».
**14.40** М/ф «Каралі мамба».
**16.50** Т/с «Следакі».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** Т/с «Важняк. Гульня навылёт».
**21.30** Т/с «Доктар Тырса».
**23.00** «Небяспечны месяц».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** Т/с «NEXT-3».
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**11.05** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.55** Бітва экстрасэнсаў.
**13.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**14.40** Авертайм.
**15.10** Мультфільм.
**15.25** Нянудны глобус.
**15.50** Цела чалавека.
**16.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**16.55** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон» (Расія-Украіна). 2-я серыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**23.05** «На шляху да Эўра-2012».
**23.35** Крымінальная драма «Адкупленне» (ЗША).

### ЛАД

**04.25** «Свет спорту».
**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 20.45** «Простая мова».
**05.20** Д/с «Дом з гісторыяй».
**06.05** М/с «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** «Цік - так».
**07.05, 08.05, 04.30** Т/с «Ваўчыца».
**09.05** «Агульны рынак».
**09.25** «Агульны інтарэс».
**10.05, 11.05** М/ф «Сярод белага дня».
**12.20, 22.05** Д/с «Гарадскія легенды».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Давай пажэнімся».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток - шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**21.25** «Дыяспары».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Усоды жыццё».

### Discovery CHANNEL

**04.05, 09.05, 13.40** Круты цюнінг.
**05.00, 14.35** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**05.25, 10.00, 00.55** Рукатворныя цуды.
**06.20, 17.00, 04.10** Як гэта ўладкавана?
**06.50, 17.30, 04.40** Як гэта зроблена?
**07.15, 15.05** Браты па зброі.
**08.10, 16.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**10.55** Залатая ліхаманка.
**11.50** Вугаль.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear.
**19.00, 00.00** Гіганцкія будоўлі.
**20.00** Мега-будоўлі.
**21.00** Discovery.
**22.00** Працяк за мяжой.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы.

### EUROSPORT

**10.30, 14.30, 20.30, 02.30** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Кітая. Хайнань.
**12.30, 17.30** Футбол. Часопіс.
**12.45, 19.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Чэмпіянат свету. HS 206. Вікерсунд.
**13.45** Лыжнае двабоўрства. Кубак свету. Гонка па сістэме Гундэрсена.
**18.30** Тэніс. Турнір WTA. Дубай. Фінал.
**22.00** Бокс. Турнір Total KO. Агляд сезону.
**23.00** Бокс. Чэмпіянат свету па версіі WBA. Хельсінкі.
**01.00** Ралі. Ралійная серыя IRC. Часопіс.
**01.30** Супербайк. Чэмпіянат свету. Заезд 2.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Вулічныя гульні», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**09.15** «Мой родны горад», серыял: 28 серыя.
**09.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.30** «Тэра постсаветыка», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**10.55** Дакументальная гадзіна: «Архімандрыт», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**11.50** «Ранча», серыял: 34 серыя.
**12.40** «Мой родны горад», серыял: 28 серыя.
**13.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.30** «Тэра постсаветыка», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.55** Дакументальная гадзіна: «Архімандрыт», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**14.50** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**15.10** «Вулічныя гульні», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**16.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**17.00** «Мой родны горад», серыял: 29 серыя.
**17.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Пуаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 7 серыя.
**18.55** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**19.00** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Сальда (эканамічная праграма).
**21.40** «Ратаўнікі», серыял: 9 серыя.
**22.25** Рэпартэр.
**22.50** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №2 (66)
(люты)

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



▸ **КНІГІ**

## ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ ЧЫТАЧУ?

**Мінула ўжо два месяцы афіцыйна абвешчанага ў Беларусі Года кнігі. Што зроблена, што запланавана зрабіць, каб выправіць ледзь не катастрафічную сітуацыю з беларускай кнігай (менавіта беларускай, а не расійскамоўнай ці якой іншай)?**



У папярэднім нумары «Літаратурнай Беларусі» былі апублікаваныя вынікі апытання, праведзеныя па замове Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нагадаем: каля паловы беларусаў не чытаюць літаратуру або чытаюць вельмі рэдка, беларускімі кнігамі не цікавяцца 62 % апытаных.

А як на гэтым фоне выглядаюць чытачы і кнігі большых краін, напрыклад, Расіі і ЗША?

За 9 месяцаў 2011 года, паводле звестак Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі, айчынныя выдавецтвы выпусцілі 8090 найменняў кніг агульным накладам 31,5 тысячы асобнікаў. У параўнанні з 2010 годам колькасць найменняў кніг павялічылася на 0,4%, затое наклад паменшыўся на 17,2%.

Для параўнання: ва Украіне колькасць найменняў кніжнай прадукцыі ў 2011 годзе зменшылася на 4,5%, а наклад вырас на 8%; у Расіі колькасць найменняў павялічылася на 4,1%, агульны ж наклад зменшыўся на 3,5%

Вынікі мінулага года на рынку кніг Расіі і ЗША аказаліся таксама несуцяшальнымі. Як паведаміў сайт www.gazeta.ru, расійскі кніжны бізнэс цяпер знаходзіцца ў стане, блізкім да панікі. «Пад дыктафон, натуральна, ніхто нічога не скажа, але ў асабістых гутарках, якое выдавецтва ні вазьмі, усе хапаюцца за галаву і пра перспектывы выказваюцца малацэнзурна, — зазначае ў аналітычным артыкуле Вадзім Несцераў. — Поўнае ўражанне, што расійскі кніжны рынак абваліцца, пахаваўшы пад сабой усіх, не ў гэтым, дык у наступным годзе».

Пасля навагодняга адпачынку Расійская кніжная палата падвяла мінулагоднія вынікі. Паводле яе падлікаў, у 2011 годзе агульны наклад выдадзеных у Расіі кніг скараціўся на 6,3%. Надрукаваць мала — трэба яшчэ і прадаць. А вось з гэтым зусім дрэнна: у другой палове 2011 года продаж рэзка зменшыўся, прычым практычна па ўсіх пазіцыях (трымаецца пакуль толькі дзіцячая літаратура).

У адных выдавецтвах ідуць скарачэнні, у іншых «падразаюць» зарплаты супрацоўнікам. Ганарары ўпалі настолькі, што пісьменнікі, якія гадамі карміліся з літаратурнай нівы, усё часцей задумваюцца пра пошук сталай працы, пажадана ў офісе. І шкадуюць у сваіх ЖЖ, што сапсавалі сабе працоўную кніжку творчымі пошукамі. «Галоўная праблема — адсутнасць звычайнага рэзюмэ, бо калі напісаць, што з 2003 года працаваў пісьменнікам, гэта выкліча ў патэнцыйнага працадаўцы толькі ўсмешку. Так што пакуль — поўная нявызначанасць і падазрэнне, што нейкі час будзе даволі херова», — піша ў сваім «Жывым журнале» пісьменнік Дмітрый Казакоў.

«Што ж такога страшнага здарылася, чаму рынак пачаў сыпацца?» — пытае сайт gazeta.ru. І дае свой адказ: «Агульнавядома: папяровыя кнігі гінуць пад націскам тэхнічнага прагрэсу, жалезны конь ідзе на змену сялянскаму коніку. Прасцей кажучы — самыя актыўныя і грашовыя спажыўцы папяровых кніг усё часцей абзаводзяцца рыдарамі і планшэтнікамі, пасля чаго губляюць усякую цікавасць да паперы. Дадзеных за ўвесь 2011 год яшчэ няма, але ў першым паўгоддзі рынак рыдараў у Расіі даў амаль трохразовы (!) прырост у параўнанні з першым паўгоддзем пазамінулага года».

Ну і, нарэшце, найпаказальныя вынікі сацыялагічнага апытання, праведзенага цэнтрам Юрыя Левады ў лістападзе 2011 года па замове і пры садзеянні Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі. Яны, як выявілася, вельмі блізкія да беларускіх! Па дадзеных вышэйзгаданага даследавання, ніколі ці практычна ніколі не чытаюць кнігі прыкладна 45% расіян. А вось ніколі іх не купляюць 62%.

Ну а як жа «кніжныя справы» ў Злучаных Штатах Амерыкі? Там папяровую кнігу актыўна выцяскае электронная — і, як вядома, на засілле пірацкіх тэкстаў ніхто не скардзіцца. Аб'ёмы электроннага кнігагандлю ЗША недасяжныя для ўсіх астатніх краін свету разам узятых! Агульныя аб'ёмы продажу там зменшыліся амаль на 6%. І хоць рынак электронных выданняў працягвае расці, а яго доля ў агульным аб'ёме кніжнага рынку ЗША складае 22% (завоблачная мара для ўсіх краінаў свету, нават у Англіі электронныя кнігі агулам з усіх кніг купляюць толькі 7% чытачоў), аднак падзенне попыту на папяровыя кнігі рост «электронкі» не перакрывае.

Папяровыя кнігі ў ЗША імкліва губляюць папулярнасць, і гэты працэс толькі прагрэсуе. У мінулым годзе падзенне іх продажаў на паўночнаамерыканскім рынку склала амаль 9%, хоць яшчэ ў 2010-м было ўсяго 4,5%. За год — рост удвая.

«Падзенне ідзе ва ўсіх сектарах, нават, здавалася б, у самых шчаслівых, — каментуе гэтую з'яву Вадзім Несцераў. — Нонфікшан для дарослых чытачоў ЗША, напрыклад, яшчэ ў 2010-м дэманстраваў рост (амаль на 2%), у 2011-м паказвае трохпрацэнтнае падзенне. Але горш за ўсё справы ідуць з мастацкай літаратурай. Спад продажаў папяровай белетрыстыкі ў 2010 годзе складаў 7,2%, у 2011-м — ужо 17,7%. Атрымліваецца, што нават там, дзе піратам ніколі не давалі «развярнуцца», нават там у кніжнага рынку вялікія праблемы… Высноўа адна: праблемы ў кнігавыдаўцоў не з піратамі, не з рыдарамі і не з сістэмамі электронных плацяжоў. Праблемы з кнігай як такой. У тым жа сацыялагічным даследаванні «Левады» ёсць цікавыя лічбы: за год частка людзей, якія ніколі ці практычна ніколі не чытаюць кніг, вырасла з 34% да 45%. Падобна, наракаць расійскім выдаўцам варта не на рыдары і нават не на тэхнічны прагрэс, а на працэс. Дакладней, на некалькі сацыяльных працэсаў. Але гэта тэма, здаецца, заслугоўвае асобнага разгляду».

А на што ці каго б заставалася наракаць тым жа расійскім выдаўцам, літаратарам і чытачам, калі б у Расіі — да тых сацыяльных працэсаў — былі б яшчэ і дзве дзяржаўныя мовы: расійская і, скажам, кітайская? І большасць карысталася б апошняй?

Словам, яшчэ раз — з Годам кнігі вас, паважаныя чытачы!

Пакуль яшчэ не па кітайскім, а беларускім календары…

**Падрыхтаваў Янка Скрыдлеўскі**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# «МАМА МУ ЧЫТАЕ»

**Вядомая шведская дзіцячая пісьменніца Юя Вісландэр прэзентавала кнігу «Мама Му чытае» ў мінскай галерэі «Ў».**

Гэта была чарговая імпрэза «Месяца шведскай літаратуры ў кнігарні «логвінаЎ», і адбылася яна з удзелам беларускай перакладчыцы кнігі Надзеі Кандрусевіч.

Маленькім беларусам таксама былі прадстаўлены аўдыёдыск з Юінымі казкамі і песенькамі, запісанымі Змітром Вайцюшкевічам і Галінай Казіміроўскай.

«Вельмі цёплая аўдыторыя была. Я адчуваю, што мяне тут добра прымаюць. Цудоўная атрымалася імпрэза, — падзялілася сваімі ўражаннямі Юя Вісландэр. — Я сустрэлася і з перакладчыцай, і з выдаўцамі, а тут яшчэ дадаткова была невялікая батлейка і песенны акампанемент».

Да 15 сакавіка пройдуць прэзентацыя дзіцячай кнігі Ульфа Старка «Дыктатар», паказ фільма паводле рамана Стыга Ларсана, Nobel-party — імпрэза, прысвечаная паэту-нобелісту Тумасу Транстромеру, і тэатралізаваны вечар, прысвечаны класіку сусветнай драматургіі Аўгусту Стрындбергу.

**Рыгор Сапяжынскі, new.racyja.com**



Фота Аляксандра Янусіка

МЯДОВАЯ ПРЭМІЯ

# МАЗАІКА НАРОДНАГА СВЕТАБАЧАННЯ

**Адмысловай берасцейскай прэміяй «Пуд мёду» ўзнагароджаны Алесь Зайка, аўтар кнігі «Дым з коміна: Лірычныя запісы. Мініяцюры. Апавяданні» (Мінск: Логвінаў, 2011).**



Фота Я. Бяласіна

«Салодкая» прэмія ад Міколы Папекі

Прэмія гэтага года — юбілейная. Прайшло ўжо дзесяць гадоў, як, дзякуючы «крылатым спонсарам» Міколы Папекі, «падсалоджваецца» быццё берасцейскіх аўтараў.

Алесь Зайка нарадзіўся 12 жніўня 1948 года ў вёсцы Заполле Івацэвіцкага раёна. Закончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Працаваў у роднай вёсцы настаўнікам. Цяпер загадвае школьным этнаграфічным музеем. Руплівы збіральнік фальклору, народнай лексікі, краязнаўца. Выдаў «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны».

Без усялякага перабольшання можна сказаць, што дэбютная кніга Алеся Зайкі выклікала вялікую цікавасць у прыхільнікаў роднага слова Берасцейшчыны.

Алесь Зайка глядзіць на свет вачыма паэта, можа і не ўсведамляючы таго.

*Ціхі свежы ранак.*
*Прачынаецца вёска.*
*І тут і там цягнецца з комінаў,*
*шукае дарогу да неба лёгкі дым.*
*Спрадвечная вясковая*
*малітва жыццю,*
*урачысты гімн яму —*
*дым з коміна.*

У аўтара адметны гумар. Гэта і добры, крыху блазнаваты смех. Гэта і горкі смех. Смех у Алеся Зайкі можа быць і колкім, здзеклівым.

Героям Алеся Зайкі ўласціва дасціпнасць. «Я таму праекціроўшчыку, што прыдумаў у нас будынкі з пляскатым дахам, паставіў бы помнік з пляскатай галавой», — кажа брыгадзір будаўнікоў («Помнік з пляскатай галавой»).

Атрымліваецца ў Алеся Зайкі некалькімі трапнымі радкамі «схапіць» характар чалавека. А гэта ўжо гаворыць калі не пра майстэрства, то пра пільную ўвагу да слова, да яго адценняў у кантэксце.

Кніга Алеся Зайкі пра харошых людзей, але пісьменнік далёкі ад таго, каб ідэалізаваць сваіх землякоў. Багацце душы герояў кнігі вельмі часта хаваецца пад naміткай знешняй бясклапотнасці. Дзядзька Міхась не мог назваць імёнаў сваіх дванаццаці дзяцей. Людзі незласліва пасмейваліся, але дапамагалі, чым маглі. А гаспадар — нядаўні франтавік — не развітваўся са сваім трафейным гармонікам. Памёр раптоўна. Плакалі дзеці і жонка. А далей цытата, якая ўсё расстаўляе на свае месцы: «Мы любілі гуляць франтавымі ўзнагародамі бацькоў. Паверце: яго ўзнагарод хапала ўсім яго дзецям».

Чаму верыш аўтару, сумуеш і радуешся разам з яго героямі?. Пісьменнік глядзіць на свет вёскі не звонку. Ён сам частка гэтай супольнасці людзей, якіх называюць косаўцамі. Гаворачы пра іх, ён гаворыць і пра сябе… Чытач не можа не адчуць шчырасць настаўніка-інтэлігента, беларуса, які, як толькі з'явілася магчымасць, пераключыўся на тое, чым рыхтаваўся заняцца ўсё жыццё…

Хочацца спыніцца на невялічкім апавяданні «Паэт». Герой твора падвозіць на матацыкле юнака. Па дарозе высвятляецца, што хлопец любіць паэзію. Пра многае гаворыць дыялог: «А сам спрабаваў пісаць? — Пішу… — Можа, пачытаеш што? — Прабачце, другім разам. Я яшчэ ніяк не магу пачуць словы, што гучаць ува мне…».

Радуецца душа за нашае будучае, калі чытаеш падобнае. І як добра, думаеш сабе, што ёсць яшчэ ў беларускім краі такія настаўнікі-патрыёты, як Алесь Фаміч Зайка!

**Мікола СЯНКЕВІЧ**

ПАЛІЦА

# ДЗЯВЯТЫ ТОМ ЗБОРА ТВОРАЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА

**Саюз беларускіх пісьменнікаў працягвае ўкладанне і выданне першага ў гісторыі Поўнага збора твораў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.**




Выйшаў з друку чарговы — 9 том, які змяшчае кінасцэнарыі «Третья ракета», «Альпийская баллада», «Западня» (сцэнарый Л. Мартынюка, пры ўдзеле В. Быкава), «Двое в ночи», «Волчья стая», «Долгие версты войны», «Ушедшие в вечность (Обелиск)» (у суаўтарстве з Р. Віктаравым), «Его батальон» (пры ўдзеле А. Карпава), «На Чорных лядах» (сцэнарый В. Панамарова, пры ўдзеле В. Быкава). Творы падаюцца паводле храналагічнага прынцыпу на мове арыгіналаў: беларускай ці рускай. У «Каментарах» да твораў падаюцца значныя варыянтныя тэксталагічныя разыходжанні.

Рэдактар 9 тома Поўнага збора твораў Васіля Быкава — Алесь Пашкевіч, укладанне і каментары — Сяргея Шапрана.

# «ВЯНОК БЕЛАРУСКІ»

**Саюз беларускіх пісьменнікаў сумесна з выдавецтвам «Юніпак» распачынаюць новую літаратурную падсерыю «Вянок беларускі» бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка».**

Мяркуецца, гэта будзе «выбранае з выбранага» найбольш знакамітых сучасных беларускіх пісьменнікаў, своеасаблівая візітоўка нацыянальных творцаў і ўвогуле нашай культуры.

Адкрые серыю паэтычны зборнік народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

Каб як мага больш аб'ектыўна адабраць 100 найлепшых яго твораў, якія ўвойдуць у зборнік, арганізатары звяртаюцца па дапамогу і да грамадскасці.

Будзем вельмі ўдзячныя, калі Вы цягам двух месяцаў дашлеце свой спіс дзесяці найлепшых, на Вашую думку, вершаў Рыгора Барадуліна на e-mail: vyanok.b@gmail.com.

Таксама чакаем Вашых прапановаў наконт аўтараў наступных кніг «Вянка беларускага».

САЮЗ

# У АБЛАСНЫХ АДДЗЯЛЕННЯХ

**Адбыліся паседжанні Гомельскага, Брэсцкага і Гродненскага аддзяленняў ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Іх тэмамі сталі падвядзенне вынікаў працы аддзяленняў за мінулы год і абмеркаванне планаў дзейнасці на 2012-ы.**

Пасля справаздачнага даклада старшыні Гомельскага аддзялення СБП Анатоля Бароўскага, сваё бачанне перспектываў працы аддзялення выказалі Таіса Мельчанка, Генадзь Лапацін, Алесь Бардоўскі.

Паседжанне Брэсцкага аддзялення СБП пачалося з ушанавання пісьменніка Сяргея Фёдаравіча Цыплюка, які днямі адсвяткаваў сваё 75-годдзе. Віншавальны адрас на імя юбіляра зачытаў старшыня аддзялення Іван Мельнічук, а паэт і мастак Анатоль Валасюк падарыў імянінніку адну са сваіх карцін. Затым вялася шчырая і зацікаўленая размова аб справах аддзялення на бліжэйшую будучыню: падрыхтоўку чарговага нумара альманаха «Жырандоля», удзел сяброў аддзялення ў літаратурным жыцці Берасцейшчыны і творчым супрацоўніцтве з украінскімі пісьменнікамі.

На агульным паседжанні сабраліся і сябры Гродненскага аддзялення СБП. Удзел у працы ўзялі Юрка Голуб, Данута Бічэль, Аляксей Пяткевіч, Сяргей Астраўцоў, Юры Гумянюк, Віктар Сазонаў, Мікола Мельнікаў і іншыя пісьменнікі.

Кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў на ўсіх трох сустрэчах прадстаўляў намеснік старшыні Эдуард Акулін.

**Прэс-служба СБП**

САЛІДАРНАСЦЬ

# ЛІТАРАТУРНАЯ СТЫПЕНДЫЯ

**Цэнтральнаеўрапейская ініцыятыва і Саюз славенскіх пісьменнікаў абвяшчаюць прыём заявак на стыпендыю для маладых аўтараў на 2012 год.**

Апроч стыпендыі ў памеры 5000 еўра пісьменнік, абраны міжнародным камітэтам, атрымае магчымасць трохмесячнага пражывання ў любой з краін-сяброўак Цэнтральнаеўрапейскай ініцыятывы.

Заяўкі могуць падаваць аўтары, якія нарадзіліся пасля 1977 года, з наступных краін: Албанія, Беларусь, Боснія і Герцагавіна, Харватыя, Македонія, Малдова, Чарнагорыя, Сербія і Украіна.

Апошні тэрмін падачы заявак — 1 траўня 2012 года. Заяўкі мусяць быць атрыманыя звычайнай поштай у запячатаным канверце. Камітэт разгледзіць заяўкі, адасланыя не пазней за 1 траўня 2012 года (па паштовым штэмпелі) на наступны адрас:

Slovene Writers' Association
(Writer In Residence)
Tomšičeva 12
SI-1000 Ljubljana
Slovenia

З умовамі стыпендыі можна азнаёміцца ў Інтэрнэце. Пытанні можна дасылаць па электроннай пошце: maja.kavzar@vilenica.si

ВЕРШЫ

# СЛОЎ ЗЯБКІХ ВЫРАЙ

Рыгор БАРАДУЛІН

### Чатыры

*Стол чатырохногі*
*Мяне трывае.*
*Чатырохногі зэдлік*
*Мяне трымае.*
*Лінія лёсу крывая*
*Затрымацца часу не мае.*
*У чатыры сцяны закуты*
*Гадую пакуты…*

### Ля хутарышча

*Трымаюць неба валатоўкі —*
*Магілы волатаў.*
*Сюды*
*Мой першы плач*
*Да Верасоўкі*
*Вялі шпачыныя сляды.*

*Ля хутара*
*Жыла крыніца.*
*Імшэў валун.*
*Імжэў спакой.*
*Куды пайшлі?*
*Мне зрэдку сніцца*
*Дазволіў ім*
*Лясны настрой.*

*Хмялюся весняй гаманою*
*Ў забытай радасці ў гасцях.*
*Крыляе бусел нада мною*
*Як бел-чырвона-белы сцяг…*

* * *

*А двор травою зарастае.*
*Сушэй расе,*
*Глушэй пчале.*
*І сцежка,*
*Быццам складка тая*
*Ў малітвы ціхай на чале.*

*Баюся спадабацца скрусе.*
*І нада мною*
*Страх як птах.*
*Каго спытаць,*
*А ці вярнуся*
*Пад бацькаў вяз,*
*Пад сонны дах?*

*Дый не дачуюся адказу*
*Ад распагоджанага дня…*

*Пажоўклы ліст*
*Спадае з вяза —*
*Мая апошняя радня.*

* * *

*Камяні,*
*Якія ляжалі*
*На душах*
*Бацькоў, землякоў, суседзяў,*
*Родных і ў радасці, і ў бядзе,*
*Не заблукалі нідзе, —*
*Вуліцай Каменскай сталі.*
*На Камена брукаванка вядзе.*
*Вуліца малалецтва*
*У старасць цячэ,*
*Прысягаючы даўніне.*

*… мой камень*
*На душы ў мяне…*

* * *

*Вечнасць і вышыня.*
*Свечка і даланя…*

* * *

*Заікаецца навальніца.*
*Страх*
*Самога сябе баіцца.*
*Грэецца кпінамі*
*Ноч вераб'іная…*

* * *

*Мякка і на баране*
*Спіцца ў роднай старане.*
*І ў аўчыне*
*Зябка на чужыне…*

* * *

*Радасць у крумкача*
*З чужога пляча.*
*А ў салаўя —*
*Свая…*

* * *

*Нараджаецца*
*З галоднага мікроба*
*Прага ўлады —*
*Невылечная хвароба…*

* * *

*Мае жарсць*
*Менталітэт дзявочы.*
*Хоць рашучая, як немаўля.*
*Просіць,*
*Каб заплюшчыў сорам вочы.*
*Жарсць баіцца сораму*
*Пасля…*

### Лепей

*Мудрасць –*
*Абачлівая мадам,*
*Клапатлівая маладзіца.*
*Мудрасць*
*Раіць не спаць гадам,*
*І пастарэць не баіцца.*

*Павярнуўшыся*
*Да міту спіной,*
*Мудрасці лепей*
*Не быць адной…*

### Плач

*Хоць стае*
*І ўвагі, і харчоў,*
*Плачуць*
*Перапуджаныя вершы,*
*Што сагнецца*
*Палец дваццаць першы,*
*І тады не стане чытачоў…*

* * *

*А часам загарыцца мне*
*Далічваць дні свае ў чаўне,*
*Як некалі Ду Фу ў Кітаі.*
*З паветам быў на ты Сусвет.*
*Хоць у Вушачы ёсць сусед,*
*Які паэзію чытае;*

*Змялела ціхая рака,*
*І трызняць ценем рыбака,*
*Пра нераст хвалі шэпчуць*
*штосьці.*
*Рассохся човен пад страхой,*
*Што стала, як і ён, трухой.*
*Іржа даўно даела восьці.*

*Расстаўся мой настрой з вясной.*
*Па-над Вушачай стараной*
*Слоў зябкіх вырай пралятае.*
*І я, як на пяску шчупак,*
*Адчуць хачу ў адчаі смак,*
*Як у журбе Ду Фу ў Кітаі…*

### Акраўдзяка

*Мрояў маладых правідны дым*
*Адцяняе боскі профіль храма.*
*Моліцца нябёсам пілігрым,*
*А над ім святая зорка Мама…*



Фота С. Шапрана

### 10 чэрвеня

*Бацькаў вяз*
*І маміны яблыні —*
*Зялёная сям'я сустракае.*
*Хата*
*Немым позіркам папракае.*
*Адтае паціху*
*Душа азяблая…*

* * *

**Хто сказаў,**
**што ў гэтым жыцці**
**Толькі раз мы былі маладымі?**
**Су Дун-по**

*Запытайся апоўначы ў соў,*
*І адкажа на золку здзіўленне —*
*Маладыя мы столькі разоў,*
*Колькі выраяў*
*Сподзеў сустрэне.*
*Колькі мы*
*Прывітаем сцяжын,*
*Што вядуць адусюль*
*Дадому.*
*Не даверыць сакрэт нікому*
*Старасць,*
*Як саладзіць палын…*

* * *

*Багата*
*Ў мінулым стагоддзі было —*
*Падлётак сподзеў,*
*Бацька і маці.*
*Ды выпала*
*Застудзіцца гармаце,*
*І ўсё*
*З аблачынкай дыму сплыло…*

* * *

*Дзе па маіх гадах*
*Жаўранак светла плача —*
*Там Вушача…*

### Ва ўсе вякі

*З нажабраванай мукі*
*Даўкія праснакі…*

* * *

*Гром падковы куе —*
*Ажарабілася хмара…*

* * *

*Воз вёз лёс.*
*Хвядос нёс нос.*
*На носе сядзела муха.*
*Завіруха кіпела глуха.*
*Рэха вясёла войкала.*
*Усё азіралася вокала…*

### Усмешка

*Нехта шэпча мне:*
*А ты не пазяхай*
*І з самім сабой*
*Не дужа-ткі хітры.*
*Да пары*
*Ў тваёй нязгубленай*
*За пазухай*
*Прыдрамалі*
*Два гарматныя ядры…*

* * *

*Рэха пачаў туман спавіваць.*
*Прыдрамаць*
*Збіраецца ліха.*
*Вучыцца калыханку спяваць*
*Незамужняя салаўіха…*

### Растлумачыла…

*Запытаўся ў Жучкі Рэкс,*
*Што гэта такое сэкс?*
*Адказала Рэксу Жучка —*
*Тое самае,*
*Што злучка…*

* * *

*Цішыня нямая*
*Не любіць крыку.*
*Слова шчасце не мае*
*Множнага ліку.*

* * *

*Ні думкаю, ні вачыма*
*Дагнаць жыццё немагчыма…*

* * *

*Мамы няма —*
*І я застаўся адзін,*
*Як час…*

* * *

*Святло палуднёе ўсмешкай.*
*А чым вячэрае змрок?.*

* * *

*Каго спытаць,*
*Як паспытаць*
*Агонь?.*

## САКАВІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы чакаюць сваіх юбілеяў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



01.03.1947 — Міхаіл Пятровіч Кацюшэнка
02.03.1942 — Віктар Іванавіч Лужкоўскі
08.03.1962 — Славамір Генрыхавіч Адамовіч
09.03.1927 — Пётр Сцяпанавіч Лісіцын
24.03.1957 — Юрый Баена
26.03.1942 — Іван Сяргеевіч Арабейка
31.03.1952 — Алег Гаўрылавіч Мінкін

Жадаем усім моцы, натхнення і дабрабыту!

▸ АСОБА

# МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ — ПІСЬМЕННІК ПЕРШАРАДНЫ

**На пытанні карэспандэнта адноўленага сайта газеты «Наш Магілёў» Ігара БАРЫСАВА адказвае гісторык літаратуры Анатоль СІДАРЭВІЧ.**



**ДАВЕДКА:**

Міхась Лявонавіч СТРАЛЬЦОЎ — празаік, паэт, эсэіст. Нарадзіўся 14 лютага 1937 года ў вёсцы Сычын Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у рэдакцыях газеты «Літаратура і мастацтва», часопісаў «Полымя», «Маладосць» і «Нёман».

Дэбютаваў вершамі ў 1952 годзе. Першая кніга апавяданняў М. Стральцова «Блакітны вецер» выйшла ў 1962 годзе. Праз чатыры гады свет убачыў зборнік яго «малой прозы» «Сена на асфальце». Загаловак аднайменнага апавядання, змешчанага ў кнізе, стаў ужывацца ў літаратурнай крытыцы і публіцыстыцы для азначэння так званага прамежкавага чалавека — чалавека, які яшчэ не парваў сувязяў з вёскай, аднак і не ўцягнуўся цалкам у гарадское жыццё. М. Стральцоў — аўтар аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь» (1970). У 1973 годзе напісаў апавяданне «Смаленне вепрука», якое адразу ж увайшло ў залаты фонд беларускай навелістыкі. Гэта быў апошні празаічны твор пісьменніка…

Пастулова М. Стральцоў вяртаўся да паэзіі і атрымаў прызнанне як паэт. У 1973 годзе ён выдаў зборнік вершаў «Ядлоўцавы куст». Наступны арыгінальны зборнік — «Цень ад вясла» — выйшаў праз шэсць гадоў. Апошняя кніга вершаў — «Мой свеце ясны» — убачыла свет у 1986 годзе.

М. Стральцоў засведчыў сябе і як тонкі знаўца беларускай і расійскай літаратур. У свет выйшлі тры зборнікі яго літаратуразнаўчых прац: «Жыццё ў слове» (1965), «У полі зроку» (1976) і «Пячатка майстра» (1986). Ягоныя эсэ, у якіх аналітыка спалучаецца з мастацкай прозай, актуальныя і сёння.

Памёр пісьменнік 23 жніўня 1987 года. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках у Мінску. Пасмяротна за зборнік вершаў «Мой свеце ясны» Міхасю Стральцову была прысуджана Дзяржаўная прэмія імя Янкі Купалы.

***— Саюз беларускіх пісьменнікаў абвесціў творчы конкурс маладых літаратараў, прысвечаны круглым датам з дня нараджэння Паўлюка Багрыма (200 гадоў), Янкі Купалы і Якуба Коласа (130), Алеся Гаруна і Цішкі Гартнага (125), Максіма Танка (100), Янкі Брыля (95) і Міхася Стральцова (75). У гэтым пераліку мяне цікавіць адно імя — Міхася Стральцова, бо ён нарадзіўся ў Магілёўскай вобласці, а 14 лютага — ягоны юбілей.***

— Някепска было б, калі б у гонар 75-годдзя Міхася Стральцова ў Магілёўскай вобласці абвясцілі свой творчы конкурс маладых паэтаў і празаікаў. Як я разумею, ваша абласное і гарадское начальства нават не падазравае пра гэтую дату. Я чуў, што сёлета ў Магілёве шэраг вуліц назвалі ці то хочуць назваць у гонар друга- і трэццярадных пісьменнікаў-землякоў, але дагэтуль няма вуліцы Максіма Гарэцкага і Міхася Стральцова. А дырэктар Магілёўскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы ў сваёй гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» (№ 4 за 10 студзеня) назвала толькі двух сёлетніх юбіляраў: Янку Купалу і Якуба Коласа…

***— На жаль. Чым, на Вашу думку, Міхась Стральцоў адметны як пісьменнік?***

— Калі браць і агульнабеларускі, і рэгіянальны магілёўскі маштаб, Міхась Лявонавіч Стральцоў, які нарадзіўся ў Слаўгарадскім раёне, — асоба з першага шэрагу. Калі, скажам, вашыя землякі Аркадзь Куляшоў, Аляксей Пысін, Масей Сяднёў, Аляксей Русецкі, Анатоль Сербантовіч, Алесь Пісьмянкоў — у першую чаргу выдатныя і добрыя паэты, Іван Чыгрынаў, Віктар Карамазаў і Анатоль Кудравец — класныя празаікі, навелісты, дык Міхась Стральцоў — выдатны і празаік, і паэт, і літаратурны крытык, эсэіст.

***— Вы кажаце, што Міхась Стральцоў — пісьменнік з першага шэрагу. Але чаму ягонае імя «не гучыць»?***

— Можна адказаць пытаннем на пытанне? А чаму ў Расіі не гучаць імёны такіх выдатных паэтаў, як Яўгеній Баратынскі, Фёдар Цютчаў, Афанасій Фет, Апалон Майкаў, Канстанцін Случэўскі, Інакенцій Аненскі? Здаецца, і ў школе ім не надаюць ніякай увагі, і ў ВНУ не надта… Разумееце, ёсць першакласныя паэты і празаікі, калі так можна сказаць, для гурманаў. Такія выдатныя паэты і празаікі «не для ўсіх» ёсць у кожнай літаратуры.

***— Пісьменнікі для чытацкай эліты?***

— Можна сказаць і так. Я наўмысна назваў шэраг выдатных расійскіх паэтаў, бо іх чытаў, любіў і пры нагодзе цытаваў Міхась Стральцоў. Пра іх яшчэ кажуць, што яны вызнавалі мастацтва для мастацтва, былі песнярамі чыстай красы.

***— Як наш Максім Багдановіч?***

— Максім Багдановіч — яшчэ адзін улюбёны паэт Міхася Стральцова, хоць заўважу, што паэзіі Багдановіча не былі чужыя грамадзянскія і нават сацыяльныя матывы. Дык вось, свайму ўлюбёнаму паэту Міхась Лявонавіч прысвяціў, не пабаюся сказаць, класічнае эсэ «Загадка Багдановіча». Яно чытаецца і праз сорак чатыры гады пасля першапублікацыі. Яно, я ўпэўнены, будзе чытацца і пазней. У гэтым эсэ я бачу рэдкае




спалучэнне таленту аналітыка і таленту празаіка.

Мабыць, гэтак жа, як Максіма Багдановіча, Міхась Стральцоў любіў другога Максіма — Гарэцкага. Калі я называў класных празаікаў з Магілёўшчыны, дык наўмысна змаўчаў пра Гарэцкага, бо Гарэцкі — постаць выключная, бясспрэчны класік прозы і літаратуразнаўства. Свайму ўлюбёнаму празаіку Міхась Стральцоў прысвяціў бліскучае эсэ «Чалавек з Малой Багацькаўкі». Апублікаванае трыццаць сем гадоў таму, яно чытаецца як напісанае ўчора. Чытаецца і эсэ «Спадчыннасць», напісанае да 90-х угодкаў Гарэцкага. (Не магу не пахваліцца, што напісана яно па маёй просьбе. Праўда, адной маёй просьбы было малавата. Патрэбнае было жаданне самога Міхася Лявонавіча яшчэ раз сказаць слова пра Максіма Гарэцкага.)

***— Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, названыя вамі расійскія паэты… Іх можна лічыць настаўнікамі Міхася Стральцова?***

— Дадайце да таго спісу навеліста Льва Талстога і абавязкова Івана Буніна, у асобе якога спалучаўся высокі талент паэта і празаіка.

***— Вы хацелі б параўнаць талент Буніна і талент Стральцова?***

— Кажуць, што кожнае параўнанне кульгае. Таму адкажу так: Стральцоў і Бунін — таленты роднасныя. Ёсць такое паняцце — «бунинский слог». У Міхася Стральцова таксама свой стыль, высокая культура слова, увага да мастацкай дэталі. Але не забывайма: Бунін — гэта расійскі пісьменнік, Стральцоў — беларускі, Бунін жыў у адну эпоху, Стральцоў — у іншую. Можна казаць аб блізкасці іх эстэтычных прынцыпаў, поглядаў на літаратуру.

Я мог бы многа сказаць вам пра навелістыку Міхася Стральцова, але тут абмяжуюся толькі канстатацыяй факта: Стральцоў — аўтар апавядання «Смаленне вепрука». Гэтае апавяданне — вянец ягонай творчасці як навеліста. Некаторыя лічаць яго апавяданнем-загадкай. І, здаецца, ніхто не аспрэчвае, што гэтае апавяданне класічнае, анталагічнае і хрэстаматыйнае.

***— Паняцце «бунинский слог» датычыць толькі прозы, ці і паэзіі таксама?***

— Думаю, што і паэзіі. Іван Бунін пазбягаў метафорыкі. Міхась Стральцоў — таксама паэт празрысты. Сказаў бы так: як празрыстае асеннія паветра. Але гэта вобразнае параўнанне. Лепш было б адзначыць тое, што ў Міхася Стральцова няма «правальных» вершаў. Мусіць, трэба сказаць, што ў яго нямала анталагічных і хрэстаматыйных вершаў. І калі складаць зборнік яго паэзіі, дык практычна ўсё апублікаванае ім надаецца для друку і цяпер.

***— Наконт друку. Міхася Стральцова выдаюць дастаткова?***

— Якраз наадварот. Пасля 1987 года (год смерці пісьменніка) выйшла толькі дзве яго кнігі. Адна — у серыі «Беларуская проза XX стагоддзя». Аматары паэзіі спадзяваліся, што выйдзе том і ў серыі «Беларуская паэзія XX стагоддзя», але так і не дачакаліся яго. Гэта быў бы двухтомнік твораў пісьменніка, бо ў 1987 годзе, калі Міхасю Стральцову спаўнялася пяцьдзясят, ЦК КПБ не дазволіў выдаць двухтомнік.

***— Чаму?***

— Мажліва, таму, што Міхась Лявонавіч не пісаў пра Леніна, партыю, камсамол, будоўлі камунізму. Я не памятаю, каб мы калі-небудзь размаўлялі з ім пра палітыку. Ён быў, па-мойму, апалітычны і як чалавек, і як пісьменнік. Дзяржаўнай прэміяй яго, як і Уладзіміра Караткевіча, уганаравалі пасмяротна. Бо ўжо было брыдка не ўганараваць.

***— Значыць, да 75-годдзя Міхася Стральцова яго творы перавыдадзены не будуць?***

— Што тычыцца дзяржаўных выдавецтваў, дык я папросту не ведаю іх планаў на гэты год. А вось у адным прыватным выдавецтве чакаецца даўно спадзяваны двухтомнік твораў Міхася Стральцова…

***— Трэба думаць, што і на Магілёўшчыне адзначаць юбілей пісьменніка. Будзем мець на ўвазе і тое, што 23 жніўня споўніцца 25 гадоў з дня, калі Міхась Стральцоў пайшоў у вечнасць… Дзякуй за гутарку.***

▸ ПРЫСВЯЧЭННЕ

# МАЗЫР-1982

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**НАЧАЛЬНІКУ АДДЗЕЛА УНУТРАНЫХ СПРАЎ ВЫКАНКОМА ФРУНЗЕНСКАГА РАЁННАГА САВЕТА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ г. МІНСКА тав. ІЗОТАВУ В.С.**
**На В/пісьмо № МГ/5–С–124 ад 16 чэрвеня 1978 г.**

Сакратарыят Саюза пісьменнікаў БССР разгледзеў заяву жонкі пісьменніка Міхася Стральцова і пісьмо Аддзела ўнутраных спраў выканкома Фрунзенскага райсавета народных дэпутатаў адносна паводзін пісьменніка Міхася Стральцова і прыняў пастанову, якой абавязаў галоўнага ўрача паліклінікі СП БССР т.ЛАДУЦЕНКУ М.Д. госпіталізаваць Міхася Стральцова для лячэння яго ад алкагалізму.

**Сакратар Праўлення СП БССР**
**Б. Сачанка**

*Пляц ЛПП* мялі ўвесь час*
*апойкі гнобныя, як зэкі...*
*Стральцоў ім спачуваў штораз*
*з-за шэрых штор бібліятэкі.*

*«Военииздата» календар*
*ужо ў вачах яго траіўся:*
*там і парторг і пракурор*
*за кожнай вокладкай таіўся...*

*Людзей другога тыпажа*
*сустрэць таксама выпадала,*
*калі няўзнак са стэлажа*
*пластом вывальваўся Купала...*

*А больш за ўсё дзівіў Хаям,*
*што з азіятчыны прынаднай,*
*цвярозасці мазырскі храм*
*абвіў лазою вінаграднай.*

*Здаралася і на авось*
*замест закладкі ў томе Цвейга*
*знайсці зачытанай наскрозь*
*наклейку з клецкага*
*«Партвейна».*

*Тут не трымала ні на міг*
*яго нішто на свеце ясным,*
*апроч закратаваных кніг*
*ды іхніх чытачоў няшчасных.*

*Таму, пакінуўшы Мазыр,*
*а разам з ім віно і крозы,*
*павесіў ён свой літмундзір*
*на сук чыжоўскае бярозы.*

*І там у прахалодны цень*
*і сам ён лёг — і Пекла сніцца...*
*«Цень-цень, сініца,*
*добры дзень!»***
*Дазволь расы зямной напіцца...*

* ЛПП — лячэбна-працоўны прафілакторый.
** Радок з верша Міхася Стральцова.

НАВЭЛА

# ПАДАРУНАК ЗДАЛЁК

Юры НЕСЦЯРЭНКА

Цяжкі пакунак з прадуктамі замінаў руху, і чалавек сталага ўзросту спыніўся, каб адпачыць. Сяргей Васільевіч накіроўваўся дадому, дзе ён, былы кіраўнік аднаго з прадпрыемстваў горада, а цяпер пенсіянер са стажам, дажываў адведзены яму час у адзіноце. Жонка памерла ад цяжкай хваробы. Адзіная дачка даўно з'ехала на пастаяннае месца жыхарства за мяжу, калі выйшла замуж за нябеднага замежніка. Па чутках, яе адносіны з бацькам і раней былі не дужа добрыя. А пасля таго, як яна «звязалася з гэтым фрыцам» (магчыма, самы бяскрыўдны эпітэт, якім бацька абазначыў з'яўленне зяця), кажуць, што і ўвогуле адбыўся скандал. Ускосна гэта маглі пацвердзіць работнікі мясцовага аддзялення сувязі, якія дакладна ведалі аб наяўнасці не частых, але рэгулярных паштовак «з таго боку» і жорсткім іх ігнараванні.

Не гледзячы, а можа быць, нават, і дзякуючы такому доўгаму адступленню, вось-вось павінен быў паказацца паварот у маленькі завулачак прыватнага сектару. У самай глыбі яго, пасярод шыкоўнага сада, асабліва прыгожага ў другой палове лета, размяшчаўся досыць вялікі і прасторны дом. І вось, пару крокаў не дайшоўшы да свайго паварота, Сяргей Васільевіч са здзіўленнем спыніўся, калі пачуў гук моцнага рухавіка. Завярнуў за вугал — і ўвогуле разгубіўся ад віду замежнага трэйлера, што стаяў каля яго брамы. Аграмадная машына, быццам дачакалася з'яўлення гаспадара — узравела рухавіком і рушыла Сяргею Васільевічу насустрач. Было чаму здзівіцца: калісьці службовая «Волга» не без цяжкасцяў трапляла ў вузкую прастору паміж агароджамі. А вось, аказваецца, што і такая змагла заехаць... Стары падаўся назад, таму што адлегласці паміж бартамі трэйлера і плотам як злева, так і справа амаль што не было. Кіроўца сядзеў у высокай кабіне, нібыта недзе на другім паверсе, і засяроджана ўглядаўся ў люстэркі задняга віду. Доўгае цела аўтафургона вельмі павольна выпаўзала з вулачкі, павярнулася да яго нязвыклымі нумарнымі знакамі і пачало няспешна аддаляцца.

Стары расхваляваўся. Ён хутка накіраваўся да хаты. Насустрач яму з веснічак выйшаў незнаёмы мужчына сярэдніх гадоў:

— О! Вы, напэўна, Сяргей Васільевіч! — прыгожа ўсміхаючыся, сказаў ён з ледзь заўважным акцэнтам.

— Так. А што тут без мяне адбываецца?! — амаль што закрычаў гаспадар.

— Вы не хвалюйцеся, калі ласка. Мы прывезлі Вам падарунак, ад вельмі блізкіх Вам людзей, якія Вы, здаецца, павінны былі чакаць! Я зараз патлумачу...

— Нічога я не чакаў!

— Зрэшты…– тон голасу стаў ветліва-халодным, — мая справа — выканаць сваю працу. Вось тут канверт з лістом і падрабязнымі інструкцыямі…

— Якія інструкцыі?! — працягваў абурацца стары.

— Там усё напісана. Усяго добрага, да пабачэння.

Незнаёмец хутка накіраваўся да трэйлера. Ляпнула дзверца, рухавік набраў абароты — і ў хуткім часе цішыня апанавала наваколле…

Любы збой ва ўласным распарадку сталаму чалавеку даецца нялёгка. А тут такое! Дрогкімі рукамі разарваў канверт і выцягнуў ліст.

«Нарэшце маю магчымасць перадаць табе тое, што ты, можа быць, сам не ведаючы, шмат гадоў чакаеш. Яго завуць Хатхі…».

Хрумстанне і гучнае шорганне пачулася за спіной — збоку агарода. Сяргей Васільевіч павярнуўся і застыў, адкрыўшы рот. Перад ім узвышаўся сілуэт аграмаднага слана!

Сяргей Васільевіч нейкі час прастаяў нерухома, потым асцярожна паварушыў рукой. Слон ляніва працягваў жаваць і не звяртаў на яго ўвагі. Сяргей Васільевіч асцярожна рушыў да вугла хаты. Слон толькі зрэдку патрасаўневераґодных памераў вушамі. Стары прыхіліўся да сцяны і аддыхаўся. «Здаецца, я разумею, аб якім падарунку ідзе гаворка… Толькі без панікі».

Грунтоўна патаптаўшы бульбу, слон аблюбаваў доўгі ўчастак з капустай. Паспрабаваў і моркву. Да канца дня Сяргей Васільевіч нават навучыўся пераганяць жывёліну з месца на месца. Выратавальная ідэя мільганула ў галаве атрымальніка незвычайнага падарунка, і ён паспрабаваў выгнаць свой гіганцкі набытак у вулачку. Але слон спыніўся каля яблыні, што расла на пачатку агарода, зацікавіўся яе пладамі– і больш не зрушыў ні на метр. За гэтым заняткам і засталі дзве несуразмерныя фігуры прыцемкі, што хутка згусціліся вакол.

За кухонным сталом, пад нізкай лямпай, што свяціла жоўтым святлом, у невясёлым роздуме гаспадар узгадваў падзеі дня. Нечакана магутны глухі стук скалануў сцены хаты. «Спаць заваліўся напэўна... Заўтра зранніцы паспрабую пайсці ў камунгас… Ці куды тут лепей звяртацца?»

Ён узяў у рукі канверт і выцягнуў ліст, які не дачытаў днём: «Памятаеш, табе гэтая ідэя прыйшла першы раз, калі мне было восем гадоў…». Восем гадоў? Што яна можа памятаць пра той час?! Раптам чамусьці ўзгадаліся стосы малюнкаў. З кожным днём іх рабілася ўсё больш і больш. Потым слёзы, плач, дзіцячая крыўда і пагрозы. Аднак пазіцыя «галавы» сямейства — адзіная правільная і непахісная: «Ні ў якую мастацкую школу ты не пойдзеш! Паперу можаш і так псаваць, нечага губляць час на пустое. У спецыялізаваны клас замежнай мовы яшчэ куды ні ішло, а глупства сваё выкінь з галавы, найшла занятак — карцінкі маляваць…».

Дзяўчынка залівалася слязамі:

— Вось вырасту, а ты будзеш стары, і папрасіш падарыць штонебудзь…

— Так, так! Папрашу, каб ты падарыла мне слана! — з'едліва здзекваўся бацька. Яму раптам стала вельмі смешна ад уласнага жарту. Нават настрой палепшыўся, і дзіцячы плач ужо не раздражняў.

— Добра. Размова скончана…



Сяргей Васільевіч прачнуўся каля шасці. Адчуваў сябе не вельмі хораша: доўга не мог заснуць. Адчыніў дзверы на кухню, зірнуў у вакно: з сада зазірала ў хату і пляскала гіганцкімі вушамі вялізная галава. «Згінь, нячысцік!» — сіпла вымавіў уладальнік падарунка…

Маладой дзяўчыне ў дыспетчарскай камунгаса Сяргей Васільевіч не стаў нічога тлумачыць. «Да дырэктара зараз не варта ісці…» — падумаў стары і накіраваўся да дзвярэй з надпісам «Галоўны інжынер». Гаспадар кабінета размаўляў па тэлефоне і рукой паказаў наведвальніку, куды прысесці. Скончыў размову, павітаўся, спытаўся пра мэту візіта.

— Разумееце, праблема такая… — Сяргей Васільевіч зрабіў паўзу, — па нейкай недарэчнасці да мяне ў агарод трапіў слон.

— У сэнсе…– перапытаў галоўны інжынер.

— Я зараз паспрабую ўсё патлумачыць, — спешна пачаў «дзіўны стары», як падумаў пра яго суразмоўца.

Сяргей Васільевіч пераказаў гісторыю з «фурай».

— Пачакайце, пачакайце, — азадачаны кіраўнік імкнуўся адшукаць логіку ў словах старога, — і што, яны выгрузілі Вам гэтага слана на агарод і з'ехалі?

— Менавіта так! — узрадаваўся Сяргей Васільевіч зацікаўленасці свайго суразмоўцы.

«Некалькі месяцаў таму прыходзіў спецыяліст па пад'ёме царквы з дна возера... Таго ўдалося закадзіраваць. Яшчэ аднаго з тыдзень таму забралі адразу адсюль у псіхіятрычную клініку. Патрабаваў дастаць дзядзю, які патануў у танку пасярод балота ў вайну. Шалёны быў, будаўнічая брыгада ледзь скруціла, а па гэтым, бачыш ты, і не сказаць: выглядае, здаецца, нармальна…»

— Ваша прозвішча, імя, імя па бацьку. Дакладны адрас...

У той дзень старому давялося пабываць у розных установах: у ветлячэбніцы, санэпідэмстанцыі, у аддзеле экалогіі райвыканкама, у лясгасе. Ён вельмі стаміўся ад бясконцых аповедаў пра гэтага «праклятага слана», ад рэакцыі тых, хто яго слухаў: спачатку яго прынімалі за вар'ята, потым шкадавалі, абяцалі дапамагчы, а за спінай смяяліся…

Увечары Сяргей Васільевіч ехаў дадому і таемна спадзяваўся, што за час яго адсутнасці з ІМ магло што-небудзь здарыцца, Пярун забяры гэтага Хатхі… Але, калі зайшоў на двор, зразумеў — усё засталося па-ранейшаму. Гаспадар здалёк кінуў тужлівы позірк туды, дзе яшчэ ўчора расла капуста, і няспешна пацягнуўся дадому.

На кухні наліў сабе кілішак каньяку. На вочы зноў трапіў ліст з канверта, які так і валяўся на стале. Разгарнуў пакамечаную паперу, начапіў акуляры — і адразу ж напароўся на фразу: «…табе вельмі спадабаўся твой новы жарт, і ты стаў карыстацца ім увесь час. Больш за ўсё я ненавідзела цябе ў тыя хвіліны, калі ты «вастрыў» наконт слана…».

…Ёй было гадоў дванаццацьтрынаццаць, яна прасіла купіць гітару, звычайную танную акустычную гітару. Але ў святле ідэалагічных райкамаўскіх рэкамендацыяў аб «прарошчванні расткоў сапраўднай пралетарскай культуры ў сучаснай моладзі» ён не мог дапусціць, каб яго адзіная дачка «сыйшла ў падваротні». Не гледзячы на ўсе забароны, дачка сама знайшла недзе старэнькую шасціструнку і старанна вывучала на ёй акорды. Ён употай лаяў сябе за тое, што «прагледзеў» такі важны выхаваўчы момант і ўвесь час наладжваў сцэны, напіраючы на тое, каб дачка больш не вярталася да гэтага «агіднага брынькання»…

Аднойчы, калі бацька знаходзіўся ў добрым настроі, дачка паспрабавала завесці размову аб электрагітары. Здаецца, перад сваім шаснаццацігоддзем… Пасля скандалу, які адбыўся пасля гэтай размовы, яна сыйшла з дому. Вярталася і знікала яшчэ шмат разоў…

Яна паступіла на адзін з гуманітарных факультэтаў сталічнага ўніверсітэта. Ён палічыў, што — насуперак бацьку. І аніяк не суадносіў паступленне ва ўніверсітэт з захапленнем дачкі стварэннем тэкстаў і напісаннем песен. Хаця і ведаў аб яе стасунках з «патлатымі» музыкантамі, а таксама пра тое, што яна, нібыта, спявае ў нейкай «камандзе» (і не ведаў аб шалёнай папулярнасці яе каманды ў сталіцы, ды пра тое, што ў іншых гарадах яе запісы перапісваліся з касеты на касету, як сапраўдныя рарытэты). Неўзабаве з ім «у неафіцыйных абставінах» сустрэўся чалавек з вядомага камітэта і давярлівы, па-свойску, параіў прыняць захады ў адносінах да дачкі. Але бацька занадта доўга думаў — дачку адлічылі з універсітэта. Пасля чаго яна ўвогуле надоўга знікла (але ж да хворай маці рэгулярна тэлефанавала, прыязджала да яе ў бальніцу, а калі-небудзь і на хвіліначку дадому). На той час бацька выйшаў на пенсію. Але працягваў займаць пасаду... Памерла маці. На пахаванні побач з дачкой увесь час быў нейкі нямецкі прадзюсар. З бацькам размовы не атрымалася. У хуткім часе дачка з'ехала ў Нямеччыну, дзе досыць паспяхова для эмігранткі працягвала займацца музыкай і запісвала альбомы на ангельскай і нямецкай мовах…

Тым часам чуткі пра слана, які жыве ў старога на агародзе, разнесліся па ўсім раёне. Быццам выпадкова ў двор да Сяргея Васільевіча спрабавалі зазірнуць зусім незнаёмыя людзі. А што казаць пра дзяцей? Яны акупавалі ўсю бліжэйшую тэрыторыю і з самага ранку не давалі спакою гаспадару. Сяргей Васільевіч намагаўся іх ганяць, але дзейнічала гэта не надта эфектыўна. Нечакана на падмогу змучанаму старому прыйшла яго сталая суседка Клаўдзія Пятроўна:

— Васіліч! І трэба табе ваявацца з гэтай ардой? Грошы з іх трэба браць, і ўсё будзе нармальна!

Стары толькі адмахнуўся:

— Пра што ты гаворыш, Пятроўна! Яшчэ не хапала мне толькі цыркам заняцца…

Але Пятроўна сама наладзіла справу і стала браць з хлапцоў сімвалічную плату за ўваход. Да вялікага задавальнення дзяцей, слон, як аказалася, умеў станавіцца на адно калена, і хлапчукі з лёгкасцю ўзбіраліся яму на спіну. Увечары Пятроўна зайшла на кухню, дзе сядзеў яе вельмі сумны сусед, і высыпала на стол ладную суму дробнымі купюрамі.

— Прыбрацца тут трэба было б… — аглядзелася жанчына вакол.

— Ды, гары яно ўсё гарам… — прабурчэў стары.

— Не сумуй, Васіліч, я табе дапамагу!..

Развязка ў гэтай гісторыі — таксама нечаканая. Аднойчы раніцай слон перастаў есці і праляжаў цэлы дзень. Пятроўна не падпускала да яго нікога з дзяцей. Наступным днём слон таксама не падняўся: ляжаў і цяжка дыхаў. А ноччу памёр…

Пятроўна ўвесь час дапамагала гаспадару наводзіць парадак у двары і ў хаце. Дайшоўшы ўвечары да ўборкі на кухні, яна выпадкова вымела скамечаны канверт. Ад вялікай цікавасці начапіла не свае акуляры і прачытала: «…Для мяне арганізавалі гастролі ў Варшаве, Вільні, Кіеве і Менску. Я папрасіла менэджэраў вылучыць час на паездку да бацькі. Я паслала табе тры лісты, але ты не адказаў. Я вельмі разхвалявалася! У Менску, у заапарку, я выкупіла старога слана. Зрабіць гэта было вельмі проста: былыя гаспадары ледзь звадзілі канцы з канцамі і з задавальненнем пазбавіліся ад аднаго з сур'ёзных пунктаў сваіх расходаў. Я дасылаю яго табе ў гонар тваёй таўстаскурасці… Але ж як бы там ні было, ведай: я ніколі не забываюся пра цябе і, напэўна, вельмі цябе люблю. Твая дачка Алена».

Пятроўна пацiснула плячыма, пакруціла паперу ў руках і кінула ў смецціцу…

**Друкуецца ў рэдакцыйным скароце**

ВЕРШЫ

# ДАБРАВЕСТ

Людміла ПАЎЛІКАВА



***

*D.I.*

*Хіба можна — святлом да болю?!*
*...Вочы шалыя... Кроў шумлівая...*
*Змею! Вусны твае куслівыя...*
*Адпускаю душу на волю.*

*Хіба ветру схавацца ў полі?!*
*...Вочы шалыя... Вёсны вешчыя...*
*Адпускаю душу на волю,*
*нібы птушку на Дабравешчанне...*

7.04.11

## Вечарніца

*1*
*Гарыць прастора.*
*Хмары, што дымы*
*над вогнішчам зямнога дня,*
*і мы*
*свой чалавечы дзень*
*кладзем на шалі*
*святла жывога*
*і жывое цьмы…*

*2*
*Знікаюць рэкі, царствы і народы,*
*старэюць фарбы, душы і дамы…*
*Услед за сонцам дні ідуць і годы —*
*за небакрай зыходзяць, як і мы.*

*3*
*Павеяла — забытым і нязбытным:*
*самотны вецер з захаду прынёс*
*абрыўкі слоў вячэрняе малітвы*
*і водар росных ладанаў нябёс...*

***

*Зямнога часу не замнога.*
*Што ж сілу траціць на жаханні*
*ды ў гэту цемру клікаць Бога,*
*які — у славе ды ў каханні...*

## На беразе часу

*Там хмызняком пабраліся лугі.*
*І ўсё ж… збірае прошлае даніну.*
*Пара прызнаць: і ў сэрца ёсць даўгі —*
*за крыўды запаволеную міну,*
*за слепату дзіцячае тугі...*
*Сягонняшняга часу берагі,*
*як хвалі, размываюць успаміны,*
*зрываюць з вуснаў: «Госпадзі, памілуй!» —*
*там, дзе табе я прашаптала: «Мілы...».*

## Акно ў нікуды

*Вось і другая пайшла вясна,*
*ці тое, што мы вясною завём.*
*Можна проста няўдала зірнуць з акна*
*і праваліцца ў сэрца сваё.*

*Там — донца сонца. Там доля — ў дым.*
*Пяшчоты — парахавая бочка.*
*...Мне б вочкам на цэбе — хоць адным,*
*хоць саменькім краем вочка!*

## Белы змей

*Змей голаў з кольцаў сваіх дастае,*
*сціскае ў абдымках дужых...*
*…Белыя ружы на маім стале*
*цалую крадком ад мужа…*

***

*Воды —*
*па полю снежнаму,*
*верыцца —*
*у бязмежнае,*
*верыцца —*
*у бязгрэшнае,*
*верыцца —*
*нават табе…*

***

*Звялі дарогі дзвюх жанчын,*
*двух даўніх вояў,*
*два позіркі, як два мячы…*
*…Ты — поле бою...*

***

*Лыжна. Снежна. Бязгрэшна.*
*І чамусьці смешна…*
*…Мне з табой…*

***

*Бераг. Строма. Промняў біццё.*
*Сэрца ўдары і ўдары слова…*
*Узыходзіць на асенні касцёр*
*неба сонцагалова.*

*Позіркам, як выцяў, працяў…*
*Вецер — нібы ў твар конскай грывай…*
*Скачам стромы танец жыцця*
*над абрывам…*

## Максімава крыніца

*Ірыне Перасецкай-Малаковіч*

*Там, дзе б'е Максімава крыніца —*
*лёс у лёс — што выстралам ва ўпор! —*
*стрэнуўся з лясною галубіцай*
*ветраны ад веку касагор.*

*На касым плячы не прытуліцца,*
*вецер, дождж — і тыя ўсе бягом.*
*Білася лясная галубіца*
*за душу ўтравелую яго.*

*Каб алень трубіў тут не аднойчы,*
*каб гудзеў наўкола стромы бор...*
*Аж да вечарніцы, самай ночы*
*слухаў галубіцу касагор.*

*Смягнучай душы не наталіцца —*
*вышні суд і вышні прыгавор...*
*Там, дзе б'е Максімава крыніца,*
*раз у год злятае галубіца,*
*раз у год спявае галубіца,*
*слухае ўтрапёна касагор...*

***

*Летніх ліўняў хэві-рок спачыў.*
*Вадасцёк — напаўпусты.*
*Мне здаецца, што ад роспачы*
*дрэвы скідваюць лісты.*

## Гервяты. Касцёл святой Тройцы

*Ніхто ні гаспадар тут*
*і не госць…*
*Быў свет, як ёсць —*
*адной суцэльнай сцэнай.*

*Мой дух гарэў.*
*І парк гарэў.*
*І сцены…*

## Брату Мікалаю

*(Алегу БЕМБЕЛЮ)*

*Зараз я думаю,*
*што ніколі не чула кропкі ў тым,*
*што Вы казалі,*
*як і не спатыкалася на кропку*
*ў Вашым бяздонна ласкавым позірку.*
*Можа таму ад першай сустрэчы*
*ўспрымала Вас маладзейшым ад мяне.*
*Сёння я чытала пра Вас, дзіця,*
*якое глядзела ў вочы Вялікай Айчыннай,*
*разумеючы, што болей ніколі*
*не скажу Вам «ты».*
*І не таму, што Ваш зямны шлях ужо*
*мае даўжыню*
*ў семдзесят зямных год.*
*Гэтае «Вы» — не адлегласць,*
*Гэта маё запозненае шматкроп'е да Вас.*

## Ялізава

*Там цячэ бярозава і юна*
*скрозь вякі праменная рака,*
*сноў маіх сярэбраныя струны*
*кратае дзіцячая рука…*

***

*На кліч крыві і ў глыбіні дум —*
*Па ўдарах сэрца майго іду…*



11 лютага беларуская паэтэса Людміла Фёдараўна ПАЎЛІКАВА (ХЕЙДАРАВА), аўтар кніг «Адведзіны рамонкавай паляны», «Твае свята», «Купанне ў росах» і інш., адзначыла свой юбілей.

Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў і «Літаратурная Беларусь» шчыра жадаюць доўгай вясны яе сэрцу, летняй натхнёнасці ды лютаўскага здароўя!

НЕВЯДОМАЕ АПАВЯДАННЕ

# ЖАЛЕЗНЫ КАМАНДЗІР

Васіль БЫКАЎ



Атака сарвалася.

«Як жа так?. Як жа так?. От, праклятая шпокаўка! Адкуль яна ўзялася?» — праз горыч, боль і адчай стукала ў яго галаве неадчэпная думка ўвесь гэты час несподзяваных ганебных уцёкаў ад вышыні ўніз, туды, у выратоўчыя рытвіны аўражыны, з якой гадзіну назад ён павёў людзей у атаку.

Ён ужо не спрабаваў падганяць байцоў, перастаў падаваць каманды — яго сарваны праступджаны голас толькі сіпеў, без следу патанаючы ў грымотнай ліхаманцы бою. І Клімаў бег перад усімі, ведаючы, што толькі так можна не даць роце легчы, і раз за разам пазіраючы то ў адзін, то ў другі бок, дзе лупцавалі мерзлую, голую ад снегу зямлю злыя чорныя чэргі гэтай праклятай аўтаматычнай тарахцелкі.

Распырскаўшы абцасамі лёд у вымерзлай да дна лужыне, ён пераскочыў дарогу, пераскочыў канаву з пыльнай ссохлай травой.

Траншэя была ўжо зусім блізка, праз якіх дваццаць крокаў, калі агністыя калючыя клубкі разрываў падкаціліся амаль пад самыя ногі камандзіра роты. Асколкі ірванулі перапэцканыя полы паўшубка, бы дубцом сцебанулі па кірзавых халявах ягоных ботаў. Клімаў упаў ужо каторы раз за гэты сакавіцкі ранак — з усяго маху, як бег, і збітыя да крыві калені адразу апёк боль. Але ён адразу зразумеў[:] гэта не рана, гэта аб зямлю. Лейтэнант ускінуў галаву — у траншэі, прыгнуўшыся, беглі кудысьці зялёныя каскі, на брустверы, калюча бліскаючы агеньчыкам, сек аўтамат, яго кулі пырскалі ў вочы лейтэнанта пяском[;] ротны ўскінуў пісталет і торапка стрэліў туды тры разы. Побач торапка ўдарыў з аўтамата Косця. Заскарузлым рукавом лейтэнант выцер потны, запырсканы зямлёй твар. Чарга тым часам з гулкім трэскатам па ўмерзлым у зямлю леташнім іржэўніку кацілася далей, можна было ўскочыць. Яшчэ дваццаць шалёных імпэтных крокаў-скачкоў па адхоне — і ён узляцеў на бруствер, стрэліў перад сабой у чорную шчыліну траншэі і кульнуўся туды. Адразу перад ім, здаецца, іншыя, хто мог, ужо ўсе паўбягалі ў гэтае глыбока і шырока разворочанае прыродай сховішча і туліліся да яго голага, падзеўбанага напярэдадні мінамі берага, хаваючы ад куль і асколкаў галовы. Тарахцелка збавіла імпэт і, нібы задумваючыся, з перапынкамі біла па самым краі, часам з пералётамі, і тады трасконтныя яе дваццацімілімятровыя снарады ірваліся ззаду, на другім баку аўражыны, між глеістых прамоін і гразкіх шэрых плям апошняга снегу.

«Адкуль жа яна ўзялася за ноч? Няўжо свежыя сілы?» — думаў ротны, стуліўшы за абрывам галаву. Сэрца яго шалёна гоцала ў грудзях, гарката стомы распірала лёгкія, у скронях з натужным звонам таўклася кроў. Ён выцягся на цвёрдым гліністым касагоры, з хвіліну аддыхваўся, затым, павярнуўшыся на бок, запіхаў у кірзавы кабур свой з драўлянай рукаяткай «ТТ». Пасля выглянуў на схіл пад вышыню, якая трохі ўжо суняла свой кулямётны вэрхал. Мацней за іншыя тачыла трывога за ардынарца Віцю Прахарэнку: ад самай дарогі ён згубіў яго. Але на схіле нікога жывога ўжо не відаць было, толькі там-сям бугрыліся шэрыя суконныя камякі забітых аўтаматчыкаў ды ля дарогі, наўскасяк перарэзаўшай схіл, з абвіслымі парванымі правадамі стаялі пасечаныя асколкамі слупы тэлефоннай лініі.

«І Смірнова не відно. І Пашы. Колькі ж засталося?»

Ён павярнуўся на другі бок — амаль побач на аўражным схіле, уткнуўшы твар у рукавы, ніцма ляжаў баец. З яго ўшчэнт пасечанага кулямі рэчмяшка выцягнуўся брудны вафельны ручнік, канец якога матляўся ад ветру на нерухомай спіне. Клімаў падцягнуўся і разы два штурхнуў ботам у чорную заскарузлую падэшву валёнка.

— Эй ты! Жывы?

Баец сапраўды варухнуўся, падняў на камандзіра змораны, зашчаціснены, ужо зусім не малады твар.

— Паранены?

— А хто яго… ведае. Не, здаецца. Замарыўся… От жа нарабіў гад… Каб на яго халера…

Баец заварушыўся, стомлена сеў, палез у кішэнь па курыва. Клімаў яго не ведаў (мабыць, ён быў з апошняга папаўнення, якое рота атрымала тры дні назад) і падумаў, што чалавеку для пачатку пашанціла нямала: куль з дзесяць, не меней, прайшло, не зачапіўшы, над самай яго патыліцай.

— Што ж гэта будзе цяпер, га, лейтэнант? Столькі пабіла! На фарміроўку адвядуць ці як?

— Ага, чакай.

— Няўжо ж пакінуць яшчэ?

Чуйна прыслухоўваючыся да таго, што рабілася наверсе, і раскручваючы чырвоную нямецкую маслёнку-партабак, ён з непрыкрытай трывогай глядзеў на камандзіра роты. Занепакоены сваім, Клімаў адной уцалелай рукавіцай збіў пыл з рассечанага асколкам бота.

— Тваё як прозвішча? — запытаў ён.

— Маё? Ды прозвішча такое… Дзеўкін.

— Доўга жыць будзеш, Дзеўкін. Азірніся.

— Хто, я?

Намацаўшы ззаду шкоду, баец пачаў бурчэць і лаяцца, а лейтэнант споўз ніжэй, падняўся і пайшоў уздоўж ручая па аўражыне.

Аўражына была даволі глыбокая, але хадзілі ў ёй толькі па адным баку: другі быў пад агнём. Цяпер, аднак, тут папрыціхла, напэўна, ужо ўсе пахаваліся і страляць не стала па кім. У гэтай цішыні стала чуваць, як грахаталі выбухі пад вёскай, дзе вялі бой іншыя роты палка… Па аўражному схілу ўніз да ручая спусціўся баец у кароценькім пакамячаным шынялі, тупнуўшы разы два пяткай валёнка, праламаў тонкі лядок і пачаў кацялкам зачэрпваць ваду. Ён таксама быў незнаёмы Клімаву. Незнаёмыя цяпер наогул трапляліся ў роце часта — полк шмат дзён у баях, і старых байцоў у ім засталося мала. Ды і сам ён у гэтай роце з'явіўся нядаўна, з тыдзень назад, да гэтага быў у іншым батальёне камандзірам узвода. Боты падварочваліся на касагорыне, ісці было няздручна. Клімаў спусціўся ніжэй да ручая. У аўражным берагe дзе густа, а дзе радзей, накапаным жвірам жаўцелі выдзеўбаныя за мінулую ноч ямкі-акопчыкі. Цяпер некатарыя з іх туліліся ў зямлі пустыя.

Над берагам сям-там тузаўся на ветры быльнёг, і ў небе плылі-кудлычыліся шэрыя хмары. Было сцюдзёна, дзень абяцаў непагоду. Клімаў пераскочыў ручай, следам зазвінелі тонкія ільдзінкі. Тут, ля заваротклі, была самая адкрытая мясціна, лейтэнант, увагнуўшы галаву, кінуўся бягом, але ў канцы не ўтрымаўся і азірнуўся на вышыню — у якім кіламетры над шэрымі рытвінамі бруствераў сноўдалі, знікалі і зноў з'яўляліся галовы ў пляскатых касках.

«Сволачы! Не баяцца», — са злосцю падумаў ён, забегшы за паваротак. Хаця, чаго ім было баяцца: боепрыпасаў у роце не хапала, ашчаджалі кожную абойму з тых, што, атрымаўшы па норме, старшына прывозіў уначы ў роту. Лацно немцам. Але хай, да пары, суцешыў сябе лейтэнант, зноў пераскочыў ручаіну. Па нейкай палеглай і вельмі гразкай траве ён перайшоў крывуліну чарговага паваротка і ў задуменні аж схамянуўся ад нечаканай сустрэчы: перад ім стаяў конь. Конь, відаць, быў прыблудны, чужы, не падобны ні на аднаго з чатырох ротных вараных абознікаў, якія, дарэчы, цяпер былі са старшыной у тылах. Спачатку Клімаў махнуў рукой, спрабуючы сагнаць яго з свайго шляху, але конь нават не адрэагаваў на гэтую спробу, толькі трошачкі прыўзняў голаў і з такім анямелым дакорам зірнуў на чалавека сваімі бліскучымі бяздоннымі вачмі, што Клімаву стала няёмка. Ён дакрануўся да яго маршчыністай шыі, натапыранай поўсць з дробнымі белымі плямкамі — слядамі даўніх памулак — зябка здрыганулася на яго хрыбце, конь зрабіў спробу пераступіць, кульгануў і зараз жа падабраў пад сябе заднюю нагу. Пасля ён працяжна, трудна ўздыхнуў. Стараючыся болей не патрывожыць жывёліну, Клімаў праціснуўся па сцяжыне ля яе боку і, прайшоўшы яшчэ крыху, палез угору, дзе перад гэтай няўдалай атакай пакінуў свой КП з тэлефонам да камандзіра палка.

За ўвесь час адсутнасці камандзіра роты на яго імправізаваным КП у глыбачэзнай старой варонцы на краі рова гаспадарыў тэлефаніст Тарасікаў. Ні наступленне, ні абарона, ні паспяховыя ці няўдалыя атакі — нішто, здавалася, не датычыла гэтага хлопца, які ведаў адзіны свой на вайне клопат, — сувязь. Што б там ні адбывалася навакол, ён, кавалкам бінта прывязаўшы да вуха трубку, карпеў над старэнькім УНФ, слухаючы і баючыся толькі за свой даўжэзны, безліч разоў ірваны і вязаны-перавязаны провад. Крыху вышэй за яго на апарожненай жалезнай шпульцы сядзеў ягоны напарнік — маўклівы з рабым тварам сувязіст, перад наступленнем прысланы да аўтаматчыкаў з роты сувязі.

Абрушваючы з берагоў варонкі падмерзлую зямлю, Клімаў ссунуўся ў яе дно на тоўстую заследжаную льдзіну. Тарасікаў як рупны падначалены пры з'яўленні начальства неяк няўлоўна падабраўся нутром, прыўзняўся, прыўстаў на каленях і крануў ручку апарата.

— Як сувязь? — прывычна кінуў Клімаў, і Тарасікаў з бадзёрай гатоўнасцю, тонам, у якім чулася трошкі выхвальнае «а як жа інача й», падхапіў:

— Ёсць, таварыш лейтэнант, — і, стрэльнуўшы на камандзіра прыгожымі выразнымі вачмі выхаванага, чуйнага хлопца, дадаў: — Тут вас дваццаць першы пытаўся.

— Даўно?

— Хвілін дзесяць.

Клімаў дацягнуўся на шчоках жаўлакі і, уклечыўшы на адно калена, пад адтапыранае вуха шапкі сунуў канец трубкі. Пакуль у трубцы шчоўкалі кантакты пераключэння, Клімава абдало духмяным араматам махоркі, ён ускінуў голаў і моўчкі працягнуў руку да сувязіста. Той паспешліва адкусіў канец недакурка, выплюнуў яго. Клімаў зручней сеў ля апарата: са дзве зацяжкі калі не зусім супакоілі яго, дык усё ж пасобілі сабрацца перад непрыемнай размовай.

— Пашы не было тут? — усё яшчэ чакаючы з трубкай ля вуха, запытаў ён Тарасікава, які глыбей забіваў у зямлю стары паіржавелы штых, што служыў зазямленнем.

— Не, не было.

Нарэшце ў трубцы шчоўкнула, буркнула, Клімаў засярodзіўся ўсім сваім вельмі брыватсным, вельмі абсіверным і ўсё ж, не зважаючы на гэта, маладым тварам.

— Слухаю, таварыш дваццаць першы.

— Што? Клімаў, ты? Што гэта ў вас сціхла там? Чаму не дакладваеш? Вышыня ўзята?

Клімаў зноў выдавіў на шархоткіх шчоках жаўлакі, рука яго намацала ў пале паўшубка дзірку, і пальцы з сілай ірванулі павісьлы з белай паўсцёй мэтлах скуры.

— Алё! Далажы, як вышыня.

— Вышыня на месцы.

— Га? Алё! Што цябе дрэнна чуваць? Як вышыня, я пытаюся?

— Возьмем вышыню.

— Што? Возьмем? Ага, возьмем! — голас у трубцы адразу зрабіўся пагрозліва-з'едлівы. — Да вас што, толькі цяпер загад да розуму дайшоў…

Угары раптам грымотна трэснула, Клімаў інстынктыўна хіснуўся ніжэй да апарата, зірнуўшы з-пад локця ў неба, — над ровам плыло невялічкае рудае воблачка брызантнага разрыву. Камандзір палка яшчэ нешта казаў, але Клімаў зноў не пачуў, аглушаны новым, яшчэ больш блізкім разрывам. У доле наўкола бы хто сыпануў жменяю дробных каменьчыкаў — пыхнулі і прапалі пад ветрам сотні пыльных дымкоў.

— Малакасосы! Спалохаліся дзясятка вшывых фрыцаў! Аўтаматчык[і] мне называецца! Куча дрэні вы пасля гэтага. Вы… — далёкім злым голасам шархацела трубка.

Клімаў апусціў на калені трубку і, безуважны да яе шорхату, пацягнуў бычок.

Але ў гэты раз над ровам зноў аглушальна трэснула, і вецер хутка пагнаў прэч новае воблачка. «Прыстрэльваюць, — падумаў Клімаў.

Працяг на стар. 16 (8) ►

НЕВЯДОМАЕ АПАВЯДАННЕ

# ЖАЛЕЗНЫ КАМАНДЗІР

◂ **Працяг.**
**Пачатак на стар. 15 (7).**

— Цяпер будзе». Прыўзняўшы ў паветра трубку, ён спачатку не зразумеў, чаго гэта маўклівы тэлефаніст бокам ссунуўся на яго, прываліўся да пляча, галава яго ўпала на руку з трубкай, і лейтэнант схамянуўся толькі, калі струмені крыві пабеглі па яго штанах. Аднае рукой Клімаў згроб сувязіста, адхінуў назад і тут жа адхіснуўся сам — уся скроня байца была разварочана асколкам, з страшнае раны на твар, плечы зашмальцаванай ватоўкі і на лейтэнантаў паўшубак лілася кроў. Клімаў вылаяўся і з усяе сілы ляпнуў на лёд недакурак.

— Дабяруся!.. — крычала трубка, калі Клімаў зноў прыклаў яе да вуха пад ссунутай набок шапкай. Гнеўныя, злыя, несправядлівыя словы, якія за хвіліну да гэтага выклікалі ў ім толькі прыкрасць, цяпер узарвалі яго.

— А што вы крычыце! Я не палахлівы! І не для вас ваюю! Вось! А вышыню — не горш за вас ведаю, што трэба ўзяць. Але вунь шпокаўка не дае.

— Во-во, так і ведаў! Дрэннаму танцору, ведаеш, што заўжды перашкаджае? Якая гэта яшчэ ў цябе шпокаўка?

— У немцаў, не ў мяне. Дваццацімілімятровая аўтаматычная гармата, вось! З фланга, ад Сахно. Ды кулямётаў няма ўжо, адзін ручнік застаўся. А ў іх шэсць на вышыні. Ды яшчэ шрапнеллю лупяць, — скарыстаўшы нечаканую паўзу ў камандзіравай лаянцы, скардзіўся Клімаў. — А ў маіх па тры абоймы на вінтоўку ды па дыску на аўтамат. Чым брацъ, скажыце?

— Расплакаўся! Чым браць? Чым вунь Сахно бярэ? Чым Кузняцоў наступае? Храбрасцю! Гераізмам! Адвагай! Чуеш, які бой ідзе? Пад самай вёскай ужо. А ў іх па адной абойме на ствол. Сам правяраў. Затое ўмеюць. І не пушчаюць у штаны, як вы!

— Няма каму пушчаць, — гэткім жа сварлівым тонам адказваў лейтэнант. — Трыццаць чалавек засталося. Ад усёй роты.

— От здзівіў: трыццаць чалавек! Вунь у Сахно па дваццаць у роце, і то не скардзіцца.

— Ну, у мяне яшчэ да гэтага не дайшло!

— Мяккацеласць праяўляеш, таварыш камандзір роты. У жаласць іграеш. Вайна ідзе, лейтэнант! Нечага шкадаваць для перамогі! Дывізіі гінуць! — перайшоў ужо на крык маёр і раптам закашляўся. Адкашляўшыся ж пасля паўзы, ужо мякчэй аб'явіў:

— Ладна, Клімаў. Карандашоў падкіну. Сёння зноў атрымаем. Прама з марша. Семак не прасі. Няма. А карандашы будуць. Ну, але і я з цябе скуру здзяру, калі ты мне да дванаццаці нуль-нуль не возмеш вышыню.

— Немцы скарэй здзяруць. Яны бліжай, — сказаў лейтэнант, але трубка ўжо змоўкла, і ён паклаў яе ў апарат.

Нейкі час ён сядзеў, утаропіўшы вочы і не бачачы нічога, апрач дробных пыльных струменьчыкаў крыві, якія з-пад цела забітага хутка паўзлі-каціліся на затаптаную плаху лёду ў дне варонкі. Хутка астываючы, кроў слаба парыла рэшткамі апошняга цяпла, побач сінім дымком струменіў у паветры недакураны «бычок». Лейтэнант дзеўбануў яго наском бота і выскачыў з варонкі ў роў.



Назад да свайго ланцуга Клімаў ішоў, не разбіраючы ўжо, дзе сцежка, дзе ручай, а дзе адкрыта і прастрэльваюць немцы. Адносіны да сябе з нейкага часу зноў сталі абыякавыя. Паўгадзіны назад ён бег з вышыні ў гэты роў, падаў, выкручваўся між разрываў, з усяе мочы стараючыся, як і ўсе, уберагчы сябе ад кулі або асколка, бо ў гэтым была найбліжэйшая небяспека і найбольшы клопат. Цяпер жа, разззлаваны і расстроены сваркай з начальствам, ён ураз згубіў усю ашчаднасць да сябе. Гэта было незразумела і дзіўна, каб задумацца аб тым, але думаць не было калі.

Агнявы бой на ўчастку суседняга батальёна Сахно ішоў без асаблівай сілы: тузалі паветра мінныя выбухі, гудзела зямля, кулямётная траскатня перамежвалася таропкім нязладным буханнем вінтовак. «Не падобна, каб Сахно дужа прасунуўся, — усухаўшыся, падумаў Клімаў. — Топчацца перад самай вёскай». Вядома, у такім становішчы яму нямала пасобіла, каб рота аўтаматчыкаў узяла гэтую праклятую вышыню. Але зноў жа, калі Сахно возьме вёску, тады лягчэй будзе ўзяць і вышыню. Вось табе і зачараванае кола, і разравацъ яго якой хітрасцю наўрад ці магчыма.

Насустрач яму ўздоўж ручаіны бег нізенькі, як здалося Клімаву, дужа шустры баец. Каска сядзела на яго галаве нейк бокам, каўнер шынялка быў пастаўлены, і зашмальцаваныя палявыя ромбікі пятліц, бы рожкі, тырчэлі ад падбародка. У абодвух руках падмышкамі баец трымаў распаратыя цынкі ад патронаў.

— З якога ўзвода? — запытаў Клімаў. Баец паслухмяна спыніўся.

— З першага, таварыш лейтэнант.

— Дзе Смірноў?

Баец прастадушна паціснуў плячмі.

— Хто яго ведае. Мусіць, там, — кіўнуў ён на вышыню. — Не прыбег.

Клімаў прамаўчаў, пасля кіўнуў на цынкі.

— Многа далі?

— Дзе там! Мала, — ахвотна, як пра балючае, загаварыў баец. — Паўсотню на ўсіх. Ды во яшчэ пяць фенек, — ён трасянуў цынку — і ў ёй важка грукнулі жалезам гранаты.

— Запалы не забыўся?

— Не. Во, — нязручна штурхнуў ён нагой абвіслую кішэню.

— Адразу ж зарадзіць. Магазіны таксама. Рыхтуйцеся да атакі.

Баец насцярожана ўскінуў голаў, з твару яго адразу знікла кароценькая бадзёрасць ад гэтай сустрэчы і камандзіравай увагі да яго спраў, дзве дробненькія зморшчыны скранулі яго абсіверанае пераноссе.

— Ёсць, — вяла прагаварыў ён і, чагосьці яшчэ чакаючы ад лейтэнанта, не ішоў, а глядзеў яму ўслед. Клімаў адчуваў гэтае замяшанне і гэты позірк, але не азірнуўся, каб не размякчаць свае халоднай суровасці, і на хаду кінуў:

— Сам павяду ўзвод.

Баец нявесела падабраў цынкі і пабрыў далей, а Клімаў, прыпыніўшыся, выцягнуў за цэпку з-пад палы гадзіннік: было без чвэрці дзесяць.

Ён пайшоў далей у трэці ўзвод, якім камандаваў малодшы лейтэнант Грэчка. Гэта быў цяпер адзіны камандзір узвода ва ўсёй роце. Што ён жывы, Клімаў ведаў пэўна, бо, бегучы з вышыні, бачыў, як трэці ўзвод раней за іншых паспеў схавацца ў рове і такім чынам найменш пацярпеў у той няўдалай атацы. Грэчка тады на беразе рова ўсё размахваў сваім ППД, аж покуль апошні баец яго не ўкрыўся ад агню.

Гэта было крыху на водшыбе ў тым канцы рова, які сама бліжай падступаў пад вёску з тае ўедлівай, такой ашалела-бязлітаснай гарматай. Роў тут рабіўся вузейшы і, мабыць, глыбейшы — голыя гліністыя абрывы зусім сціснулі замерзлую ручаіну, якая брала адсюль свой пачатак. Грэчкаўцы, відаць, акапваліся — з берага ўніз сыпалася зямля, і відаць было, як раз-пораз выляталі адтуль рассыпістыя лапаткі глею. «Ужо акапваюцца! Якія спрытныя», — злосна падумаў Клімаў. Ён ускарабкаўся па жорсткай калючай, бы наждак, кручы, крыху прайшоў і запытаўся ў байца ў ямцы, што назіраў за вышынёй, дзе камандзір. Баец паказаў у акоп за вымаінай, адкуль у паветра часта выляталі камякі зямлі.

Клімаў добра ўгрэўся, пакуль пералез тую вымаіну і дабраўся да ўзводнага. Грэчка так улёг у сваю працу, што не заўважыў ротнага і ўжо на самым брустверы ўссыпаў яму на шапку поўную лапату зямлі. Бокам прысеўшы на глей, Клімаў страхнуў яе ў акоп.

— А ну, вылазь сюды.

З акопчыка паказаўся разагрэты працай, белабрысы, з крутаватым падбародкам твар, на якім адзначыліся незадаволенасць і запытанне. Убачыўшы, аднак, Клімава, узводны адкінуў лапатку і лёгка выскачыў наверх. Гэта быў камлюкаваты, тугаплечы крапак, раcпрануты да гімнасцёркі з расшпіленым адкладным каўнярам, на чырвонаармейскіх пятліцах якой нечая няўмелая рука белаю ніткай насцягала па кубіку. На грудзях хлопца бліскаў ордэн Чырвонага Сцяга.

— Во вырыў, ніякая шрапнель не возьме, — аддыхваючыся і папраўляючы на рамяні чорны кабур трафейнага парабелума, сказаў ён. Затым накінуў ватоўку і апусціўся побач з лейтэнантам. Клімаў без цікавасці зазірнуў у акопчык.

— Возьме. Рыхтуй узвод да атакі.

Грэчкавы рукі замерлі на захінутых краях ватоўкі.

— Які ўзвод?

— Свой.

— Зноў?

— Зноў.

Грэчка змоўк, не спускаючы позірка з Клімава, затым ляпнуў нагой у ком глею, які, падскокваючы і трушчачыся ў драбязу, пакаціўся ў роў.

— Не павяду. Хай вунь Сахно тую балаболку ўбярэ. Тады пайду.

Клімаў зламаў высахлую сцяблінy быльнёгу і раструшчыў яе ў пальцах.

— Пойдзеш на левым фланзе. Ад ляска. Так паспрабуем.

— Пайшлі яны да д'ябла. Усе на роце аўтаматчыкаў выязджаюць. У мяне галава не затычка. Як-ніяк жыць хочацца.

Ён ускочыў, адышоўся вышай і сеў на накапаную зямлю тварам да вёскі. Пэўна, з вышыні заўважылі нейкі рух тут, і кароткая кулямётная чарга пранізала паветра над самымі іх галовамі; на тым баку рова з кручы пасыпалася жарства. Грэчка, спахапіўшыся, упаў на бок, Клімаў сеў ніжай. Чарга змоўкла. Настала няёмкая для абодвух паўза. Клімаў пазіраў кудысь на пагоркі па той бок рова. Ярыстая ўпартасць Грэчкі яго не здзівіла. Гэты малодшы лейтэнант быў самы трудны з усіх узводных у роце, Клімаў ведаў яго яшчэ з фарміроўкі, пазнаёміўшыся, калі яшчэ сам быў камандзірам узвода. Стаўшы ротным і не раз сутыкнуўшыся з ім, лейтэнант адчуў, што найлепшае, што можна супрацьпаставіць яго ўпартасці, гэта неаслабная суровая цвёрдасць. Вядома, ён мог бы і проста загадваць, не дапускаючы абмеркавання, але таго не хацеў, бо ўсё ж як-ніяк яны былі знаёмыя, свае хлопцы, і думалася, што можна абысціся без гэтага, па-сяброўску.

— Паспрабуем ад лесу, — сказаў ён, коратка зірнуўшы на ўзводнага. — Там шпокаўка не дастане. Ад вёскі ёй не відно. Праўда, так будзе далей. За адзін бразок не адолееш. Але паспрабуем.

Грэчка стаў на калені і рэзкімі нярвовымі рухамі ўздзеў у рукавы ватоўку. Твар яго гарэў ад абурэння і нязгоды, светлыя вочы пад белымі брывамі зыркалі халодным агнём.

— Так даспрабуешся, што ў роце нікога не застанецца. Лю-

дзей па-дурному нішчыць. Брухамі глыжы церці. Да дурыкаў надакучыла гэта. Ісці дык ісці. А то туды, як чарвякі, а адтуль, як зайцы, — бурчэў ён, не пазіраючы на камандзіра. І раптам загаварыў гучна і рэзка:

— Зноў жа патронаў няма. З чым ісці? Па тры абоймы на вінтоўку. Аўтаматных па жмені.

— У Сахно вунь па адной засталося.

— Мне Сахно не ўказ. Хай аб тым у самога галава баліць. І што ты не растлумачыш капэ? — так ён зваў камандзіра палка.

— Ты кулямёт зберажы, — казаў Клімаў сваё. — Апошні застаўся. Дыскі з чатыры збяры для яго.

— Што ты яму не ўтлумачыш, кажу? Дрэйфіш? Ты яшчэ яго не ведаеш: паддасіся, дык ён цябе заганяе. Дай я з ім пагавару. Я ў яго артпадрыхтоўкі патрабую…

Грэчка раптам ускочыў з гліны і [падаўся] да бруствера за аўтаматам. Клімаў крыва ўсміхнуўся аднымі вуснамі.

— Што тлумачыць? Усё растлумачыў.

Грэчка спыніўся на схіле.

— Ну?

— Ну і ну. Загадаў атакаваць.

Малодшы лейтэнант плюнуў і вяла апусціўся на зямлю. Памаўчалі. Пасля ўзводны насцярожана зірнуў убок цераз голаў Клімава.

— Сібірачка чэша, — зусім другім тонам — сцішана і без следу злосці сказаў ён. Клімаў таксама азірнуўся і паспешліва захінуў падраныя полы паўшубка. Унізе ўздоўж ручая торапка ішла сюды Паша.

Абодва камандзіры некалькі часу глядзелі ўніз на кароценькую дзявочую постаць у падрэзаным і туга падпярэзаным дзягай шынялі, касцы, непамерна вялікай на яе галаве. Паша была тоўсценькая, з празмерна поўнымі сцёгнамі; пераскокваючы рытвіны і камяні, яна няспрытна закідвала ў бакі ногі і размахвала аднае рукой, прытрымліваючы другой на баку сваю таўшчэзную санінструктарскую сумку. Лейтэнанты змоўклі, назіраючы, як дзяўчына ўскарабкваецца па крутым адхоне, як, узлезшы, папраўляе споўзлую на лоб каску і расслабленым зморaным крокам падыходзіць да іх. Яе шырокі, быццам расплюснуты твар, як заўжды зязяў здаровай маладой чырванню, адзінай адзнакай дзявочага хараства, якім так скупа надзяліла прырода гэту дзяўчыну.

Яна падышла да Клімава.

— Вы мяне шукалі?

Клімаў, зірнуўшы на яе, апатычна адвёў позірк.

— Я не шукаў.

Паша ссунула наперад сумку і стомлена апусцілася побач.

— А я з раненымі завазілася. Пакуль пасцягвала… Ой, і вы паранены! — спахапілася яна, убачыўшы яго парваныя полы.

— Не паранены, — няласкава адказаў Клімаў.

— Кроў жа…

— Кроў чужая. Тэлефаніста з роты сувязі…

Паша адкінулася на каленях і нахмурыла рэдкія броўкі.

— Што, памочнік смерці, многа мілёнкаў забінтавала? — грубавата запытаў у яе Грэчка. Паша ўздыхнула.

— Дванаццаць чалавек. Трое ляжаць: цяжкія. Ноччу трэба эвакуіраваць. Хайрудзінаў памёр. Толькі перавязала, гляджу, ужо ўсё. А Сокалаў на дарозе застаўся. Спачатку поўз яшчэ. Я — да яго, а яны з кулямёта. Дапаўзла — ужо гатовы.

— Сволачы, такую іх!.. — не зважаючы на прысутнасць жанчыны, салёна вылаяўся Грэчка. Паша заламала бровы і пачала скубсці з долу сухую леташнюю траву. Вецер падхопліваў яе з апэцканых ёдам пальцаў і кружыў над ровам. На Клімавым твары пульсавалі жаўлакі.

— Значыць перавядзеш узвод на той фланг, — закаляненеўшы нахмураным тварам, сказаў ён. — Праз гадзіну пачнем.

Грэчка падняўся на калені і, асабліва злы ў свае зацятай маўклівасці, пачаў зашпільваць рамень на ватоўцы, пасля моўчкі падабраў з бруствера ППД і палез у акопчык па гранаты і сумку. Калі ён схаваўся ў зямлі, Клімаў таксама ўстаў, паправіў на плячах свае кавалерыйскія партупеі і пачаў торапка збягаць уніз. За ім з асцярогай, рызыкуючы ўпасці, пайшла Паша.

За некалькі хвілін да атакі ён ляжаў на краі абрыву і пазіраў у канец рова пад лес, дзе Грэчка павінен быў падаць умоўны сігнал аб гатоўнасці яго ўзвода. Ззаду ў двух кроках ад яго, саставіўшы з кручы ногі, сядзела Паша і па свайму звычаю калупала шчэпкай зямлю.

Ішлі апошнія хвіліны цішыні, хутка, ведаў ён, яна знікне, на тысячы асколкаў расколецца громамі бою, небяспекі, і тысячы смерцяў пачнуць слепа сцябаць зямлю ў пошуках гэтых трыццаці шасці жыццяў, якія замерлі, стаіліся і нацэліліся цяпер на вышыню.

— Віця! Ну што, табе абавязкова весці ўзвод? Табе ж ротай камандаваць трэба. Можна б і не лезці на самы ражон — кулямёты ж, яны па ланцугу б'юць.

За ровам да пары свайго часу бруяў наліты вясновымі сокамі лес, вытаяўшы з-пад снегу, ажывала гатовая да сваёй адвечнае справы зямля. З кожным днём увачавідкі меншалі снегавыя лапікі — рэшткі па аўражынах, на падлесках, марнеў-падтайваў гразкі змутнелы лёд на забалацях. Ішла вясна, першая вясна вайны. Праўда, пакуль было холадна, абцяжвалася неба ад хмар, дзьмуў, не сціхаючы, рэзкі вецер, на мёрзлым доле прабірала да дрыжыкаў. Сцюжа і смерць. Сцюжа і смерць — вось што найбольш запомнілася з гэтай цяжкай, пакутна бясконцай зімы. І разам слабенькім балючым светлячком ліпела надзея — неспатольная, пастаянная, вялікая і меншая, слабая і мацнейшая — на круты паварот да перамогі ў гэтай несціханай калатнечы людзей са злом.

— Віць, а Віць… Ты чуеш?

— Чую, ну што? — з прыкрасцю павярнуў ён галаву да дзяўчыны. Скасіўшы вочы, тая злавіла яго кароткі позірк і ўсміхнулася з затоеным сумам.

— Нічога ты не чуеш. Пра другое думаеш.

— Ладна. Чакай. Каб сігнал не праглядзець.

— Давай трошачкі адстанем. Га? Як да дарогі дабяруцца, тады пойдзем, — з болем і сумам, не верачы ў тое, што яе паслухаюць, гаварыла Паша. Клімаў прыўзняў галаву.

— А ну паглядзі туды. Не махае?

Яны абодва ўгледзеліся ў канец рова, над якім залеглі, ужо не акапваючыся, аўтаматчыкі трэцяга ўзвода. Відаць было, як там нехта перабягаў ад аднаго байца да другога, пасля нехта з абрыву спускаўся ўніз. Не, сігналаў адтуль пакуль не давалі.

І будзе сонца на зямлі, і згіне сцюжа, і зазззяе шчасце перамогі, і знікне з зямлі крывавая чума — фашызм. Толькі той час ужо не для іх. Вельмі мудрона выжыць у такой вайне, у такой пякельнай віхуры смерцяў — так мудра, што і не варта дбаць аб тым — дарма і недарэчна. Гэтую ісціну Клімаў усвоіў даўно — іншай у яго не было. А была толькі справа кожнага дня і задачы, якія трэба было выконваць, было начальства і немцы — яны дыктавалі, вызначалі, усё ў ягоным жыцці залежала ад іх.

— Вунь я некалі служыла ў другім батальёне. Там ротны быў Сіязаў. Дык ён усю восень з акопа пракамандаваў. Залягуць дзе байцы — адразу яму акоп. Два ардынарцы былі. Здаровыя такія дзецюкі, усё капалі, капалі, — лілася ў напружанай цішы ціхенькая, добразычлівая гаворка дзяўчыны. Клімаў, не адрываючы позірка ад Грэчкавага ўзвода, намацаў і расшпіліў на баку кабур.

— Ну і што ж гэты Сіязаў? Дзе ён?

— Цяпер няма ўжо. Пад Кашырыным забіла.

— Ну вось. А гаворыш: капалі.

— Дзівак! Дык то выпадак. Ноччу на маршы былі. За дзесяць кіламетраў ад перадавой. Самалёты бамбілі і — асколкам.

— Вось іменна.

Шэсць кулямётаў, зараджаных і нацэленых у іх, стаяць на вышыні, варушыцца дзесятак аўтаматчыкаў. Вінтоўкі. Дзесьці стаілася да часу батарэя, гатовая абрынуць на іх шрапнель. Чакаюць. Боепрыпасаў ім не шкада. У немцаў іх многа. Віхура агню і жалеза запануе на гэтым касагорыстым лапіку зямлі, наўскасяк перарэзанай вузенькім, стаптаным жывёлай прасёлкам. Летась тут было збожжа, была сяўба і жніво, быў хлеб. Цяпер будзе іншае жніво без сяўбы. Трыццаць шэсць страхаў чакаюць таго — за сваё слабае, такое падатлівае пад жалезам цела, такое хліпкае сваё жыццё. І для кагосьці гэта ўжо апошні ранак, апошняя пядзя жыцця, апошні рубеж яго жыццёвага шляху. Толькі для каго? — вось якім праклятым і нікім ніколі не разгаданым пытаннем мучыць ад веку людзей вайна.

Але — трэба.

Трэба. Інакш нельга. Грукочуць, вурчыць, ірвецца ў вёсцы, джгаюць агністымі струменямі кулі, ірве цела метал. А трэба. Трэба ісці зноў туды, дзе ўжо ганялася смерць і за імі і дзе ляжаць вунь на іржышчы нерухомыя бугаркі таварышаў. Трэба.

— Ты вось што, Паша, — не паварочваючыся да дзяўчыны, сцішаным голасам сказаў Клімаў. — Ты прыйдзеш пасля. На вышыню. Цяпер пабудзь тут, з раненымі.

Паша грэбліва фыркнула, наморшчыла загнуты піпачкай носік, твар яе ад таго стаў яшчэ больш непрыгожы — дурнаваты і плаксівы.

— Во яшчэ. І не падумаю. Я ад цябе сёння не адстану.

Ён павярнуў галаву.

— Надумалася. А як жа другія? Раненыя ж будуць.

— Во я іх і дагледжу. Як вышыню возьмем. Так жа ты хацеў?

Клімаў махнуў рукой і зноў распластаўся ніц.

— З табой дагаворышся! Толькі вунь байцы глядзяць. Думаюць, да ротнага як прыліпла.

— Я не прыліпла.

Усё нішто. Усё можна стрываць. Трэба стрываць. Калі б толькі болей сілы. Болей магчымасці і болей справядлівасці. Рускі чалавек усё можа, усё ўмее, усё здолее, толькі трэба яму болей чалавечнасці ці што. Людскасці. Каб без крыку, без гарлапанства. Душэўней бы. І патронаў. І зброі болей. Тэхнікі. Дужа цяжка так: штыком і прыкладам. Перад вайной гаварылі: усё ёсць. Усіх пераможам. Любога агрэсара разаб'ём на яго ж зямлі. Варашылаў падлічваў шчыльнасць куль на кіламетр фронту, параўноўваў. У нас атрымлівалася за ўсе арміі больш. Яму апладзіравалі. Тым ганарыліся. У вучылішчах вывучалі тактыку наступлення, менш абароны. Адступаць ніхто не вучыў: у Чырвонай арміі адступленне не прадугледжвалася. Вінтоўка СВТ выдавалася за лепшую ў свеце. Аўтаматы забракавалі. На вайне за ўсё гэта расплаціліся. Тыя, хто быў не вінаўны ні ў чым. Заплацілі крывёю.

— Я не прыліпла.

— Што?

— Я не прыліпла. Калі так — то і не трэба. Я не ліпучка…

На абрыве зашуршэў глей, Клімаў азірнуўся. Паша, узмахваючы ўскінутымі рукамі, хутка, не разбіраючы шляху, збягала ўніз. Ззаду, шырока разышоўшыся ў разрэзе, хуценька матляліся полы кароценькай яе шынелкі.

— Ну і бяжы! Падумаеш!

— Устаць! Наперад!

Усё, што было дасюль — усе перажыванні, сумненні, клопаты — усё адляцела, знікла, быццам адсечанае назаўжды, засталося ў беззваротным былым. Наступіла новая часіна, пара новага быцця на страшным і няпэўным рубяжы жыцця і смерці.

Клімаў ускочыў, зірнуў у адзін бок, у другі, улавіў позіркам, як здрыгануўся нерухомы да гэтага рэдкі ланцужок яго аўтаматчыкаў і ірвануўся ў ветраную прастору поля.

Некалькі крокаў ён бег, але потым адчуў, што апярэдзіў іншых, і прытрымаў крок. Бліжэйшыя ад яго байцы ўжо ўсталі і беглі, уставалі далейшыя. Густаватай купкай высыпаў зводдаль узвод Грэчкі.

Вецер шкуматаў полы паўшубка, сцябаў па твары матузамі ад шапкі, але Клімаў не прыкмячаў таго — бег. Адна толькі думка кіравала цяпер усім — хутчэй! Хутчэй, пакуль не ўдарылі немцы, пакуль ціха, прабегчы б лішні хоць дзясятак метраў да гэтай вышыні, куды — ведаў ён — шлях вось-вось абарвецца мукай і потам. Кожная часцінка ягонага цела сціскалася, напружылася і чакала гэтага гатовага вось-вось грымнуць удару.

— Шась, шась… шась, шась, — мялі струхлелы іржэўнік боты, валёнкі, гамашы з абмоткамі, каляныя англійскія бацінкі, тупацелі трыццаць шэсць пар ног. Клімаў ужо ўвесь да самых пят выбег на адкрытае, убачыў перакапаную траншэяй вышыню — усю, ад лесу да пакатага схілу ў вёску, згледзеў, як матлянуліся там у бакі пляскатыя каскі, і ў той час вецер данёс слабы далёкі крык:

— Фойе…

Канец яго пакрыўся трэскатам дзясяткаў стрэлаў.

— Нічога, нічога, — казаў лейтэнант, не ведаючы каму — ні то сабе, ні то каму іншаму, хоць у громе і стукатні стрэлаў і сам не пачуў сваіх слоў. Кулі густа нізалі паветра, зыўкалі, вірашчэлі, на ўсе галасы скуголілі над зямлёй. Здавалася, нейкія нябачныя рукі тузалі за нябачныя даўжэзныя струны, туга напятыя ў паднябессі.

Шквал агню з вышыні адразу прыгнуў людзей да зямлі, нехта ўжо ўпаў. Клімаў адчуў, што патрэбен рывок, інакш рота заляжа. Падхоплены ўласнай рашучасцю, ён выскачыў наперад, ускінуў угору рукі — адну з пісталетам на вузенькім раменьчыку, а другой проста кулак і, азірнуўшыся назад да сваіх, закрычаў:

— Бягом! Бягом!!!

І, не аглядваючыся больш, што было сілы пабег.



[1962?]

ВЕРШЫ

# БАРОЧНЫЯ ЖАДАННІ

Алена ІГНАЦЮК

## Пластылінавыя людзі

*Пластылінавых я прадчуваю людзей.*
*Так старанна іх лепіць якісь чарадзей?*
*Шлю ім свой недавер!!!… Бачу ярасны твар:*
*бы ажыў Рабесп'ер — за ідэю змагар…*

*Пластылінавы твар разагрэўся-спацеў…*
*І той дэспат-герой іншым быць захацеў.*
*Стаў збіральнікам мар — птушку мне прадае*
*ў пластылінавай клетцы… Яна ж не пяе?!*

*І мяняюцца формы… твару мяккі авал …*
*Хто рамантыкам быў, той цяпер маргінал?*
*Не вясковы пастух — не сталічны паэт …*
*пачынае свой рух ў пластылінавы свет.*

*Пластылінавы люд запаўняе двары.*
*Прадчуваю завеяў выццё…*
*Пластылінавы твар мне, вядзьмак,*
*не дары:*
*Не чужое — сваё пражываю жыццё.*

## Барочныя жаданні

*Снег пачаў сваю дзіва-мелодыю,*
*пад нагамі марозна скрыпеў.*
*І якому даверыла злодзею*
*я найлепшых жаданняў напеў?*

*Снег дарыў зіхатлівыя пацеркі,*
*вёў мяне ў французсканскі касцёл.*
*Нас спынілі барочныя зацемкі.*
*Дзесь разбіўся скульптурны анёл.*

*Самазванец, ці злодзей зняволены…*
*Няўжо лордам сябе падае?*
*Снег імклівы, барочны, намолены…*
*Як жаданні мае — растае.*



*Не мадысткай-артысткай, прарочыцай…*
*Не з малюнкавых стансаў сышла…*
*Снегу-злодзею ведаць так хочацца,*
*што я ў стылі барочным знайшла.*

## Для мяне ты згубіўся…

*Я на беразе гэтым…*
*На тым беразе — ты:*
*чую тонкія гукі віёлы.*
*Выйшлі з дзіўнай карэты*
*на пясок залаты*
*двое ў белых намітках…Анёлы?*

*І гудзела рака,*
*і той бераг звінеў,*
*і лілася віёльная песня…*
*А я чула запеў*
*(нават вецер знямеў) —*
*«…пацалунак не згублены…вясні…».*

*Ці стаў фурманам ты:*
*зіхаціцца плюмаж…*
*і ліўрэя прапахла анісам…*
*А анёлы куды? На размораны пляж…*
*Твары іх — без выразных абрысаў.*

*Перламутравы дождж у прасторы павіс.*
*Бераг той ад мяне аддаліўся:*
*абязлюдзены пляж, і картэж, і аніс…*
*І на беразе гэтым — для мяне ты згубіўся!?*

*А купанне анёлаў у рэчцы…Дзіўна!?*
*Мыюць крыльцы, іх вочы — суніцы…*
*Калі спыніцца дождж,*
*то пасцелюць радно*
*на пясок з пахам рыжай карыцы…*

## Забыццё

*Думкі ў вырай ляцяць,*
*каб вярнуцца вясною.*
*А са мною одно пачуццё…*
*У калядны мароз…за вадою святою*
*да касцёла іду — не дайду.*
*Забыццё.*
*Паўтараецца рух.*
*І прасторы малюнак.*
*Кожны дзень да касцёла*
*іду-не дайду:*
*сустракаецца гном,*
*які цягне ў завулак…*
*З ім мяняю, губляю хаду…*

*Возьме гном мае дзённыя дробязі,*
*мае сваркі з зімою — да слёз…*
*Як з высокаю нотаю ў голасе*
*літургію пачне пінскі ксёндз.*

* * *

*На люстэрку тонкай парай*
*малявана птушка-Дзіва.*
*З маім тварам? Мая мара?*
*Цела — нібы аблачына…*
*А прычоска — Гамаюнам,*
*песняй з сонечнага раю…*
*Я ў блакітным? Ці ў зялёным?*
*То з'яўляюся…Знікаю…*
*Тонкай пенай! Белай марай!*
*Слаўлю новы дзень вясновы.*
*На люстэрку піша парай*
*хтосьці няўлоўленыя словы.*
*Мо, анёл? З якога неба*
*мне даносіць, каб прыкрыцца —*
*ліст зялёны, лустку хлеба…*
*Сон Адама мне ўсё сніцца.*

## Ў тое чэрвеньскае лета

*Птушкі ведаюць: «Дзе я?*
*Дзе жыве мая надзея?*
*У дупле ваверкі рыжай,*
*каб сваё адчуць узвышша…»*

*Мне здалося: Грыбаедаў*
*у Паскевічаў абедаў…*
*Ў тое чэрвеньскае лета.*
*З ім кузіна — Лізавета.*

*Яна моўчкі разглядала*
*ў кольцах рукі генерала.*
*Ён з вайны прывёз навіны…*
*Посуд, ружжа і масліны.*

*Разліваецца вішнёўка.*
*І радзее дым кальяна.*
*І французская гаворка…*
*І скульптурная Дыяна…*

*Бляск саксонскага фарфору…*
*У блакітнай зале танцы.*
*Госці клічуць Тэрпсіхору…*
*А з партрэта граф Румянцаў —*

*пагляда́ў на Лізавету*
*ў тое чэрвеньскае лета.*

23 лютага Алена Аляксандраўна ІГНАЦЮК адсвяткавала «палову поўні» свайго веку.

Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў і «Літаратурная Беларусь» зычаць ёй і надалей душэўнай акрыленасці і радасных жаданняў!

# ТАБЕ І МНЕ

Анатоль ТРАФІМЧЫК

## Ich sterbe

*Дыпціх*

*I*
*Я не хачу памерці на світанку,*
*На ўсходзе дня, якому ружавець.*
*Хай rock-and-roll заркестрыць*
*заўтра медзь! —*
*Я не хачу памерці на світанку.*

*Хаця засмягнуць вусны, ледзь-наледзь*
*Не папрашу шампанскага я шклянку, —*
*Я не хачу памерці на світанку,*
*На ўсходзе дня, якому ружавець.*

*II*
*Прывітанне старым вераб'ям!*
*Захварэла душа на сухоты*
*І крычыць з падмануты самоты:*
*Прывітанне старым вераб'ям!*

*У сябе запытаўшыся, хто ты? —*
*Адказаць на пытанне няўцям.*
*Прывітанне старым вераб'ям!*
*Захварэла душа на сухоты.*

* * *

***Жизнь, по-моему,***
***это дарёный конь.***
*Д. Сэлинджер*

*Ад дзяцінства не плакаў наўзрыд,*
*Хоць хацелася вельмі, — паверце.*
*Уцячы безгалова ад смерці*
*Не памог ні mein Gott, ні Майн Рыд.*

*Ад дзяцінства мой светлы настрой*
*Пралятаў, як па глосах Рэмарка.*
*Не чытаючы нават Рэмарка,*
*Не пазычыш у фатуму мрой.*

*Ад дзяцінства у зубы каню*
*Заглядаць мяне прагне і прагне.*
*Растрывожылі Ніцшэ і Вагнер,*
*І паставіў да сценкі Камю.*

*І не плачацца болей наўзрыд.*
*Не бушуюць вербальныя смерчы.*
*Уцякліся пачуцці ад смерці:*
*Праз кірыліцу ды — у санскрыт.*

* * *

*Восень стаіць на дварэ —*
*Час незваротна бяжыць.*
*Нехта раней з нас памрэ,*
*Нехта павінен пажыць.*

*Некаму будзе лягчэй —*
*Хто ўжо дадому сышоў,*
*З левага ж боку плячэй*
*Не зарубцуецца шоў.*

*Будзеш мяне ты чытаць*
*І не адолееш слёз,*
*Я ж прабяруся, як тацць,*
*Гэтым радком у твой лёс.*

## Табе

*Давай з табою жыць і плакаць,*
*Смяяцца потым да істэрык...*
*Украўшы лёгкасць у Кундэры,*
*Давай з табою жыць і плакаць.*



*Калі захочацца нам веры,*
*Нас паглыне пасцелі мякаць.*
*Давай з табою жыць і плакаць,*
*Смяяцца потым да істэрык...*

* * *

***Как Вы милы!..***
***А. С. Пушкин***

*Нам лепей застацца на Вы*
*і думкі выказваць намёкам,*
*каб змесціва галавы*
*і сэрца нябачным для вока*
*было і спакойным для нерваў. Лепей застацца на Вы,*
*прычым захаваць нежывы*
*тон гутарак нашых, і вершыкаў не пісаць і тым больш*
*цябе не знаёміць з такімі,*
*што выклікаць могуць боль,*
*якога ўжо сэрца не прыме*
*і выштурхне ў месяц, дзе швы*
*пасля накладуць на руцэ.*
*Супынім жа гэты працэс,*
*нам лепей застацца на Вы.*
*Саткуць паасобку ставы*
*сувоі жыццёвых абзацаў...*
*Ці лепей застацца на Вы?*
*То лепей зусім не застацца.*

## Хто прыдумаў назву цыгарэт

*Мой дзед*
*прыдумаў назву цыгарэт,*
*з рыдлёўкай стоячы сярод*
*балот*
*Усходне-Еўрапейскае раўніны.*
*І не ад песень салаўіных —*
*пад здзекі,*
*пабоі*
*і кпіны.*
*Злучалі рэкі,*
*валілі хвоі*
*і брудам абрасталі,*
*каналі*
*на тым канале.*
*Таварыш Сталін*
*і пяцігодкі…*
*Дыягназ быў кароткі.*
*А курс лячэння наадварот:*
*за проста так «дзясятка».*
*Стагнаў народ*
*каторы год:*
*ішла татальная пасадка,*
*каб думаў,*
*думаў,*
*думаў дзед,*
*і мой,*
*і твой,*
*і нейчы,*
*над назвай цыгарэт —*
*ажно балелі плечы.*

*Гады прайшлі,*
*а на зямлі*
*ўжо новыя галовы*
*рыхтуюць новы*
*гатунак цыгарэт,*
*але памёр мой дзед,*
*і назву прыдумляць (ці не!)*
*табе і мне.*

РОЗГАЛАС

# СЛОВА ПРА «СЛОВА»

Уладзімір КРУКОЎСКІ

**Маецца на ўвазе «Слова аб палку Ігаравым Ігара сына Святаслаўлева ўнука Алегава». Такая поўная назва гэтага, бадай што, самага знакамітага літаратурнага помніка ўсходнеславянскай літаратуры.**

Сёлета сумны юбілей «Слова». 200 гадоў таму ў маскоўскім пажары 1812 года згарэў арыгінал гэтага твора. Знойдзены ён быў графам А.Мусіным-Пушкіным, вядомым на той час калекцыянерам-бібліяфілам. Дарэчы, паведаміў Еўропе аб гэтай знаходцы ў 1797 годзе нейкі гамбургскі часопіс. І тут, бачыце, немцы першыя.

Засталіся пасля пажару дзве копіі (спісы), адна ў Мусіна-Пушкіна, іншая — зробленая ў свой час для расійскай імператрыцы Кацярыны Другой. У 1800-м годзе граф апублікаваў свой варыянт, і з тае пары, ужо больш за дзвесце гадоў, ідзе бесперапынная творчая праца з гэтым тэкстам. Артыкулы, кнігі, сотні перакладаў і тлумачэнняў, нават цэлая энцыклапедыя «Слова» — кніжную шафу можна сабраць. І гэта нягледзячы на тое (а, можа, і дзякуючы таму), што сапраўднасць тэксту ўсё яшчэ выклікае сумнеў у даследчыкаў, тэкстолагаў, лінгвістаў. Каму яго толькі не прыпісвалі: і гісторыку Карамзіну, і самому Мусіну-Пушкіну, і ягонаму сябру Бантыш-Каменскаму, і нават чэху Даброўскаму. Савецкі навуковец А. Зімін цэлую кнігу напісаў на гэтую тэму і нават вылічыў сапраўднага аўтара: архімандрыта Спаса-Яраслаўскага манастыра Іаіля Быкоўскага. Утварылася цэлая школа скептыкаў, не толькі расійскіх, але і еўрапейскіх (немцы, французы).

А тэкст жыве і працягвае карміць (інтэлектуальна, зразумела) цэлы легіён гісторыкаў і географаў, лінгвістаў-этымолагаў, паэтаў і фалькларыстаў. Адны шукаюць месца напісання тэксту, іншыя ўдакладняюць час напісання ці храналогію падзеяў, хтосьці спрабуе вызначыць этнічную прыналежнасць аўтара. Гадоў гэтак 35 назад аўтар кнігі «Аз і Я» Алжас Сулейменаў вышукаў у тэксце «Слова» шэраг цюркізмаў і прапанаваў аўтара — абруселага полаўца ці наадварот — цюркізаванага славяніна. Што ж, кожнаму сваё. Найбольш працы кожнаму навукоўцу ці нават чытачу задаюць гэтак званыя «цёмныя» месцы ў тэксце «Слова», малазразумелыя ці наогул невытлумачальныя выразы.

З адным з такіх «цёмных» месцаў звязаныя мае ўспаміны са школьных гадоў. Было гэта ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, а дакладней — у 1953-м годзе, у 9-м класе Ружанскай сярэдняй школы, што на Берасцейшчыне. На ўроках рускай літаратуры настаўніца ўсім загадала вывучыць на памяць 20-25 радкоў са старажытнага тэксту «Слова». Кожны мог выбраць кавалак, які хацеў. Мне дык спадабаўся пачатак, «не лепо ли ны бяшеть братие» і г.д. Але кожны раз, даходзячы да словаў «растекашется мыслию по древу», я спыняўся — узнікаў макабрычны вобраз баянавых мазгоў, размазаных, расцёкшыхся па галінках дрэва. «Серым влком по земли, шизым орлом под облакы» — зразумела. А вось расцёкшыхся мыслі (думкі) ну ніяк не стасуюцца. Інтуіцыя падказвала, што да гэтай звярынай парачкі мусіць быць нехта трэці. Як у фальклоры: тры браты, тры дарогі, тры галавы і г.д. Але інтуіцыяй усё і абмяжоўвалася.

Ішоў час, ішлі гады, надышоў 1990-ы год. У Вярхоўным Савеце БССР створаная фракцыя БНФ «Адраджэнне», Беларусь вось-вось стане незалежнай дзяржавай. Зянон Пазняк прапануе мне распрацаваць канцэпцыю першай эмісіі беларускіх грошай (асігнацыяў), ведаючы маю неблагую абазнанасць у геральдыцы, эмблематыцы, сфрагістыцы. Даручэнне выкананае, вызначаныя наміналы, назвы, памеры і нават малюнкі, і Зянон з папкай-канцэпцыяй, з абгрунтаваннямі і эскізамі ходзіць па калідорах колішняй кебічаўскай улады. Потым гэтыя матэрыялы асядуць недзе ў нейкім сейфе, а замест гістарычных асобаў, гістарычных помнікаў, гістарычных мясцінаў у нашых партманэ і кішэнях неўзабаве з'явіцца звярынец з грызунамі, драпежнікамі і парачкай траваедных.

Кажаце, пры чым тут «Слова»? А вось пры чым. Працуючы над вышэйзгаданай канцэпцыяй, прачытаў, прагартаў, прагледзеў процьму матэрыялаў на тэму грашовых сістэмаў. Дабраўся да таварных грошай нашых продкаў, яшчэ ў даманетны перыяд. А грашыма ў старажытных славянаў служылі шкуркі дробных звяркоў: вавёрак, ласак, гарнастаяў, куніц. Вавёрка — яна ж веверыца, белка, векша — была самай дробнай грашовай адзінкай. Чытаючы пра «веверыцу» — натыкаюся ў Даля на назву «мысь». Так называлі гэтага звярка на Пскоўшчыне. Далей — болей. Трубачоў дадае яшчэ адно імя: «мыслія».

І тут у маёй памяці ўсплывае школьнае ўражанне ад «цёмнага» месца «Слова». Падказкі пасыпаліся адна за адной. Успомніце сюжэт са скандынаўскай міфалогіі. Вавёрка з забаўным іменем «Рататокс» бегае па сусветным дрэве, якое сімвалізуе трыядзінства нябеснага, зямнога і падземнага і служыць пасярэднікам паміж арлом (неба) і змяёй (зямля).

Ізноў спытаецеся: пры чым тут скандынавы? А варагі! Яны ж не адзін год пасвіліся на нашых землях і прынеслі з сабой, напэўна, не толькі добрую зброю. Ёсць нават меркаванне, што першую царкву ў нас збудаваў, яшчэ да хрышчэння Русі, нейкі


СЛОВО
О ПЛЪКУ ИГОРЕВѢ,
ИГОРЯ СЫНА СВЯТЪСЛАВЛЯ,
ВНУКА ОЛЬГОВА.

Не лѣпо ли ны бяшетъ, братіе, начяти старыми словесы трудныхъ повѣстій о пълку Игоревѣ, Игоря Святъславлича! начати же ся тъй пѣсни по былинамъ сего времени, а не по замышленію

7

вараг Торвальд. Другая падказка — з беларускай мовы. Дзеяслоў «уцякаць», хутка бегчы. Значыць, не «растекашется» Баянава вавёрка па дрэве, а разбягаецца. А тут яшчэ суседзі, палякі падкідваюць аргумент. Паляўнічы па-польску — «мыслівы». І не таму, што польскія паляўнічыя — самыя разумнікі. Мыслівы паляваў на мыслію-вавёрку. Бо здабычай былі чыстыя, натуральныя грашовыя адзінкі. А ўявіце сабе, якім майстэрствам трэба было валодаць, каб патрапіць у маленькага, спрытнага, імклівага звярка паміж лісцяў, галінак і сучкоў. Ды яшчэ і шкурку не папсаваць. Мыслівы былі асамі ў сваёй справе, снайперамі бронзавага і жалезнага вякоў, таму і захавалася іхнае імя праз тысячагоддзі.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Падказка з мінскай тапанімікі. Была калісь у сталіцы вуліца Дабрамысленская (захаваўся, праўда, толькі завулак з такой назвай). І вяла гэтая вуліца ў паўднёва-заходнім напрамку, дзе да Менска падступала вялікае лясное ўрочышча, парослае дубамі, хвоямі, елкамі ды ляшчынай. А гэта значыць — жалуды, шышкі, арэхі. Ёсць дзе вавёрачкам (мысліям) хавацца, гадаваць дзетак, хапае ежы. Таму і называлася гэтая мясціна «Добрыя мыслі». Слова ж «добры» азначае не толькі «ласкавы» ці «якасны». Гэта ж яшчэ і багаты, і дужы, і вялікі («добры кавалак»), і шматлікі («добрая сотня»). Так што «Добрыя мыслі» — гэта шматлікія і якасныя вавёрчыны шкуркі.

І што мы маем у астатку? У астатку — творчы метад Баяна-літаратара, як яго разумее таямнічы аўтар або геніяльны містыфікатар «Слова аб палку Ігаравым...». Баян, прыступаючы да новага твору («аще кому хотяше песнь творити»), узіраўся ў праблему, падзею, асобу з вышыні арлінага палёту, ствараючы агульную карціну чарговай «песні». Старанна вывучаў усе нюансы, дэталі, факты, як вавёрка, што лётае па сучках і галінках дрэва, абнюхваючы, абмацваючы, каштуючы ўсё на зубок. Як шэры воўк, ішоў па следу, кіруючыся зрокам, слыхам, нюхам і, безумоўна, інтуіцыяй.

Зусім як сучасны пісьменнік. Асабліва гістарычнага жанру.

ПАМФЛЕТ

# ДЗВЕ МАРЫ ПРА АДНО

Віталь ВОРАНАЎ

**Распавяду пра двух пісьменнікаў з адной невялікай краіны, недзе не ў цэнтры Еўропы. Іх аб'ядноўвала не толькі краіна, але таксама захапленне ўзнагародай Нобеля.**



Так атрымалася, што яшчэ ніводзін пісьменнік, які паходзіў адтуль, ніколі не быў уганараваны славутай літаратурнай узнагародай. Факт гэты не дазваляў нацыянальнай літаратуры «заняць свой пачэсны пасад між народамі», як напісаў калісьці класік. Адзін з двух пісьменнікаў, добра ўсведамляючы сваю місію і адказнасць, пачаў рабіць усё магчымае, каб Нобеля ўрэшце ды атрымаць. Спярша ён разнаёміўся і паддабрыў усіх магчымых патэнцыйных перакладчыкаў, якія перакладалі з ягонай мовы, пазней разаслаў свае кніжкі ва ўсе паважныя ўстановы Скандынавіі, а таксама Рыму, Парыжу, Лондану і Берліну, пасля паспрабаваў увайсці ў камітыву з уплывовымі прафесарамі літаратуры ў Кембрыджы, Оксфардзе, Сарбоне, і, вядома, у Стакгольме. Урэшце праз іх ён паспрабаваў, трэба прызнаць, не без пэўнага поспеху, выйсці на некаторых сябраў таемнага журы і нават на саму каралеўскую сям'ю.

Паўсюль, дзе яму даводзілася быць, ён апавядаў пра пякучасць праблемы недаацэненасці вялікай літаратуры ягонага народа, пра яго шматпакутную гісторыю і тулачы кон. Каб не быць галаслоўным, пры першай магчымай нагодзе ён нават сам прыняў на сябе функцыю выгнанніка і з'ехаў з краіны, гучна запратэставаўшы супраць нежадання ўладаў падпісаць міжнародную дамову па ахове канадскай казаркі. Больш за гэта, пісьменнік вывучыў жыццяпісы ўсіх лаўрэатаў узнагароды, сам пераклаў ці паспрыяў у перакладзе амаль паловы літаратурных наблістаў на яго родную мову, напісаў нават паэму пра тое, як у 1914 годзе ўзнагарода была фактычна ўжо аддадзеная ягонаму суайчынніку, аўтару незабыўнага радка «заняць свой пачэсны пасад між народамі», але ўбачыўшы, як разгараецца самая жахлівая за ўсе вякі гісторыі вайна, вырашылі ўпершыню ўстрымацца ад яе ўручэння. Паэма заканчвалася метафарамі пра несправядлівасць і нешанцаванне, якія былі, відома, алегорыямі на магчымасць і патрэбу выпраўлення мінулага ў сучаснасці.

Другі ж пісьменнік з той самай краіны выбраў абсалютна процілеглую тактыку. Ён застаўся ў краіне і з усіх сілаў сваёй творчай энергіі пачаў крытыкаваць ідэю ўручэння Нобелеўскай узнагароды. На пачатак ён дакладна праштудыяваў біяграфію заснавальніка ўзнагароды Альфрэда Нобеля — з мэтай выстаўлення яго навуковай дзейнасці ў як мага найгоршым святле. У эсэ пад назвай «Нобель-Шнобель» пісьменнік засяроджваў увагу на амаральнасці вынаходніцтва дынаміту, найбольш смерцяноснага рэчыва ўсіх часоў. Раскрытыкаваўшы фундатара прэміі, пісьменнік узяўся за вербальную вайну з каралеўскай дынастыяй, выстаўляючы яе як апошніх прайдзісветаў і непераўзыдзеных авантурнікаў. Затым ён перавёў увагу чытацкай публікі на палітызаванасць пастановаў, якія выносіліся камітэтам, з дакладным пералікам усіх такіх выпадкаў і з не менш дакладным прыбліжэннем гістарычнага і палітычнага кантэксту. У канцы ён напісаў уяўную прамову для інаўгурацыі ўручэння ўзнагароды яму самому, якая пачыналася пералікам лаўрэатаў, што адмовіліся ад прыняцця ўзнагароды, і працягвалася асуджэннем неадэкватнасці памкнення парумільённага народа ўплываць на літаратурныя густы ва ўсім свеце.

Хтосьці мог бы падумаць, што другі пісьменнік не хацеў атрымаць узнагароды Нобеля. Дзе там! Яны, два творцы, адрозніваліся амаль ва ўсім, апрача аднаго. Ніводзін з іх ніколі не пакінуў мары пра яе атрыманне.

Вось такая гісторыя двух пісьменнікаў з адной невялікай краіны недзе не ў цэнтры Еўропы. А якой будзе гісторыя трэцяга і чацвёртага пісьменнікаў з той самай невялікай краіны, пакуль яшчэ не ведаюць ні чытацкая аўдыторыя, ні Нобелеўскі камітэт, ні самі пісьменнікі.

ПАЭЗІЯ

# СНЕЖНАЯ АЗБУКА ЧАРНАГОРЫІ

Аднаго з выбітных сучасных паэтаў Чарнагорыі Андрыя Радулавіча ведаюць далёка за ягонымі роднымі гарамі: паэтычныя творы Андрыя перакладзеныя на два дзясяткі еўрапейскіх моў, сярод якіх італьянская, румынская, расійская, украінская, грэцкая, польская, іспанская, англійская, французская… Чарга — беларускай. У вершаваную нізку, прапанаваную ўвазе чытачоў «Літаратурнай Беларусі», увайшлі пераклады з кнігі «Снежная азбука», якая ўбачыла свет у 2007 годзе.

Андрыя Радулавіч нарадзіўся ў 1970 годзе ў Падгорыцы, жыве у Падгорыцы і працуе ў Падгорыцы рэдактарам у часопісах «Літаратурныя нататкі» і «Squaire». Аўтар дзесяці паэтычных кніг на розных мовах, лаўрэат прэстыжных еўрапейскіх літаратурных узнагарод. Цягам многіх гадоў актыўна і плённа займаецца пашырэннем культурных сувязей паміж славянскімі народамі.



Андрыя РАДУЛАВІЧ

## Фурман

*У трох войнах вазіў ён*
*на бамбукавым вазку*
*вядомых і невядомых*
*на той свет*
*калісьці ў саломе*
*канюшыне*
*пшаніцы*
*калісьці праз чорную варту*
*праскокваў глыбака зямлю*
*капаў драбіначкі гузікаў*
*зубоў і ўспамінаў*

*Аднойчы заснуў ён ціха*
*і перапёлчыны яйкі*
*сціскаў і тытунь герцагоўскі*
*і косы і бровы быццам цыкорыю*
*злізаў яму родны конь*

*Зараз палююць*
*больш лоўка і бойка*
*ён шкрабе блажэнную смерць*
*як варанога каня пад слівовіцу*

*Толькі ягоны галасісты певень*
*у сіняй кароне з хаціны*
*яшчэ аклікае некага*

## Вядзьмарка

*Да прыкладу гэтая вось трохзубая бабця*
*наіўным раздае чырвоныя яблыкі*
*ранеты ды іншую садавіну*
*не пераносіць часныку*
*гайсае на сернай мятле і ездзіць без*
*фараў ноччу*
*але калі хочаш*
*дык і вядзьмаркі не такія як некалі былі*
*змяніліся*
*то мужчына то жанчына —*
*нешта двуполае*
*з напружаным тварам барбі*
*у якой грошай як бруду*
*да ўсіх роляў гатовая*
*занядбаныя млыны замяніла*
*катэджамі хілтан гатэлямі*
*гарадамі аэрапортамі*
*гасцюе ў папулярных радыёперадачах*
*абвяшчае*
*вінаваціць*
*адбірае*
*судзіцца*
*рэкламуе*
*модныя подыумы топча*
*экспарт імпарт кантралюе*
*вырабляе цукеркі бомбы*
*усе гульні гуляе на шчасце сястра*
*новую веру прадстаўляе*
*газ для пацукоў і людзей*
*элегантная з брыльянтавым*
*гадзіннікам на руцэ пад шыяй*
*прадказвае*
*заклінае*
*прычэсвае*
*калекцыянер*
*рэдактар і прэс-сакратар*
*злая і мілая*
*вытанчана катуе*
*Мятлушка*

*Па выходных чысціць калі-нікалі*
*наш дом*
*Перад дажджом ператвараецца ў жабу*
*Тады малако прагаркае і дзеці яго*
*не п'юць*

## Парасон

***Радавану Байовічу***

*То не парасон з якога*
*паэт тапельных душ*
*зняў пярсцёнак і заручыўся са сваёй*
*дарогай*
*той блакітны з самотнай усмешкай*
*на канцы*
*пад якім Маякоўскі*
*спакушаў на Чырвонай плошчы*
*І гэта не парасон з тысячы*
*і адной ночы*
*з вялікага расійскага цырку*
*і тым больш не з фільмаў галівудскіх*
*а найменей за ўсё парасон*
*каралевы ангельскай і прынца Уэльскага*

*Размова не пра парасон*
*пад якім знішчалі гарады*
*гучалі важныя размовы тасты*
*і адпяванні*
*выносілі прысуды ды ўступалі ў шлюбы*
*бласлаўлялі люд на плошчы*
*Святога Пятра*
*сеялі попел індыйскіх мудрацоў*
*выгульвалі сабак кітайскага цара*
*альбо запачаткоўвалі асновы*
*для дома ўсіх народаў*

*З усіх славутых*
*гэта звычайны сваяк далёкі*
*на сметніцы з якога*
*нейкія новыя людзі*
*майструюць клетку*
*для птушкі*
*якая нам будзе спяваць*
*па важных датах*

## Боты

*Боты мае блукалі кудысьці набраўшыся*
*слімакоў водарасцей дохлых мурашоў*
*марской травы і нейкай дзіўнай цішыні*

*Правы бот замяніў мне падушку*
*Ці глыбокія мае сны*
*І ўсё тое ж самае*
*Гартаюць падэшвы раны*
*Шырыца кола*

*Боты з сапраўднай скуры*
*боты з чалавечага твару*

## Дзяцінства

*Нейкая нябачная сіла*
*грызе мяне пакрысе*

*І я болей не я*

*Дзіўная гэтая чара*
*карона абгрызеная*

*А я цудоўна ведаю*
*адвеку сам ведаў*
*што паэзія самая галоўная*
*на свеце*

*Як дзяцінства*

## Залатакоска і кот

*Выдавала маці дачку*
*год га годам*
*залатакоску раскошную*

*Мяняліся жаніхі*
*мужы багатыя князі паэты*
*чарнявыя і рыжыя са шпорамі*
*на роварах трохколых ды на конях*

*Урэшце рэшт калека лялечнік прыйшоў*
*і то быў апошні цягнік*

*Цяпер па добрай старой завядзёнцы*
*плятуць кошыкі*
*з лазы і мараў*
*і лаюцца зразумела*
*адзін з адным*

*Пра ўсё распавёў мне іхні*
*важны санлівы кот*

## Нічога новага

*Я жыву гэтым жыццём па памяці*
*дождж ідзе нічога новага*
*а кожная кропля*
*сусвет сам у сабе*
*Адна стрымгалоў уніз па ручцы*
*майго чорнага парасона*
*і цудоўна бачу як ты*
*усміхаешся смарагдава*
*і падтрымліваеш сякое-такое святло*
*пакуль насупраць*
*пад голымі платанамі*
*дзякуючы прызнаецца мне ў каханні*
*з носам Пінокіо*
*і чым далей гульня гэтая*
*тым больш несапраўдная*
*і ейны нос усё больш і больш*
*дакладна як у Карла Калодзія*
*І калі б тэмпература была ніжэйшая*
*была б то снежная гульня*

*Але што з таго*

## Ліст да Чэслава Мілаша

*Эх мой Чаславе*
*як цябе перапісваюць*
*у маім краі*
*як не маюць проста свайго*
*адбітку душы на паперы*
*Ужо знаёмыя акторы*
*драматычны гурток*
*пісьменнікаў арыгіналаў*
*шумяць у перакананні*
*што стварылі нешта новае*
*а дзіўна тое*
*што твая выкшталцоная паэзія*
*набывае пафасу зусім*
*як мае мёртвыя продкі*
*ссохлы арэшнік*
*які мне пакінулі*
*суды і дакументы*
*ад якіх баліць галава*

**Пераклад з чарнагорскай Сержука СЫСА**

**ПАРТРЭТ**

# ПАЛЁТ НАД ЖЫТАМ

## ПРА КАРЦІНЫ ЛЯВОНА ВАЛАСЮКА



Лявон Валасюк. Аўтапартрэт.



Партрэт Ярыны Дашынай

Валянціна ОСІПАВА

**Выдатны англійскі пісьменнік Джон Фаўлз з горыччу папярэджвае чалавецтва, што знікаюць не толькі рэдкія віды жывёл, але і рэдкасныя разнавіднасці пачуццяў.**

І сапраўды, сацыяльныя ўзрушэнні паднялі столькі мулі са дна падсвядомасці, што ў душы нашага грамадства ўсё менш застаецца месца крытэрыям дабрыні. З нашага абіходу паціху знікаюць такія словы, як дабрачалюбства, ахвярнасць, бескарыснасць, самаадданасць. Наогул, дабрыню чамусьці пачалі амаль што таптаць нагамі, параўноўваючы з кволасцю, а то і з дурнотаю. Прызнайцеся шчыра: калі раптам зойдзе гаворка пра альтруізм у кантэксце сучаснасці, разумны сэнс, падахвочаны кагортай псіхолагаў і звіхнутай рэчаіснасцю, у першую чаргу з уніклівасцю анатама пачне адшукваць хоць які-небудзь занядбалы карысны намер у дабразычлівым учынку, а калі ж не патрапіць знайсці пацверджання сваёй падазронасці, пагардліва пакруціць віртуальным пальцам каля віртуальнай скроні.

У час, калі на грамадскай ніве культываваныя раней высокія ідэалы ў такім заняпадзе і з кожным годам на прасторах ідэалогіі ўсё больш прыбытна пачувае сябе нахабнае пустазелле, у час, калі інстытуты духоўнасці таксама раз'ядае карозія меркантыльнасці, распавядаць пра нейкі там альтруізм нават рызыкоўна.

І ўсё ж такі, дзякуй Богу, не звяліся з нашай зямлі людзі, якія не ўсе свае ўчынкі падпарадкоўваюць уласнай карыслівасці і грашоваму абагачэнню. Лявон Валасюк, берасцейскі мастак і літаратар, нягледзячы на сціпласць ганарараў і брак вольнага часу, робіць паціху добрую справу: увасабляе ў фарбах сваіх калег з берасцейскай творчай сябрыны («Берасцейскага вогнішча»).

У своеасаблівай літаратурнай галерэі — партрэты Алеся Каско і Аляксея Філатава, Ніны Мацяш і Ярыны Дашынай, Алеся Паплаўскага і Сяргея Амельчука, Міколы Папекі ды іншых паэтаў.

Не бяруся рабіць падрабязны аналіз твораў. Гэта, у рэшце рэшт, справа прафесіяналаў. Мяне ж, нароўні з маральным аспектам, найперш цікавіць палітра ўражанняў. На мой погляд, мастак не ставіць перад сабой мэты расшарквацца перад другаснасцю вонкавага вобліку, а спрабуе як мага больш пранікнуць у складанае ўнутранае асяроддзе творцаў тонкай паэтычнай субстанцыі. Інакш для чаго яму ва ўласным партрэце паказваць не росквіт жыццёвых сіл, а чалавечую ролю адольвання перыпетый жыцця? Нават Папека, які, як вядома, і ў ясны сонечны дзень будзе з жарам сцвярджаць, што за вокнамі навальніца, пагодзіцца: матэрыялізаваная мастаком Міколава харызма на ягоным партрэце яскрава б'е праз усе сітавіны сціплай постаці і начыста забівае прышпілены да паэта каларытны пружанскі пейзаж. Мала, мала папекінаўскім амбіцыям лагоднасці рапсавага квітнення! На заднім плане яўна не хапае старажытнага Рыма, ахопленага полымем ці, на крайні выпадак, прэзідэнцкай «круцёлкі»...

І на партрэце Ярыны Дашынай бачыш не прывабную маладую жанчыну ў шчаслівай пары мацярынства, а не па гадах творчую сталасць, якая ўладарна наклала адбітак на вобраз таленавітай паэткі.

Асобна хочацца затрымацца каля супярэчлівага партрэта Ніны Мацяш. Скажу шчыра: першае ўражанне ад карціны было ўражаннем абывацеля. У галаве разгублена замітусіліся думкі: ці гэта няўдача, ці такая задумка мастака? Вядома, кожны майстра мае права на свой стыль. Як не згадаць знакамітага Мадыльяні, які, як вядома, нягледзячы на нястачу сродкаў да існавання, не згаджаўся змяняць сваю творчую манеру і сурова абыходзіўся з вонкавым падабенствам, каб яно не было заслонаю эманацыям душы. Але ў дадзеным выпадку я беспаспяхова шукала ў рысах твару, у позірку, у застылай постаці Ніны Язэпаўны той рэдкай сардэчнасці, якая здзіўляла кожнага, хто меў шчасце быць знаёмым з вялікай паэткай, якая зрабіла адчувальны ўклад не толькі ў беларускую, але і ў сусветную літаратуру. І гэтая адсутнасць аўры цяпла «збіла з ног» маё ўражанне ад партрэта.

Зусім па-іншаму ён глянуўся мне ў Белаазёрскай гарадской бібліятэцы, якая з нядаўняга часу носіць імя знакамітай землячкі, дзе праходзілі чарговыя паэтычныя чытанні «Бабіна лета з Нінай Мацяш». Перш-наперш кінулася ў вочы незвычайная (амаль суровая) засяроджанасць, якая дарэшты адмятае ўсё навокал: і ласкавы пагляд летняга рання за вакном, і святочны палёт ластавак, і кветкавае хараство, якое з такой любоўю Ніна ўвасабляла не толькі ў паэтычных, а і ў сваіх пёркаграфічных шэдэўрах. У напружаным абліччы, паводле трапнай заўвагі Алеся Разанава, адчуваецца нешта егіпецкае, я сказала б, нават нешта сакральнае. Як мне здаецца, толькі ў такім медытатыўным стане і можна ажыццявіць палёт над жытам — палёт над мітуснёй, над прозай жыцця. Нездарма сціплая паэтка прасіла мастака, які браў дазвол на партрэт, не маляваць яе з крыламі. Хто ведае, ці не вадзіла рукой Лявона тая ж самая Муза, што надыктоўвала нашай берасцейскай зорцы зорныя радкі, каб побач з фотаздымкамі і творчым набыткам мы маглі бачыць праяву акрыляючай сілы духу вялікай мысляркі, усё жыццё якой з'явілася пацверджаннем яе выпакутаваных думак:

*Інач усё, што можаш*
*перайначыць,*
*Вітай усё, над чым не ўладны ты.*
*Што ж да аддачы...*
*Не чакай аддачы.*
*Не тут яна. За рысай нематы.*

Гэта, канечне, мой пагляд на творчасць Лявона Валасюка. Але і ў кожнага з вас ёсць магчымасць атрымаць уласнае ўражанне ад яго карцін. Прыязджайце на штовосеньскія мацяшынскія чытанні ў Белаазёрск! Там заўсёды рады гасцям. А мне хочацца пажадаць самабытнаму мастаку і літаратару і надалей творчага плёну і ад душы падзякаваць за добры пачын.

**ТЭАТРАЛЬНАЕ**

# КВЕТКА ДЛЯ ПІНЫ БАЎШ

Сяргей КАЛЕНДА

**Свабоднаму Тэатру прысвячаецца**

Калі сам жывеш у свеце слоў, калі знаходзішся ў працэсе творчасці й галава перапаўняецца тэкстам, які так неабходна перакласці на паперу і зрабіць гэта тэрмінова, неадкладна, Свабодны Тэатр апынаецца каталізатарам, бясспрэчна...

Але як толькі бярэшся за паперу, ужо паспявае насунуцца новы тузін ідэй новых тэкстаў, і пачынаеш у думках расплывацца ў розныя тэкставыя бакі. Я даўно ўжо планую напісаць драму для тэатра аднаго акцёра, штосьці ўрбаністычнае, абсурднае, ганебнае... напісаць п'есу — задача спасцігальная й адначасова — не... чагосьці заўсёды не стае... гэта як з раманам, які можа ляжаць гадамі ў тэчцы, пісацца, перапісвацца й заставацца чымсьці далёкім, няспраўджаным... чаго не скажаш пра апавяданні альбо літаратурныя праекты... кажуць, кожны чалавек носіць у сабе гатовую кнігу, яе трэба толькі правільна разбіць на часткі й запісаць... але ў кожнага гэтая кніга розная: у кагосьці — як раман, у кагосьці — як нешта пост-, нехта носіць сваю кнігу ў выглядзе цытат з іншых твораў... дык вось у мяне, замест гатовай кнігі ў галаве існуе гатовая п'еса, але я яе чамусьці не магу выкласці на паперы... апавяданні — лёгка... праекты, нават раман, магчыма... але п'еса — гэта немагчыма... я наведваў шмат розных тэатраў, чытаў драматургію, знаёміўся з драматургамі, піў з акцёрамі... але ўсё дарма... пакуль я не пазнаёміўся са Свабодным Тэатрам... штосьці пачало варушыцца, спачатку ў целе, потым гэта перамясцілася ў галаву, магчыма, гэта першыя спробы нарадзіць п'есу... хто ведае, але пакуль толькі гэты тэатр выклікае нейкія варушэнні ў калятэатральнай прасторы, ён нібыта каталізатар, якога раней не ставала...

Колькі ўжо разоў усхваляўся Свабодны Тэатр, але кожны раз ён нікога не пакідае абыякавым... кожны раз словы апынаюцца ніжэй за пачуццё, якое атрымліваеш пасля спектакля... тыя адчуванні, што выносіш з хаткі на ўскраіне, у прыватным сектары Менска, дзе кожны, хто сядзіць побач з табой, не проста глядач, а блізкі табе чалавек, інтэлектуальны, ідэйны сваяк, і вы сядзіце разам, шчыльна, блізка, далучаныя да нейкага містычнага дзеяння, у нейкім творчым уздыме ўнутраных пластоў эмоцый, пачуццяў і думак і, пачынаючы з першабытных адчуванняў і заканчваючы духоўным канцэптам, усе вашыя такія адасобленыя малекулы злучаюцца ў агульным сакральным захапленні, якім, па сутнасці, нельга дзяліцца з мінакамі недзе на вуліцы...

Падчас і пасля прагляду п'есы гэтыя выпадковыя сустрэчы з вачыма суседзяў... калі адбылося пранікненне ў душу акцёра, які эмацыйна расхінуты перад табою — і нават існуе магчымасць бачыць, як б'ецца ягонае сэрца, як яно трымціць, прамаўляе ў адчаі штосьці вельмі істотнае... з'яўляецца адчуванне, што паветра вакол таксама распавядае разам з акторам, цытуе жыццё, раскрывае аповеды, становіцца зразумелым: усё, што ты можаш адказаць на пытанне «як прайшоў спектакль», гэта прамаўчаць і захаваць у сабе тое, што набыў за тыя сакральныя паўтары гадзіны. І, пакідаючы тэатр, спыніўшыся пакурыць ля яго дзвярэй, ты будзеш глядзець у глыбокія вочы тых, хто гэтак жа, як і ты, перажыў катарсіс, памёр і адрадзіўся разам з драматургам, навучыўся мудрасці разам з харэографам, або проста спазнаў непараўнальны шакаладны прысмак далоняў акцёраў, што дакрануліся да цябе... ты будзеш глядзець на свет з іншага ракурсу...

Ты ўзбагацішся творчасцю, і нішто не будзе замінаць гэтаму, бо тэатр ёсць тое самае — тваё, чаго ты так доўга шукаў, блукаючы з тэкстамі ў галаве... ты будзеш перабіраць у памяці ўбачанае й пачутае і ўспамінаць менавіта тых актораў, за спінай якіх стаяў, калі яны плакалі, смяяліся й з'язджалі з глузду, — менавіта гэтае чараўніцтва, дзе ў сілу магутнага, блізкага кантакту з дзеяй, з працэсам гульні ты сам становішся акцёрам, і вашыя сэрцы б'юцца ва ўнісон... і разумееш, што, дакранаючыся да мастацтва, ты нават не заўважаеш, што мастацтва дакранаецца да цябе...

«Мне не цікава, як рухаюцца людзі, мне цікава, што імі рухае», — казала Піна Баўш...

Мной рухае непераадольнае жаданне пісаць, ствараць літаратуру, чытаць, вывучаць мастацтва й аўтарскае кіно, мною рухае непаўторны набыты досвед, які я выношу пасля прагляду п'есы, і спяшаюся дахаты, натхнёны ідэямі новых гісторый, натхнёны творчым працэсам, каб нешта ствараць... мною рухае ўпартасць, маё крытычнае стаўленне да сябе, мною рухае тое, як часта несправядліва ставяцца да мяне... мною рухае абыякавасць людзей... я ніколі не хачу стаць абыякавым... мною рухае любоў маёй сям'і... мною рухае жаданне быць кімсьці, а не чымсьці... мною рухае эга... мяне рухае маё «я»... мяне рухае Свабодны Тэатр... тэксты ў галаве, каханне й мэты... я рухаюся, я жыву, я існую...

ВОДГУК

# ПАСАДА АЛЯКСЕЯ БЕЛАГА

АЛЯКСЕЙ ФІЛАТАЎ

**Другі раз за некароткае сваё літаратурнае жыццё на такой самай «пасадзе», як у Аляксея Белага, пішу пра паэта з блізкіх Баранавіч, добра не ведаючы яго.**

Даўно чуў, захапляўся вершамі, ды не судзіла сустракацца. А вось сутыкнуцца са шчырым светам ягонага крэўнага роду давялося цераз брата Канстанціна Ільіча. У ліпені 2000 года па-чалавечы зрабіў ён для мяне амаль лёсавызначальную паслугу. Пры больш блізкім знаёмстве з Аляксеем Ільічом яшчэ раз упэўніўся ў справядлівасці выслоўя: яблык ад яблыні далёка не падае. Дабрыня — дамінанта сямейнага духу Белых.

Крышку падаўну так пісалася пра таксама незнаёмага і таксама таленавітага паэта Івана Арабейку. Дык якую пасаду займае Аляксей? А такую, як і Арабейка. Іхняя пасада — паэт, пісьменнік, а вось прафесіі розныя. Аляксей — марак, Іван — шклодуў. Але



іх яднае адна, дарагая душы, справа, адзін занятак — тварыць! І сцвярджу гэта Белы шчырым паэтычным радком, у якім вызначыў галоўную думку (ідэю) сваёй паэзіі: А мая душа не адбалела // Аб пакутным лёсе Беларусі // Бо працую Аляксеем Белым // І пасаду страціць не баюся.

Сам Бог ведае, што зрэдзь даруючы чулую душу дзіцю свайму — ой як цяжка выбіцца таму ў творцу! Ведаюць гэта і кожны з тых, хто пакінуў пасля сябе няхай зярнятка, няхай каліўца, няхай расінку-пярлінку ў літаратуры, у мастацтве. Бо творчасць — гэта праца душы, асабліва плённая, калі ў душы гэтай з зачацця, з нараджэння да скону жыве ўсёмагутны Творца.

Свой арыгінальны па афармленні, «таненькі» зборнік паэзіі (малы, ды залаты) «Кветкі ў стагах» адкрывае былы «марскі воўк» з адчуваннем у душы Неба і прамаўляе ўзрушана і шчыра да кожнага з нас: У небе ўзышла Віфліемава Зорка // І настала Хрыстова Раство! // І забыўшыся ўрэшце на спрэчкі і бітвы // З адчуваннем любові і віны // Людзі ў дзень гэты светлы ідуць да малітвы // І гудуць над Зямлёю Званы...

Як і належыць хрышчонаму чалавеку, успомніўшы папярад адказнае справы Хрыста, Аляксей Белы вядзе чытача ў «свет цудоўны і бясконцы» і па «шырокай дарозе», і па «сцяжынцы да роднае хаты». Разам з паэтам трапляе ў гэтае буйства жыцця і чытач. Але разам з вясёлкай пяшчоты, замілавання ўрываецца ў сэрца... няўхільная, бясконцая туга, бо трапляем мы ў ...памерлую вёску, дзе жывы толькі конік у траве. І паўстаюць уваччу вершы пра пакутны лёс Беларусі, манкурцтва яе павадыроў, духоўны, «жывы» Чарнобыль…

Здзіўляе паэтычная спеласць Аляксея Белага, ягоная зарыентаванасць у часе і прасторы. І роднае цёплае Палессе, і злёдзянелая Поўнач, і пасляваенная басотнае дзяцінства, і сталая, ды ўсё ж з бунтарскаю закваскаю, сёння, шматтэмнасць, шматдумнасць, шматпачуццёвасць, гімны, оды Каханню, Айчыне, Мору, радкі пра паплечнікаў у слугаванні роднаму слову «куюцца, гартуюцца» не халодным чаляднікам, які аваладаў літаратурнымі пацярушнымі штампамі, а талентам з Данкавым сэрцам у грудзях.

Арыгінальныя, своеасаблівыя вершы пра паэзію і асабліва пра паэтаў. На могілках у Міхнавічах скончылася бадзяжная дарога Міколы Купрэева. Ляжыць наш геніяльны паэт побач з Аляксеевымі дзедам, бацькам, бабай і матуляй. І спее ўпэўненасць у душы, што «жалуды адскочаць» ад усіх пяці камянёў і прарастуць магутнымі дрэвамі ў новае жыццё...

Шмат чаго знойдзе беларус-патрыёт у цененькай памерамі ды густою зместам кніжцы Аляксея.

Скончыць падзяку цёзку свайму за карысную ягоную працу карціць двума сказамі пра два вершы з «Кветак у стагах». Колькі аплявузгана, насмечана рознымі цынікамі, ханжамі пра братэрства, еднасць славян, якія, безумоўна, былі, ёсць і павінны быць насуперак хіжым "объединителям". І як магутна сказаў пра гэта беларускі паэт Аляксей Белы: Аркестр заціх, салют заціх // Адплакалі мужчыны // Ды будуць вечна помніць іх // Ойчызна і Айчына (верш «Загінуўшым пілотам»).

Праўду, шчымліва-пяшчотную, салодка-горкаватую, выпакутаваную праўду чалавечых пачуццяў гаворыць Аляксей і для душы, і для розуму: «У маленькім Лагішыне будзе дыхаць бы, у Блока цішком ля акна жанчына духамі і туманамі. А за ёй назірае звераваты, у гадах, дальнабойшчык. Зоркі ляжаць на дне вясковага калодзежа. Горкне ў келіху віно. А прынц з прынцэсаю не сустрэнуцца. Сумленне перамагае заган, доля не дарые, можа, і бессмяроцця шчаснага імгнення, хоць абое бясконца жадалі зліцца ў адно» (верш «Снежань. Хутка перадсвяточныя дні»). Адчуй, узрадуйся, уздыхні, чытач...

Густая, не «для нежного ушка» (хоць яно і не аглухне) паэзія Аляксея Белага. Настоенае, адстоенае, тройчы перагнанае духоўнае пітво, моцнае, як «тры чаркі», што «так выдатна пайшлі ў касавіцу». Раю нашым літаратурным крытыкам ухапіць моцнага, свежага духу, адшукаць у творчасці правінцыйнага паэта красу і моц «дабром прасякнутае музы».

РЭЦЭНЗІЯ

# АД А ДА Я

Таццяна БАРАДУЛЯ

**У 2011 годзе ў выдавецтве «Кнігазбор» дэбютаваў з кнігай паэзіі «Душы маёй нясканчаны палёт» Эдуард Дубянецкі.**

Жанрава і тэматычна аўтар раздзяліў вершы на 5 раздзелаў:

I. «Туды, дзе мора сінім аметыстам...» Лірычныя роздумы, спробы філасофскага асэнсавання жыцця і вызначэння месца Чалавека ў Свеце. Маналог лірычнага героя звернуты найперш да сваёй душы, а праз яе — да пранікліваг чытача, як да свайго «alter ego». Вершы кранаюць шчырасцю, юначай узнёсласцю, рамантычнасцю, верай у светлае (найбольш выразныя, на маю думку, наступныя: «Зорка лёсу», «Дрэвы», «Зліццё», «Заходзь...», «Кропка», «Басаногі дождж», «Мора радасці», «Маўклівы сум», «Не спяць...», «Прыгонны артыст», «Таўро зайздрасці», «Суполка адзінотнікаў самотных», «Душа мая — неба сяброўка»). Тут ёсць нечаканыя трапныя вобразы і назіранні за жыццём, паэтычныя вынаходкі і ўдалыя эксперыменты:

## Дрэвы

*Быць можа, дрэвы —*
*гэта спрадвечныя*
*Сувязныя*
*Паміж шматфарбным*
*і шматгучным*
*Надземным, нашым светам*
*І царствам маўклівым*
*падземным…*

Трэба адзначыць, што ў некаторых вершах сустракаюцца і стылістычныя памылкі альбо недакладнасці. Напрыклад, у вершы «Вечная спадарожніца»:

*...Заўжды*
*Са мной ты —*
*Спадарожніца мая,*
*Якая*
*Не адыходзіць ад мяне…*

У вершы, які даў назву ўсяму раздзелу, чытаем: «...дзе карал блішчыць ў вадзе, бы сонца...». Але ж карал у прыродным выглядзе (калі ён у вадзе і не згублены якой-небудзь ныральніцай у ювелірным вырабе) зусім не блішчыць, тым больш не блішчыць, як сонца.

А верш пад назвай «Раз'юшаны вандал» нагадаў мне дзіцячую страшылку кшталту «чорнай-чорнай ноччу ў чорным-чорным пакоі...» (нягледзячы на тое, што вобраз у ім вымалёўваецца арыгінальны):

*...Прайшоўшы па залах*
*Майго дома,*
*Раз'юшаны вецер*
*Скінуў плашч*
*Чорны свой…*
*І тут мне*
*Падалося*
*Што то быў не вецер,*
*А той,*
*Бачаны мной*
*Ў страшным сне,*
*Нашай жарсці*
*Шалёна-няструмнай*
*Ненасытны, пражэрлівы… воўк.*

II. «Ужо блізка цунамі кахання». Як вынікае з назвы, у гэтым раздзеле прадстаўлена любоўная лірыка. Лірычнаму герою ўласцівыя шчырасць, неабароненасць (і нежаданне абараняцца), тонкасць адчування, вастрыня (а дзе-нідзе і напал) пачуцця, а таксама чысціня і святло душы. Адчуваецца сапраўды перажытае, няма надуманасці, жадання неяк упрыгожыць сябе. А тое, што ідзе з душы, трапна, па-мастацку ўвасабляецца ў формы. Канешне, нічога новага аўтар тут не сказаў (як і многія сучасныя майстры слова ў гэткай тэматыцы), але для любоўнай лірыкі больш, чым для якой іншай, характэрна выслоўе: не істотна што, а істотна як.

*...О, як мне хочацца!*
*Ў нябёсны прасторы*
*Пагушкацца разам з табой*
*На касмічных арэлях,*
*Прымацаваных*
*да бліжэйшых зор…*

Кранаюць таксама вершы «Напаўненне», «Кругазварот пачуццяў», «Калі б...», «Імклівая», «Было свята...», «Каханне», «Пад восеньскім небам», «Так і не», «Тваё каменнае маўчанне», «Раманс аб страчаным каханні», «Твой позірк», «Таямніца дзявочай душы», «Узыходжанне», «Цень», «Цунамі кахання». Аўтар не толькі ўвасабляе ў словы сваё пачуццё, але і спрабуе пафіласофску, а часам і з ноткамі самаіроніі яго асэнсаваць.

У некаторых вершах сустракаюцца сэнсавыя недакладнасці. Напрыклад: «Цяпер твой вобраз бачу толькі ў сне // Бяссоннымі і доўгімі начамі...». У сне ў бяссонную ноч? Тады якая ж яна «бяссонная»?

У вершы «Каханне, забітае цемрай» слова «цемра» сустракаецца 8 разоў, а слова «каханне» — 3 разы (колькасць радкоў — 9). То і зразумела, чаму ў выніку каханне атрымалася забітым цемрай — з-за колькаснай перавагі апошняй...

III. «Не чутны спеў Арфея на зямлі...« — філасофская і грамадзянская лірыка, у якой праз боль і душэўныя пакуты аўтар асэнсоўвае праблемы чалавечага шчасця, існавання, дачыненняў са светам і сваім унутраным «я». Але трэба адзначыць, што праз нагрувашчванне вобразаў (здань, бездань, чорны птах, чорны д'ябал, ледзяная туга, страх, Вялікі Жах, гора, вар'яцтва, крумкач, нябыт, пекла) аўтар не вырашае вышэйзгаданыя праблемы, а паглыбляе панічныя настроі, не дужа стараючыся зрабіць гэта хаця б мастацкімі сродкамі, у чым мне бачыцца галоўны недахоп гэтага раздзелу. Напрыклад:

<…>

*...Я адчуваю,*
*Што ўжо вельмі блізка*
*Ад нас усіх вялікая бяда.*
*Але мае ўсе*
*Прадчуванні не патрэбны*
*Нікому ў гэтым свеце…*
*А шкада…*

Адносна вершаў кшталту вышэйзгаданага хацелася б запытацца: а чым яны, акрамя наяўнасці рыфмы, адрозніваюцца ад прозы?.

IV. «Ад А да Я». Вершы ў розных жанрах і відах. Актава, александрыйскі верш, акраверш, брахікалан, версэт, вершасказ, віралэ, газель, гашма, касыда, кыта, лімэрык, ліпаграматычны верш, лэ, пантарым, рандо, рандэль, рубаі, рытурнэль, рэха-верш, санет, сіцыліяна, танка, таўтаграма, трыялет, туюг, тэрцына, фард, хоку, ямбы — формы, у якіх аўтар, нібыта аддаючы даніну Музе Паэзіі, спрабуе сябе. Вершы нераўназначныя па мастацкім узроўні і наяўнасці мастацкіх сродкаў; на розную тэматыку (грамадзянская, філасофская, любоўная лірыка). Вобразы вершаў грамадзянскай скіраванасці падобныя да вобразаў з папярэдняга раздзела кнігі (здрада, зло, мана, цемра, страх). Уражанне, што «зацісканне ў форму» адмоўна адбілася на іх якасці. Асобныя вершы філасофскай скіраванасці, а таксама любоўная лірыка, на маю думку, пераўзыходзяць вершы грамадзянскага зместу па вобразнасці і якасці валодання мастацкімі сродкамі, а версэт «Без цябе» і вершасказ «Зоркі» вылучаюцца арыгінальнасцю аўтарскай задумкі, сюжэтаў, а таксама натхненнем і святлом, якімі «дыхае» кожны радок вышэйзгаданых твораў: «Я ніколі не адчуваю сябе цэласным, напоўненым усімі фарбамі і пахамі жыцця; я — нібы разбітае люстэрка // без цябе, // мой сябра!»; «Звычайна зоркі вельмі пільна і зорка ўглядваюцца ў глыбіні Сусвету, бо трэба ж добра ведаць, што іх чакае наперадзе і ці не ляцяць насустрач хто-небудзь з іхніх ворагаў. <...> І як жа хораша зорнай ноччу глядзець у неабсяжнае і недасяжнае неба, з якога нам падмігваюць і ўсміхаюцца тамтэйшыя абарыгенкі — зоркі!..»

Трэба адзначыць, што формы касыда, віралэ, кыта і фард упершыню ўжыты аўтарам у беларускай літаратуры.

V. «Кропелькі. Паэтычныя афарызмы і мініяцюры» — самы ўдалы раздзел у кнізе, дзе пасапраўднаму праявіўся «партрэт» творцы, яго непаўторны паэтычны голас. Думкі, якія аўтар «разняволіў», і аказаліся самымі трапнымі і яркімі. Лаканічна, проста і «ў дзясятачку»:

***

*А сёння снег ідзе-ідзе-ідзе…*
*І бачна, што не думае спыняцца.*
*Няўжо ён —*
*О, вандроўнік малады! —*
*Шчэ не паспеў*
*З зямлёй*
*Нацалавацца…*

У цэлым, нягледзячы на пэўныя хібы і недахопы зборніка вершаў «Душы маёй нясканчаны палёт», Эдуард Дубянецкі, навуковец, гісторык, культуролаг, заявіў пра сябе і як пра адметнага паэта.

ВОДГУК

# ТУРМА І ВОЛЯ:

## ПАВОДЛЕ ПАЭМЫ УЛАДЗІМІРА НЯКЛЯЕВА «ТУРМА»

Міхась ЮЖЫК

**У №55 часопіса «Дзеяслоў» была апублікаваная паэма Уладзіміра Някляева «Турма», напісаная, як пазначана ў публікацыі, «25–31.12.2010» ва «ўнутранай турме КДБ».**

Вось такім чынам бавіў беларускі паэт час ад каталіцкіх Калядаў да Новага года. Твор падкупляе найперш праўдай перажытага і магутнай энергетыкай, якая не часта з'яўляецца ў чалавека, якому за шэсцьдзясят. Яе быццам пісаў малады чалавек, самой прыродай заведзены на максімальнае дзеянне і барацьбу. Усе радкі паэмы — гэта змаганне з Турмой ва ўсіх магчымых яе праявах. Хаця Л. Талстой, калі быў пад хатнім арыштам у Яснай Паляне пасля вядомага ліста «Цару і яго памочнікам», ледзьве не скардзіўся на тое, што яго не пасадзілі ў турму. Бо турма для сумленнага чалавека (Талстога) была ў той цемрашальскі (як здавалася пісьменніку) час адзіным для яго прымальным месцам. Ён хацеў пацярпець не менш, чым церпіць Воля ў яго краіне. Праўда, як паказалі далейшыя рэвалюцыйныя падзеі, змаганне за Волю і перамога, калі гэта адбываецца гвалтоўна, часам прыводзіць да яшчэ горшай Турмы.

Уладзімір Някляеў падышоў да паэмы не плоска, не спрошчана, не прамалінейна. Гэта не крык зняволенага «Адчыніце, сякія вы і такія!», гэта са скразной ідэяй шматпластовы твор...

Пазбягаючы адналінейнасці, Някляеў, на маю думку, занадта ўскладніў вобразнасць паэмы. А яе шматсэнсавасць таксама не будзе напоўніцу зразумелая простаму чытачу. Аднак, адчуваецца, калі паэму чытаць услых, то яна, дзякуючы энергетыцы, прасякне любое, нават самае закамянелае сэрца. Мабыць, твор і прызначаны для чытання з высокіх трыбун. Толькі дзе тыя трыбуны?.

*Турма ў турме — і воля ў ёй.*
*Усе за кратамі ў краіне,*
*Дзе дух крывіцкі нема гіне,*
*Разняты з моваю сваёй.*

Што гаворыцца ў гэтых чатырох радках? Здавалася б, кожны зразумее: дух наш беларускі нацыянальны не можа выбіцца з-пад кратаў агульнага рускамоўя і прасавецкай ідэалогіі. Аднак — не толькі гэта. Радок «Турма ў турме — і воля ў ёй» можна чытаць па-рознаму. Першы варыянт: душа, якая і на волі ў турме, пасаджана ў турму; і адначасова ў турме — прага волі. А другі варыянт: душа, вырываючыся на волю з вязніц сваіх забабонаў, можа нават у турме нарадзіць для сябе волю.

Прычым апошні варыянт выглядае для мяне яскраз і сэнсавым стрыжнем паэмы. Бо пры канцы, ад «кахання» з Турмой, паэт нараджае волю.

*Ах, воля, воля! Што хацець,*
*Апроч цябе?. Дальбог, нічога!*
*Калі ты не са мной — дарога*
*Ёсць да цябе, якой іду.*

Літаральна на працягу ўсёй паэмы У.Някляеў вобразна даводзіць чытачу, што не трэба прымітыўна, выключна ў палітычным плане, на канкрэтным яго прыкладзе разумець імкненне лірычнага героя да волі. Воля — паняцце тут надзвычай шырокае. Гэта стан душы. Паэт і ў турме можа аказацца не скораным, вольным, нават вальнейшым, чым на свежым паветры без кратаў і ланцугоў. Большасці ж насельніцтва нашай краіны воля і не патрэбная зусім, бо яны баяцца выйсці на тую волю з вязніцы сваёй душы і гатовыя ахвяраваць сваёй воляй дзеля спакою і адноснага дабрабыту. Або для таго, каб не было яшчэ горай. (Каб нехта ўзяў на сябе адказнасць за нас.)

Да волі трэба дарасці і саспець унутрана, каб яе атрымаць вонкава. Людзі ў адносна вольных краінах выціскалі з сябе рабоў стагоддзямі. А самая вольная краіна сусвету — ЗША — сталася такой менавіта таму, што Амерыку ў свой час паплылі пакараць самыя вольналюбівыя і смелыя людзі. Там моцны генафонд адпачатку, які, праўда, цяпер усё больш і больш псуецца крывёй рабскіх народаў свету. Але парадокс: у самай вольналюбівай краіне — дыктатура самага жорсткага ў свеце закона. Што яшчэ раз сведчыць пра выключную слушнасць стрыжнявой думкі паэмы «Турма» — будзь вольны духам, будзь вольны ад подласці, злачынства і здрады і г.д.

У. Някляеў у паэме вядзе ў літаральным сэнсе дыялог з Турмой як з жывой істотаю. На фоне дыялога лірычнага героя з Богам гэта наводзіць на паралель: Турма ёсць сам сатана. Таму «каханне» паэта з Турмой, якое ўрэшце завяршаецца народзінамі Волі, выглядае трохі пачварна. І таму гэтае «каханне» можна пісаць адно ў двукоссі. Насамрэч жа «каханне» ёсць барацьба з д'яблам, які хоча зняволіць душу кожнага чалавека.

*«Ты будзь маім, маім, маім,*
*Са мной адзінаю, адным...» —*
*шыпела голасам змяіным*
*Турма...*

Цягам паэмы паэт праколвае Турму ў абліччы змяі дзідаю, а яна ажывае і трансфармуецца ў вобраз каханай. Такая вось складаная філасофія. Якая, на маю думку, гаворыць пра тое, што Турму нельга проста заколаць, яе можна толькі адолець, увайшоўшы ў яе (як паэт — за краты) і «пакахаўшыся» з ёю. І тады толькі, праз пакуты, дасягнуўшы пякельнага дна, калі дух твой не зламаны, ты можаш прыдбаць жаданую Волю. Яна, як у паэме, будзе народжана ад гэтых зносінаў...

Чытаючы паэму, без «падаплёкі» не абысціся. Шматпластовасць і складанасць вобразнасці — далёка не заўсёды перамагаюць. Бо адпачатковая мэта паэзіі была — каб яе лёгка запаміналі непісьменныя і перадавалі з вуснаў у вусны.

Але ўсё гэта выглядае неістотным у святле таго, што ў беларускай літаратуры паэмы такой энергетыкі і такога агульначалавечага пафасу, а таксама непрыхаванага нацыянальнага болю, а таксама такой мастацкай моцы — яшчэ не было.

РЭЦЭНЗІЯ

# МЯСТЭЧКА — КОСМАС — ГРААЛЬ

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

**Ала Сямёнава. Святло загадкі. У кн.: У святой краіне выгнання. Імпрэсіі, адлюстраванні. Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка», Мінск, Кнігазбор, 2011.**

Кожны пісьменнік стварае сусвет — ісціна настолькі ж банальная, як і сцвярджанне, што асобны твор можа стаць выхадам у нацыянальны космас. У кнізе Алы Сяменавай «У святой краіне выгнання» твораў шмат — гэта і літаратуразнаўчыя эсэ, і рознага кштлту апавяданні, і імпрэсіі... Але я засяродзілася на цыкле апавяданняў «Святло загадкі», які я б аднаначыла як аўтабіяграфічную аповесць.

Мне цяжка ўявіць, каб Ала Сяменава напісала гэтую аповесць у савецкі час — настолькі нетыповая ў яе тэксце Беларусь, настолькі нетыповыя, несавецкія ў стэрэатыпным разуменні яе героі. Перад намі — свет беларускага заходняга мястэчка (у якім пазнаецца Навагрудак)...

### Мястэчка

Галоўная гераіня — дзяўчынка Дана — вяртаецца з эвакуацыі ў родны горад разам з маці і дзедам. Маці — адвакат, выкшталцоная шляхетная кабета, дзед — былы ссыльны, які ўпарта носіць канфедэратку, чытае ўнучцы верш Максіма Багдановіча «Пагоня», цытуе Адама Міцкевіча і вязе на экскурсію ў Вільню, дзе паказвае касцёл, у якім браў шлюб...

Мястэчка, у якім адбываецца дзеянне, робіцца ўвасабленнем нацыянальнага беларускага Космасу. Дваістага космасу — бо, як даўно ўжо сфармулявана беларускімі філасофамі кшталту Ігната Абдзіраловіча, лёс беларусаў — быць на цывілізацыйным разломе, на сутычцы дзвюх цывілізацый, заходняй дэмакратыі і ўсходняй дэспатыі, і сінтэзаваць у сабе іх рысы...

Калісьці Беларусь называлі крайнай замкаў. Але доўгі час яе культуру ў асноўным вызначала культура мястэчак, разбураная савецкай сістэмай. У тэксце Алы Сямёнавай аднаўляецца гэты каларытны, непаўторны свет.

Тыповае беларускае мястэчка — гэта скрыжаванне канфесій і нацый. Мястэчка, якое апынулася ў складзе Савецкай Беларусі незадоўга да вайны, захавала ў сабе рысы еўрапейскага горада. Безумоўна, яго асавечвалі, насяляючы прыслаными з усходу кадрамі. Мы бачым гэта толькі кропкава — кабета-чужынка бясконца слухае плыту з рускай песняй «Валенкі, валенкі...» і лузгае на вуліцы семкі, абураючы суседзяў.

Безумоўна, тут адбываўся і адбываецца пошук «ворагаў народу» (гэта ж адразу пасля вайны, пры Сталіне)... Мы ведаем, як азвярэла зачышчаліся ў той час такія мястэчкі, пад якім падазрэннем былі ўсе «заходнікі». Як раскулачвалі, высылалі, расстрэльвалі... Але ў тэксце мы гэтай трагедыі не бачым. Гераіня — маленькая Дана — успрымае ўсё навокал выключна праз уласны сусвет.

### Космас

Дана належыць да савецкай гарадской эліты. Яе маці, адвакат, нават нейкі час служыла ў НКВД, хоць і была беспартыйнай. Дана жыве ў добрай службовай кватэры з прыслугай, мае прыгожыя сукенкі, не ведае, што такое голад... Яе атачэнне — юрысты, настаўнікі, гандляры. Толькі потым Дана даведваецца пра кагосьці са сваякоў ці суседзяў, што гэты сядзеў, той быў сасланы...

Дану не ўражваюць нават спрэчкі маці і дзеда наконт звычкі былога ссыльнага хадзіць па мястэчку ў шапцы-канфедэратцы:

«Я не хачу нічога хаваць, — даводзіў дзед. — Я не злодзей. Я вярнуўся да сябе на радзіму». Маці садзілася на канапу, запальвала папяросу «Казбек» — іншых не ўжывала — і выгляд у яе рабіўся такі, нібыта ўсе бядоты свету абрынуліся на яе. «Зразумей, тата, пачнуць высвятляць, што, калі, як. Мне абавязкова з гэтай нагоды нагадаюць не толькі пра мужа, які згінуў падчас вайны невядома дзе. Але і паходжанне. І сасланага бацьку. І... А ў Даны наперадзе жыццё».

Дзед урэшце з'яздже ў Сібір, дзе застаўся жыць малодшы сын, дзе ён пахаваў жонку. Але мы так і не дазнаемся — бо гэтага не дазналася і Дана — кім ён быў, за што быў рэпрэсаваны. Што азначала шапка-канфедэратка.

Аўтарка падае многае ўжо з сённяшніх пазіцый.

Каб тэкст пра тыя ж падзеі, у тых жа дэкарацыях пісаўся гадоў дваццаць-трыццаць таму, гераіня выглядала куды б больш савецкай. Але Сямёнава не спрабуе насуперак логіцы і фактам зрабіць гераіню (сябе) юнай дысідэнткай. І гэта добра — бо дазваляе праўдападобна рэканструяваць той свет, тую эпоху па дэталях, заўважаных (але не асэнсаваных) гераіняй. Дане і ў галаву не прыходзіць асуджаць савецкую рэчаіснасць. Толькі Дана-дарослая пачынае рэфлексаваць на гэтую тэму: «Людзі Данчынага маленства — ці фарысействаалі, ці шчыра памыляліся, хто іх ведае, але цану памылкам сваім плацілі высокую, сваёй, не чужой, «гибелью всерьез»»...

### Грааль

Асаблівасць тэксту яшчэ і ў тым, што Дана існуе больш у свеце кніжным, чым рэальным.

Яна паглынае Стывенсана, Вальтэра Скота, Жуля Верна, Майна Рыда, Шэкспіра і Ралана, Стэндаля і Філдзінга, Галсуорсі і Растана...

У аповесці практычна няма гісторый — а менавіта з выразных, жыццёвых гісторый зазвычай і будуюцца тэксты падобнага кшталту. Замест іх маем імпрэсіі.

Мы бачым вачыма гераіні яе суседзяў, знаёмых, сяброў, бачым, як яны выглядаюць, як апранаюцца, якія пачуцці выклікаюць у гераіні... Але не даведваемся пра іх амаль нічога. Затое мы чуем мноства кніжных асацыяцый, якія ўсе гэтыя людзі выклікаюць у гераіні, бясконца далёкай, як мы разумеем, ад сапраўднага жыцця мястэчка і ад праблемаў яго шараговых жыхароў.

Мала гісторый і з жыцця самой Даны — больш плыні свядомасці. Думаецца, гэтаму тэксту бракуе не толькі заглыбленасці ў жыццё, але і простасці аповеду.

Калі б тут паслядоўна гучаў голас дзіцяці, падзеі ўспрымаліся б больш пранізліва і яскрава. Хацелася б, каб у тэксце было больш падзей, а не рэфлексій. Як у «Віне з дзьмухаўцоў» Брэдберы, ці ў аповесці «Мы — хлопцы жывучыя» беларускага пісьменніка Івана Сяркова...

Асобна трэба адзначыць духоўную тэму. У веры — нестыкоўка Даны з савецкай рэчаіснасцю. Расце яна ў пабожнай сям'і, дзе сямейнікі, як і ўсе ў мястэчку, трымаюць пост, адзначаюць Каляды, Вялікдзень.У свеце Даны ёсць Біблія, пра якую нельга згадваць у школе, імшы ў касцёле, які афіцыйна зачынены, размовы з мнішкамі... Яшчэ адзін з персанажаў аповесці — Анёл, абстрагаваная, умоўная фігура — назірае за жыццём Даны. Праўда, гэта не ўносіць у тэкст нічога новага і мае толькі сімвалічную нагрузку.

Твор «Святло загадкі», безумоўна, заслугоўвае ўвагі.

У ім ёсць настрой і атмасфера. Ёсць унікальны партрэт эпохі. Ёсць архетып: абагулены вобраз беларускага мястэчка як «горада рыцараў і паэтаў», дзе жывуць нацыянальна свядомыя, талерантныя ў лепшым сэнсе гэтага слова, працалюбівыя і пабожныя людзі. Усё гэта ўзбагачае ўяўленне пра Беларусь і беларуса, разбурае існыя на гэты конт стэрэатыпы.

**Друкуецца ў скароце паводле bellitaward.blogspot.com**

## ПАЛІЦА

# З ВАЙНЫ

**У Вялікабрытаніі выйшла ў свет кніга, у якой сабраныя тысячы апошніх лістоў салдат, што не вярнуліся з вайны.**




Лісты былі напісаныя ў розныя эпохі: пачынаючы з XVII стагоддзя і заканчваючы сучаснымі войнамі ў Афганістане і Іраку.

Многія ўжо называюць гэтую кнігу адной з самых сумных у гісторыі. «Калі вы чытаеце гэты ліст, значыць, мяне ўжо няма ў жывых». Ліст з такой фразай салдаты звычайна захоўвалі пры сабе ў нагруднай кішэні ў надзеі, што ў выпадку гібелі на перадавой яго адправяць іх блізкім і каханым таварышы з фронту. Усе лісты, сабраныя ў кнізе, і насамрэч дайшлі да адрасатаў…

Гісторык-дакументаліст Шон Прайс тры гады падарожнічала па ўсім свеце, чытаючы архівы: музейныя, бібліятэчныя, ваенныя і сямейныя. Яна вывучыла 30 тысячаў лістоў ад салдат розных эпох: ад напалеонаўскіх войнаў і заканчваючы войнамі ў Афганістане і Іраку. Спачатку Шон Прайс рыхтавала на аснове матэрыялу радыёпраграмы, затым з'явілася ідэя скласці кнігу. У яе ўвайшлі 70 лістоў вайскоўцаў: і радавых, і генералаў, рознага ўзросту і веравызнання, розных культураў і нацыянальнасцяў: японцаў, аўстралійцаў, немцаў, брытанцаў і французаў.

Але, як высветлілася, перад тварам смерці, нягледзячы на, здавалася б, непераадольныя адрозненні, усе салдаты гатовыя казаць толькі пра адно — пра самае патаемнае і пра любоў: да жыцця і да тых, хто застаецца жыць пасля іх. Праўда, як кажа аўтар, кожны выказвае свае думкі па-свойму: хтосьці відавочна пісаў самае важнае прызнанне ў жыцці, якое ніколі б не адважыўся вымавіць уголас, хтосьці філасофствуе. Як, напрыклад, ангелец Майкл Эндру Скот, які незадоўга да гібелі ў самым пачатку Другой сусветнай напісаў бацьку: «Тое, што мы называем жыццём, усяго толькі пераходны этап чалавечага развіцця». Хтосьці нават у апошнім у жыцці лісце знаходзіць у сабе сілы жартаваць. Цяжэй за ўсё чытаць лісты зусім маладых салдат, хто не верыць, што яго могуць забіць. У 1982 годзе Герберт Джонс у лісце дадому напісаў: «Увогуле не думаю, што ёсць хоць найменшыя шанцы, што са мной нешта здарыцца». Праз некалькі дзён Джонса забілі ў аперацыі на Фолклендскіх выспах…

Але не менш цяжка чытаць і лісты пакуль яшчэ жывых, але ўжо асуджаных на пагібель. Ніл Доўнс родам з Манчэстэра пісаў з Афганістана сваёй нявесце: «Спадзяюся, ты пражывеш цудоўнае жыццё. Выходзь замуж, нараджай дзяцей. А я буду кахаць цябе вечна». Падарожнічаючы па свеце, аўтару кнігі нават удалося адшукаць сем'і салдатаў, якія атрымалі пахаванкі і развітальныя лісты з фронту. Яны расказваюць у кнізе, як смерць блізкіх паўплывала на іх жыццё.

Выйшаўшы з друку, дакументальная кніга «Калі вы чытаеце гэтыя лісты...» адразу стала бэстсэлерам у Вялікабрытаніі. І яе ўжо называюць адной з самых сумных кніг у гісторыі…

## ПАСТАНОЎКА

# САМЫ «ДОЎГІ» ФІЦДЖЭРАЛЬД

**Нью-ёркскі тэатр стварыў самую незвычайную пастаноўку «Вялікага Гэтсбі». На працягу васьмігадзіннай п'есы са сцэны гучыць кожнае слова, якое ўвайшло ў знакаміты раман Фрэнсіса Скота Фіцджэральда.**

Ідэя пастаноўкі спектакля, які ў выніку быў названы «Гэтц» (Gatz), прыйшла ў галаву працаўнікам нью-йоркскай тэатральнай кампаніі Elevator Repair Service яшчэ ў сярэдзіне 1990-х гадоў. Першапачаткова пастаноўшчыкам спадабалася сама ідэя параўнаць Нью-Ёрк узору 1990-х і 1920-х гадоў; аднак з часам галоўнай стала ідэя максімальна асцярожнага перанясення рамана на сцэну, прычым стваральнікі спектакля наўмысна не хацелі выкарыстаць якую-небудзь са сцэнічных адаптацый «Гэтсбі», лічачы мову самога рамана «дасканалай».

Па сюжэце п'есы офісны службовец Нік знаходзіць у сябе на працоўным месцы кнігу з «Вялікім Гэтсбі» і пачынае яе чытаць — і па ходзе дзеяння вакольныя калегі Ніка ператвараюцца ў герояў Фіцджэральда і разам разыгрываюць дзеянне знакамітага рамана ад першай да апошняй літары.

У пастаноўцы, якую некаторыя крытыкі ўжо паспелі назваць «галоўнай падзеяй у тэатральным жыцці за апошняе дзесяцігоддзе», занята 13 акцёраў. Як прызнаецца Джон Колінз, аўтар ідэі пастаноўкі, дзякуючы спектаклю ён прачытаў (або пачуў са сцэны) «Гэтсбі» каля паўтары сотні разоў, а выканаўца ролі Ніка Скот Шэперд сцвярджае, што вывучыў кнігу на памяць.

Нагадаем, што за апошні час «Вялікі Гэтсбі» карыстаецца ў творчых кругах ЗША адмысловай папулярнасцю: здымкі сваёй кінаверсіі рамана ў Аўстраліі нядаўна завяршыў Баз Лурман.

## УГОДКІ

# 200-ГОДДЗЕ АЎТАРА «ОЛІВЕРА ТВІСТА»: ТВОРЫ І ГРОШЫ…

**У лютым свет адзначае 200-я ўгодкі з дня нараджэння Чарльза Дзікенса — аднаго з найзнакамітых брытанскіх пісьменнікаў.**



Кадр з кінафільма «Олівер Твіст»

Галоўная цырымонія адбылася ў лонданскім Вестмінстэрскім абацтве, дзе пісьменніка пахавалі ў 1870 годзе. На магілу Дзікенса ўсклаў вянок прынц Чарльз, да яго далучыліся нашчадкі пісьменніка. Святочныя мерапрыемствы адбыліся і ў родным горадзе Дзікенса Портсмут на паўднёвым беразе Англіі.

З нагоды юбілею пісьменніка BBS замовіла незвычайнае даследаванне, аўтары якога ўпершыню вызначылі кошт творчай спадчыны пісьменніка — як своеасаблівай гандлёвай маркі. Кансалтынгавая фірма Interbrand, якая даследавала камерцыйны патэнцыял Дзікенса, падлічыла, што аўтар «Олівера Твіста» і «Пасмяротных запісак Піквікскага клуба» кожны год прыносіць брытанскай эканоміцы каля 280 млн фунтаў (каля 440 млн даляраў ЗША).

Як адзначыў карэспандэнт BBS Дэвід Стэнхаўс, грошы заўсёды былі адным з галоўных прадметаў зацікаўленасці Дзікенса як пісьменніка.

Сірата Олівер Твіст, як вядома, «хацеў яшчэ» і хутка разбагацеў. Жыццё Піпа ў «Вялікіх надзеях» змянілася за кошт таямнічага дабрадзея, а персанажы «Халоднага дома» былі ўлучаныя ў бясконцы і дарагі судовы разгляд.

Ні адзін іншы пісьменнік не надаваў столькі ўвагі пераўтваральнай сіле грошай і нягодам беднаты.

Наватарскія творы Дзікенса былі прадуктам творчасці чалавека, які не па чутках ведаў, што такое галеча. І нават пасля таго, калі пісьменнік пачаў зарабляць велізарныя па тых часах сумы грошай, ён ніколі не забываў аб сваім бедным мінулым.

Дзікенс вёў нясконцыя судовыя цяжбы з-за парушэння сваіх аўтарскіх правоў у Амерыцы. Але ў выніку ён памёр у багацці, пакінуўшы пасля сябе мноства кніг, якія сталі бэстсэлерамі.

Яго творы добра прадаюцца і сёння: кнігі прыносяць выдаўцам каля 3 млн фунтаў у год. Экранізацыі яго раманаў у кіно і на тэлебачанні дадаюць да агульнай сумы яшчэ 34 млн, а тэатральныя пастаноўкі пявялічваюць прыбыткі яшчэ на 64 млн фунтаў.

Зрэшты, па дадзеных згаданага даследавання, ільвіную частку прыбыткаў ад спадчыны Дзікенса дае турызм: музеі пісьменніка ў Лондане, Портсмуце і графстве Кент прыцягваюць мноства наведвальнікаў.

Але творчасць Дзікенса ўспамінаюць далёка не толькі ў музейнай цішыні або ўніверсітэцкіх аўдыторыях. Імя пісьменніка ўпрыгожвае мноства брытанскіх пабаў і крамак, яго ўспамінаюць на калядных кірмашах і віктарыянскіх фэстах. Што і не дзіўна для аўтара, які больш чым хто-небудзь іншы зрабіў для ўвекавечвання яркай і каларытнай Віктарыянскай эпохі.

Няцяжка знайсці ўпрыгожаныя партрэтам Дзікенса ручнікі, кубкі, саколкі — і нават цэлы набор гатункаў піва яго імя, якое выробляе бровар Mauldons у Суфалцы.

Стваральнік многіх камерцыйна паспяховых раманаў наўрад ці быў бы супраць з'яўлення піва «Мікабер», названага ў гонар аднаго з яго самых вядомых персанажаў. Мікабер з «Дэвіда Каперфільда» трапляе ў пазыковую турму. Але яго аўтар — нават праз два стагоддзі — працягвае зарабляць мільёны, якія і ў сне не маглі прысніцца самаму вядомаму дзікенсаўскаму багацею — Эбенезеру Скруджу…

### …І рукапісы…

У Кембрыджы выйшаў факсімільны рукапіс «Вялікіх надзей», які дазваляе прасачыць у дэталях «творчы працэс» Чарльза Дзікенса.

Арыгінальны рукапіс самага любімага чытачамі (як паказала адпаведнае апытанне) рамана доўгі час захоўваўся ў брытанскім музеі Wisbech & Fenland Museum і быў даступны для азнаямлення толькі адзін раз у месяц. Цяпер жа прыхільнікі і даследчыкі творчасці Дзікенса змогуць азнаёміцца з рукапісам «Вялікіх надзей» у «камфортных» умовах.

Журналісты, якія ўжо азнаёміліся з выданнем, адзначаюць, што ў ім паўстае ва ўсёй красе неахайны почырк пісьменніка разам з манерай упіхаць словы ў прастору, неадпаведную для іх па сваім аб'ёме; заадно можна выявіць крытычныя заўвагі на палях, якія Дзікенс пакідаў сам сабе, і выпраўленні (да прыкладу, першы радок рамана неаднаразова перапісваўся — хоць закрэсліванні з цяжкасцю дазваляюць разабраць, што гаварылася ў пачатку «Надзей» у «альтэрнатыўных» версіях). Нарэшце, на апошняй старонцы можна выявіць арыгінальную — маркотную — канцоўку рамана, асабіста перакрэсленую Дзікенсам і (па радзе сяброў) змененую на шчаслівую.

Арыгінальны рукапіс таксама дасталі з музейнага схову — да чэрвеня 2012 года ён стаў часткай маштабнай Дзікенсаўскай выставы ў Лондане.

### …І прататып

У героя кнігі Дзікенса знайшоўся рэальны прататып. Злачынца, з якога пісьменнік спісаў падступнага Феджына (Фейгіна) з «Прыгодаў Олівера Твіста», звалі Генры Мёрфі.

«Боса», які кіраваў працай малых злачынцаў, прынята лічыць адным з самых злавесных адмоўных герояў ва ўсёй палітры персанажаў, створаных вялікім ангельскім пісьменнікам. Як аказалася, не ўсе яго рысы былі плёнам фантазіі Дзікенса. Даследчыкі адшукалі ў выпуску «The Times» за 1834 год (час, які непасрэдна папярэднічае публікацыі «Олівера Твіста») нататку пра Эдварда Трэбшоў, «разумнага дзесяцігадовага хлопца», які ўцёк з дома і далучыўся да банды пад кіраўніцтвам нейкага Генры Мёрфі. Трэбшоў прывабіў у банду 13-гадовы сын самога Мёрфі, які загадаў яму «красці ўсё, што кепска ляжыць». Падабенства з сюжэтнай завязкай «Олівера Твіста» відавочнае; да ўсяго, Мёрфі, як і кніжны Феджын, належыць да нацыянальнай меншасці (Феджын быў габрэем, а Генры Мёрфі — чарнаскурым).

Вядома, што Дзікенс вельмі насцярожана ставіўся да чарнаскурага насельніцтва Лондана, і даследчыкі адзначаюць, што некаторыя назіранні з іх жыццём леглі ў аснову апісанняў лонданскіх злачынных «нізоў».

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваныя паводле матэрыялаў Радыё BBS, Весці ФМ, а таксама інтэрнэт-рэсурсаў znaki.fm, lenta.ru і prajdzisvet.org**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 3 САКАВІКА, ПЯТНІЦА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.35** Цыкл тэлеперадач «Дыялогі аб цывілізацыі».
**13.05** Драматычны серыял «Вар'яты-2» (ЗША).
**14.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** Фартыфікацыя.
**16.20** Мастацка-публіцыстычны фільм «Эпоха. Падзеі і людзі».
**17.05** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**17.55** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**19.15** Навіны рэгіёна.
**19.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Дзень спорту.
**21.50** Трылер «Афёра» (ЗША).
**23.55** Містычны трылер «Выспа праклятых» (ЗША).
**02.15** Дзень спорту.

**Н**

**06.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Правa на абарону».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**19.00** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера АНТ: «Я спяваю!».
**23.20** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі? у Беларусі».
**00.35** «Пражэктарпэрысхілтан».
**01.05** Начныя навіны.

**ТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Т/с «Важняк. Гульня навылёт».
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** Т/с «Агонь кахання».
**13.50** Т/с «Студэнты-2».
**14.40** Т/с «NEXT-3».
**15.35** Т/с «Доктар Тырса».
**16.50** Т/с «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** М/ф «Дзень радыё».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** М/ф «Буш».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**10.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон» (Расія- Украіна). 4-я серыя.
**11.00** Ясі і худзей.
**11.30** Бітва экстрасэнсаў.
**12.35** Школа рамонту.
**13.35** Час футболу.
**14150** Страсці па культуры.
**14.55** Баявік «Рызыка без кантракту» (Расія).
**16.25** Нянудны глобус.
**16.50** Жансавет.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Крымінальная камедыя «Няўдачнікі» (Францыя).
**20.45** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**22.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.15** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету сярод юніёраў.

**04.25** «Злачынства і пакаранне».
**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** «Рэспубліка сёння».
**05.20** «Таямніцы манежа».
**06.05** М/с «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** «Цік - так».
**07.05, 08.05, 04.30** Т/с «Ваўчыца».
**09.05** «Рэспубліка сёння».
**09.25** «Смачны свет».
**10.05, 11.05** М/ф «Нечакана - неспадзявана».
**12.20** «Навіны садружнасці. Культура».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Давай пажэнімся».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** «Правілы жыцця».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** «Зроблена ў СССР».
**19.10, 21.20** М/ф «Чацвёртая група».
**21.45** «Неверагодная праўда пра зорак».
**22.45** «Любімыя акцёры».
**23.15** М/ф «Здабытак рэспублікі».
**01.50** «Добрыя жарты».

**Discovery CHANNEL**

**04.05** Круты цюнінг.
**05.00** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**05.25** Рукатворныя цуды.
**06.20** Як гэта ўладкавана?
**06.50** Як гэта зроблена?
**07.15, 10.00, 11.50, 15.05** Браты па зброі.
**08.10, 16.00, 20.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**09.05** Рукатворныя цуды.
**10.55** Хлопцы з гарматамі.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear.
**13.40** Круты цюнінг.
**14.35** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**17.00** Як гэта ўладкавана?
**17.30** Як гэта зроблена?
**19.00** Сусвет Стывена Хокінга.
**21.00** Скрыўленне часу.
**22.00** Прасцяк за мяжой.
**00.00** Сусвет Стывена Хокінга.
**00.55** Рукатворныя цуды.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы.
**04.10** Як гэта ўладкавана?
**04.40** Як гэта зроблена?

**EUROSPORT**

**10.30, 14.30, 21.00, 02.00** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Кітая. Хайнань.
**12.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Чэмпіянат свету. HS 206. Вікерсунд.
**13.30** Лыжнае дваяборства. Кубак свету. HS 130. Лахці.
**14.15** Вось дык так!!!
**17.15** Лыжнае дваяборства. Кубак свету. Гонка па сістэме Гундэрсена. Лахці.
**18.00, 22.30, 23.30, 00.15** Футбол. Эўра - 2011. Таварыскі матч. Агляд.
**19.00** Біятлон. Чэмпіянат свету. Змяшаная эстафета. Рупольдзінг.
**20.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 130. Кваліфікацыя. Лахці.
**01.00** Футбол. Эўра - 2011. Агляд таварыскіх матчаў.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**08.00** «Час гонару», серыял: 41 серыя.
**08.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.10** «Школа на санцапёку», серыял: 7 серыя.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Паляўнічы ды эколаг».
**10.35** Аблічча таталітарызму: «Плошча», дак. фільм, 2006 г., Беларусь.
**12.05** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**12.35** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**13.00** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**13.45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.15** «Час гонару», серыял 41 серыя.
**15.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.25** Аблічча таталітарызму: «Плошча», дак. фільм, 2006 г., Беларусь.
**17.00** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 11 серыя.
**17.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**18.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 5 серыя.
**19.05** «Бывай, зброя?», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Невядомая Беларусь: «Гаспадар..», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.50** «Цуд на Пурым», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**22.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**22.55** Аб'ектыў.
**23.20** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 4 САКАВІКА, СУБОТА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Ранішняя хваля.
**09.45** Каробка перадач.
**10.20** Культурныя людзі.
**10.50** Серыял «Сваты» (Украіна).
**12.00** Навіны.
**12.10** Дэтэктыў «Пятроўка-38» (СССР).
**13.55** Мультфільм.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**15.55** Дэтэктыў «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**17.45** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.00** Навіны.
**19.15** Камедыйная драма «Год сабакі» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Драма «Прыгажосць па-амерыканску» (ЗША).
**23.55** Моладзевая камедыя «Суседка» (ЗША).
**01.45** Дзень спорту.

**Н**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**11.50** Тэорыя неверагоднасці.
**12.35** Шматсерыйны фільм «І усёткі я кахаю…».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Вакацыі строгага рэжыму».
**18.25** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**19.05** Прэм'ера АНТ: «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Кубак прафесіяналаў».
**23.30** Прэм'ера. Юбілейны канцэрт групы «Любэ».

**ТВ**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** Т/с «Салдаты-13».
**09.00** «Небяспечны месяц».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** М/ф «Дзень радыё».
**12.55** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** М/ф «Злодзеі ў законе».
**15.15** «Ваенная таямніца».
**16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** М/ф «Самотны анёл».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** М/ф «Аслепленыя жаданнямі».
**22.00** «Зорны рынг».
**23.15** М/ф «Ва ўсёй красе».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.30** Дабравест.
**08.00** Мір вашай хаце.
**08.10** Скарбніца Гомельшчыны.
**08.35** Крымінальная камедыя «Няўдачнікі» (Францыя).
**10.30** Пра мастацтва.
**11.00** Тэлебарометр.
**11.05** Школа рамонту.
**12.05** Наперад у мінулае.
**12.40** Шоў «Інтуіцыя».
**13.45** Беларуская кухня.
**14.20** Біятлон. Чэмпіянат свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.00** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.35** Дакументальны цыкл «Вышэйшая мера..».
**17.20** Біятлон. Чэмпіянат свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**18.45** Хакей. КХЛ.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Бітва экстрасэнсаў.
**23.10** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету сярод юніёраў.
**01.15** Шоў «Інтуіцыя».

**04.25** «Зроблена ў СССР».
**05.00, 02.40** Д/ф «Увесь гэты спорт».
**05.40** «Даведнік».
**06.15** М/ф «Анiскін і Фантамас».
**07.30** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.40** «На шашлыкі».
**10.10** «Таямніцы манежа».
**10.40** Т/с «Чэрчыль».
**13.30** Д/с «Доказы віны».
**14.00** «Правілы жыцця».
**15.10, 04.15** М/ф «Забаржад».
**16.40** М/ф «Трохі кахання, трохі магіі».
**19.10** «Навіны садружнасці. Культура».
**20.00** М/ф «Вы не пакінеце мяне».
**22.10** М/ф «Юр'еў дзень».
**00.45** «Добрыя жарты».

**Discovery CHANNEL**

**04.05** Круты цюнінг.
**05.00** Стварыі матацыкл.
**05.55, 21.00** Паляўнічыя за старызной.
**06.50, 22.00** Вугаль.
**07.45, 00.00** Рыба-меч.
**08.40** Мега-будоўлі.
**09.35** Гіганцкія будоўлі.
**10.30** Discovery.
**11.25** Выжыць любым коштам.
**12.20** Будаўнічая дапамога.
**13.15, 13.40, 19.30, 04.10, 04.40** Каралі аўкцыёнаў.
**14.10, 14.35, 20.00, 20.30** Брудныя грошы.
**15.05, 02.45** Як гэта ўладкавана?
**15.30** Як гэта зроблена?
**16.00** Сусвет Стывена Хокінга.
**17.00** Разбуральнікі легенд.
**18.00** Скрыўленне часу.
**19.00** Грошы не пахнуць.
**23.00** Залатая ліхаманка.
**00.55** Рачныя монстры.
**01.50** Выжыць разам.

**EUROSPORT**

**10.30** Санкавы спорт. Чэмпіянат Еўропы. Агляд.
**11.00** Лыжнае дваяборства. Кубак свету. HS 130. Лахці.
**11.45** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам-гігант. Спроба 1.
**12.45** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Жанчыны. Гонка пераследу. Лахці.
**13.30** Лыжнае дваяборства. Кубак свету. Гонка па сістэме Гундэрсена. Лахці.
**14.30, 20.45, 01.00** Біятлон. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Спрынт. Рупольдзінг.
**16.00** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Мужчыны. Гонка пераследу. Лахці.
**17.30, 02.00** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Жанчыны. Спрынт. Лахці.
**18.45, 00.00** Скачкі на лыжах з трампліна. HS 130. Камандныя спаборніцтвы. Лахці.
**22.00, 04.00** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Кітая. Хайнань.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**08.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.50** Калыханка для самых маленькіх.
**09.15** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.45** Невядомая Беларусь: «Гаспадар..», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**10.15** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 11 серыя.
**10.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.05** «Бывай, зброя?», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**11.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.05** Калыханка для самых маленькіх.
**12.30** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.00** Невядомая Беларусь: «Гаспадар..», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**13.30** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 11 серыя.
**13.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.35** «Цуд на Пурым», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**15.30** «Згубленыя вакацыі», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 15 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Пiянеры зменаў. ЗША», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.35** «Каліф на гадзіну», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Прынцэсы», маст. фільм, 2005 г., Іспанія.
**23.35** «Мент», дэтэктыўны серыял: 11 серыя.
**00.25** Аб'ектыў.

## 5 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

**Беларусь 1**

**06.50** Атлас «Дыскаверы». «Расія».
**08.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Медычныя таямніцы.
**10.15** Да цешчы на бліны.
**10.50** Серыял «Сваты» (Украіна).
**12.10** Дэтэктыў «Агарова, 6» (СССР).
**13.55** Мультфільм.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Відэафільм АТН «Фаворскае святло жабінкаўскіх знічак» цыклу «Зямля беларуская».
**15.45** Дэтэктыў «Ілюзія палявання» («Беларусьфільм»). 3-я і 4-я, заключная, серыі.
**17.40** Тэлефільм АТН «Навука перамагаць».
**18.10** Суперлато.
**19.00** Камедыя «Паміж небам і зямлёй» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Прэм'ера. Драма «Пасланец» (ЗША).

**АНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Вясна на Зарэчнай вуліцы».
**11.35** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.35** Нядзельны «Ералаш».
**13.05** Фільм «Масква слёзам не верыць».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Таццяна Васільева. Я умею трымаць удар».
**17.20** АНТ прадстаўляе: «Эстрадны коктэйль».
**18.50** Прэм'ера. «У чорным-чорным пакоі…».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дыханне планеты».
**21.40** «Дзве зоркі».
**23.10** Фільм «12».

**СТВ**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** «Салдаты. Дзембельскі альбом». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.35** «Вялікі сняданак».
**11.15** Фільм «Вердыкт за грошы». ЗША, 2003г.
**13.35** «Добры дзень, доктар».
**14.05** Фільм «Балада пра доблеснага рыцара Айвенга». СССР, 1982г.
**15.45** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Гульня слоў». ЗША-Германія, 2005г.
**22.35** «Прафесійны бокс».
**23.35** Фільм «Валізкі Тульса Люпера». Расія-Германія- Вялікабрытанія-Нідэрланды-Італія- Іспанія-Люксембург, 2003г.

**Беларусь 2**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** Т/с «Салдаты-13».
**09.00, 19.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.25** «Вялікі сняданак».
**11.05** М/ф «Аслепленых жаданнямі».
**12.55** «Добры дзень, доктар».
**13.30** М/ф «Не самы ўдалы дзень».
**15.15** «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** М/ф «Круты Джо».
**22.35** «Прафесійны бокс».
**23.35** М/ф «Пакой».

**Беларусь 3**

**05.00** Дакументальны фільм «Аляксей Шмарынаў. Рускі мастак».
**06.50** Праграма «Смачны свет. Туркменская кухня».
**07.20** Мастацкі фільм «Факір на гадзіну».
**08.55** Мультсерыял «Прыгоды Мумі Троля».
**09.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**09.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**09.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**10.10** Праграма «Ведаем рускую».
**11.10** Праграма «Даведнік».
**11.40** Тэлесерыял «Агенцтва «Залатая куля»».
**12.00** Дакументальны серыял «Доказы віны».
**13.00** Праграма «Правілы жыцця».
**13.00** Навіны Садружнасці.
**16.10** Канцэрт «Мая пяшчота».
**17.30** Праграма «Простыя лікі».
**18.00** Тэлесерыял «Каханне і іншыя дурасці».
**21.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.00** Мастацкі фільм «Безназоўная зорка».
**00.25** Праграма «Паўночнікі».
**00.55** Мастацкі фільм «Маё апошняе танга».
**03.10** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**03.55** Дакументальны фільм «Аляксей Шмарынаў. Рускі мастак».
**04.40** Мастацкі фільм «Факір на гадзіну».

**Discovery Channel**

**04.05, 04.35** Брудныя грошы.
**05.00, 05.25** Вокамгненныя катастрофы.
**05.55, 01.50** Лабараторыя выбухных ідэй.
**06.50, 12.20, 19.00, 00.55** Разбуральнікі легенд.
**07.45, 02.45** Як гэта ўладкавана?
**08.10** Як гэта зроблена?
**08.40** Залатая ліхаманка.
**09.35** Вугаль.
**10.30** Выжыць разам.
**11.25** Сусвет Стывена Хокінга.
**13.15** Скрыўленне часу.
**14.10** Будаўнічая дапамога.
**15.05** Выжыць любым коштам.
**16.00, 17.00, 18.00** Рыба-меч.
**20.00** Хлопцы з гарматамі.
**21.00, 21.30** Я збег.
**22.00** Марыхуана ў законе.
**23.00** Працяк за мяжой.
**00.00** Рачныя монстры.
**04.10** Discovery.

**Eurosport**

**05.00** Д/ф «Увесь гэты спорт».
**05.40** «Смачны свет».
**06.15, 02.05, 04.05** М/ф «Аніскін і Фантамас».
**07.30** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00, 02.00, 04.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Ведаем рускую».
**10.10** «Даведнік».
**10.40, 00.05, 01.05** Т/с «Чэрчыль».
**13.30** «Правілы жыцця».
**14.30** «Бітва за Крэмль. З гісторыі прэзідэнцкіх выбараў у Расіі».
**15.10** Ток - шоў «Яшчэ не разам».
**16.10, 21.00, 22.05, 23.05** Т/с «Дзеці Ванюхіна».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 15 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.00** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.15** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.35** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** Сальда (эканамічная праграма).
**10.20** «Згубленыя вакацыі», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**11.45** Два на два (тэледыскусія).
**12.10** «Каліф на гадзіну», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**12.35** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 5 серыя.
**12.45** «Тэра постсаветыка», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.15** Калыханка для самых маленькіх.
**13.40** «Піянеры зменаў. ЗША», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**14.35** «Згубленыя вакацыі», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**16.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**16.30** «Каліф на гадзіну», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Час гонару», серыял 42 серыя.
**18.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Два на два (тэледыскусія).
**18.55** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 12 серыя.
**19.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**19.35** Калыханка для самых маленькіх.
**19.45** Дакументальная гадзіна: «Апошняя кніга Рышарда Капусьцінскага», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Пад Кубрыка», маст. фільм, 2005 г., Францыя–Брытанія.
**23.35** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**23.45** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.25** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанк», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 044) 755 66 48 Марына

БЕЛПОЧТА — ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 1200 руб. аднаго месяца — 4800 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|
| | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня
Кассир Всего

КІНО

# ПІНГВІНЫ І НАЦЫСТЫ

Алег НОВІКАЎ

**Адбылася прэм'ера фільму «Жалезнае неба», занятага па матывах нацысцкага міфу пра тое, як кіраўніцтву Трэцяга Рэйху ў 1945 годзе ўдалося збегчы на Месяц.**



Сінопсіс фільма «Жалезнае неба» (яго зняў фінскі рэжысёр Ціма Вуарэнсола), прэм'ера якога адбылася 11 лютага ў рамках прэстыжнага фестывалю «Берлінале», наступны: у час Другой сусветнай вайны нацысцкія навукоўцы зрабілі велізарны прарыў у галіне антыгравітацыі. У канцы 1945 года першыя лятаючыя талеркі нацыстаў паляцелі з сакрэтнай базы ў Антарктыцы на цёмны бок Месяца, каб там заснаваць ваенную базу «Schwarze Sonne» («Чорнае Сонца»). База павінна была стварыць магутны флот для захопу Зямлі ў патрэбны момант. Дзеянне фільма адбываецца ў 2018 годзе. Амерыканцы збіраюцца здзейсніць новую, першую з 1969 года, высадку на Месяц. У той жа час нацысцкі план, які знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі на працягу 70 гадоў, нарэшце стартуе.

Вось такое кіно, аўтары сцэнару якога, па сутнасці, мала што прыдумалі. За выключэннем хэпі-энда, у якім зямляне ўсё ж адбіваюць атаку касмічных нацыстаў, усё кладзецца ў рамкі неанацысцкай міфалогіі.

Крыніцы гэтай незвычайнай дактрыны цяпер ужо цяжка ўстанавіць. Факт у тым, што пасля таго, як у 1947 годзе, калі ў ЗША сталі шмат казаць пра лятаючыя талеркі, шэраг былых функцыянераў фашысцкіх дзяржаў зрабілі сенсацыйныя заявы. У 1950 годзе Джузепе Белуза, міністр эканомікі ў часы рэжыму Мусаліні, паведаміў, што ў 1942 годзе немцы і італьянцы прыдумалі мадэль лятаючых талерак, аднак нейкія спецслужбы скралі тыя чарцяжы. Праз два гады нямецкі часопіс «Der Spiegel» апублікаваў інтэрв'ю аднаго нямецкага вайсковага інжынера, які сцвярджаў, што ў акупаванай падчас вайны Празе ён быццам распрацаваў мадэль лятаючых апаратаў, падобных на дыскі і сігары. Толькі хуткі прыход Чырвонай арміі не дазволіў выпрабаваць іх на фронце.



Важна таксама адзначыць, што сенсацыі супалі з выхадам на экраны фільму, знятага па апавяданню амерыканскага фантаста Роберта Хайнлайна, напісанага ў 1947 годзе. У ім гаворка ішла пра нацысцкую базу на Месяцы, якая з дапамогай флоту касмічных караблёў рыхтуе напад на Зямлю.

Не зразумела было толькі адно: адкуль прыляцелі тыя талеркі? Адказ падкінулі французскія журналісты Жак Бержэ і Луі Павэль, якія ў 1960-м выкінулі на кніжны рынак бестселер «Раніца магаў» — «сумесь папулярнай навукі, акультызму, астралогіі, навуковай фантастыкі і тэхнікі спірытуалізму», як характарызавала твор крытыка.

Тандэм аўтараў сцвярджаў, што ідэю выкарыстання космасу і сакрэты НЛА падкінула Гітлеру тайная акультная арганізацыі, якая, у сваю чаргу, мела кантакт з незямнымі цывілізацыямі. Месцам кантактаў паміж імі, быццам, была Антарктыда, дзе ў 1930-я гады дзейнічаў праект «Новая Швабія». Новая Швабія — тэрыторыя Антарктыды, на якую Берлін у 1930-я гады прад'яўляў тэрытарыяльныя прэтэнзіі. У 1938–1939 годзе тут працавала нямецкая спецыяльная навуковая экспедыцыя.

З пачаткам Другой сусветнай вайны дзейнасць экспедыцыя была згорнутая. Аднак прыхільнікі канспіралогіі сцвярджалі адваротнае. З розных, часам вельмі спрэчных крыніц, яны зляпілі тэорыю наконт таго, што «Новая Швабія» працягвала працаваць і пасля 1939 года. Так, яны смакавалі цытату, якую ў 1943 годзе быццам сказаў грос-адмірал Дэніц: «Германскі падводны флот стварыў на іншым канцы свету для фюрэра непрыступную крэпасць».

Значнае месца ў базе доказаў на карысць існавання «Новай Швабіі» займае гісторыя так званай чацвёртай амерыканскай антарктычнай экспедыцыі «Высокі скачок» (англ. Highjump) пад кіраўніцтвам адмірала Рычарда Бэрда, якая мела месца ў 1946–1947 гадах. Паводле афіцыйных звестак, экспедыцыя займалася ў Антарктыцы выключна навукай. Між тым, аматары нацысцкіх НЛА сцвярджаюць, што «ў самым пачатку сакавіка 1947 года караблі і самалёты Чацвёртай антарктычнай экспедыцыі падпалі нападу дзіўных лятаючых апаратаў, якія вынырвалі з-пад вады і, рухаючыся з велізарнай хуткасцю, наносілі экспедыцыі значныя страты. Гэтыя дзіўныя лятальныя апараты былі выраблены на замаскіраваных у тоўшчы антарктычнага лёду авіябудаўнічых заводах нацыстаў, канструктары якіх авалодалі нейкай невядомай энергіяй, што ўжывалася ў рухавіках гэтых апаратаў». Балгарскі навуковец Уладзімір Тэрзіцкі нават дэманстраваў выявы той нацысцкай іншаземнай калоніі. Пазней, праўда, было ўстаноўлена, што гэтыя здымкі — фальшыўка.

Ва ўсё гэта верылася, аднак, і так з цяжкасцю. Адзінае, што выклікае сумнеў у афіцыйная версіі ВМФ ЗША — маштабы экспедыцыі Бэрда. Гэта была сапраўдная армада, якая быццам павінна была выканаць вайсковую, а не навуковую місію: авіяносец, 13 караблёў розных тыпаў, 7 верталётаў, больш 4 тысяч чалавек асабовага складу. Праўда, магчыма, гэта была вайсковая дэманстрацыя на адрас Аргенціны: у той час Перон абвясціў Антарктыду аргенцінскім пратэктаратам.

Калі раней у НЛА на службе люфтвафэ верылі толькі навукоўцы-дзівакі, то напрыканцы 1970-х гадоў міф пра нацыстаў з Месяцу і Паўднёвага полюса пачаў актыўна выкарыстоўваць правы радыкальны андэграўнд. Такая траекторыя была, безумоўна, звязана са зменамі ў капіталістычным грамадстве. Індустрыяльная мадэль грамадства патрабавала ад чалавека быць шрубком канвеера, бяздумнай машынай спажывання. У пошуках альтэрнатывы сярод моладзі прачынаецца цікавасць да акультных навук і эзатэрыкі, якая традыцыйна была звязана з правым дыскурсам.

Флагманам моды на касмічных нацыстаў стаў канадскі журналіст Эрнст Зюндэль, які ў 1970 годзе пакляўся, што атрымлівае радыёсігналы ад кіраўніцтва Трэцяга Рэйху, які быццам працягвае існаваць сярод пінгвінаў. Паколькі адначасова Зюндэль выступаў за рэабілітацыю нацысцкіх злачынцаў, ім хутка зацікавіліся адпаведныя органы. Зюндэля, які меў нямецкі пашпарт, выдалі ФРГ, дзе ён адсядзеў 5 гадоў за нацысцкую прапаганду.

Яшчэ далей пайшоў чылійскі дыпламат і нацыст Мігель Серано. У кніжцы «The Golden Band» (1970) чыліец прагназаваў хуткі рэванш нацыстаў, якія збіраюць рэзервы на Месяцы.

З таго часу навука зрабіла вялікі крок наперад, у тым ліку ў вывучэнні Антарктыды і Месяцу. Сёння пра «замаскіраваныя ў тоўшчы антарктычнага лёду авіябудаўнічыя заводы нацыстаў» самі неанацысты даўно не пішуць. Гэта забаўка маленькай фракцыі эзатэрыкаў.

Аднак нечакана казку пра нацыстаў на Месяцы ўзгадалі кінематаграфісты. Адсюль узнікае пытанне: ці не дасць «Жалезнае неба» новы штуршок цікавасці да міфаў Трэцяга Рэйху, нацысцкай эстэтыкі і ўвогуле вар'яцкіх фашысцкіх ідэй? Калі меркаваць па першых рэцэнзіях, нават прэса ФРГ, дзе дасюль існуе база рэваншызму, не верыць у такую перспектыву.

«Der Spiegel» называе твор Ціма Вуарэнсолы «чыстым глупствам», што невядома як трапіла на строгі палітычны фестываль, якім заўсёды лічыўся «Берлінале». «Die Zeit» называе карціну «сумнай, плоскай і маладушнай, якую не выратоўваюць нават спецэфекты». Хіба толькі «Tageszeitung» ставіць стужцы добрую адзнаку. На думку выдання, гэта так ці інакш прарыў для фінскага кінематографа, які заўсёды быў на перыферыі.

Праўда, радавацца рана. Нават такі сярэдні поспех «Жалезнага неба» можа выклікаць цікавасць да нацысцкай міфалогіі калі не сярод падлеткаў, то сярод кінасцэнарыстаў. А тут, сапраўды, скарбніца для кінасюжэтаў. Як вам, напрыклад, байка пра экіпаж нямецкай падводнай лодкі U–530, які быццам у 1945-м перавёз з Германіі ў Антарктыду Святы Грааль? Так што Гітлера ў кампаніі пінгвінаў і зялёных чалавечкаў на экранах мы можам пабачыць яшчэ не раз.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Тым не менш, прыток расійскіх крэдытаў не можа стаць рашэннем структурных праблем Беларусі. Шматлікія эксперты мяркуюць, што пасля прэзідэнцкіх выбараў у Расіі Аляксандр Лукашэнка можа зноў вярнуцца да палітыкі арэляў паміж Масквой і Брусэлем: ён будзе хваліць аднаго, каб дамагчыся большага ад іншага. «Маленькія крокі ў бок ЕС — гэта чыста тактычны ход, — уздыхае еўрапейскі дыпламат у Мінску. — Лукашэнка нас ненавідзіць. Гэта сапраўдны homo sovieticus». За выключэннем пралічанай крытыкі ў адрас Масквы, адзіным сапраўдным актам непадпарадкавання з боку Аляксандра Лукашэнкі можна назваць хіба што адмову прызнаць незалежнасць сепаратысцкіх грузінскіх рэспублік Паўднёвая Асеція і Абхазія пасля вайны ў жніўні 2008 года. Што да ўсяго астатняга, нягледзячы на непрыязнасць у адносінах паміж беларускім лідарам і Уладзімірам Пуціным, Мінск упэўнена рухаецца па арбіце свайго вялікага суседа.

**«Le Monde» (Францыя)**

Паступова пазірае ў бок суседніх краін і мясцовы бізнэс. Нядаўна былі апублікаваны дадзеныя параўнальнага даследавання ўмоў вядзення бізнэсу ў краінах — сябрах Мытнага саюзу, праведзенага экспертамі аналітычнага Ліберальнага клуба. Паводле іх, у Беларусі налічваецца 18 падатковых выплат, у Расіі — 9, у Казахстане — 7. У гэтых умовах няма ніякіх сур'ёзных падстаў меркаваць, што ў Беларусь пацячэ капітал краін-удзельніц АЭП. Наступная пагроза ад АЭП, па меркаванні экспертаў, выявіцца пазней. Гаворка ідзе пра тое, што беларускія кампаніі не змогуць вытрымаць канкурэнцыю са сваімі расійскімі і казахстанскімі калегамі нават на ўнутраным рынку. З-за АЭП можа зачыніцца каля 10–15% беларускіх прадпрыемстваў. Лагічна, што іх месца зоймуць мацнейшыя — расійскія.

**«Независимая газета» (Расія)**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выгнаў расійскую газавую кампанію «Итера» з самага буйнага горадабудаўнічага праекта ў Мінску — дзелавога цэнтра «Мінск-Сіці» — і даручыў чыноўнікам знайсці новага інвестара. Кошт праекта складае амаль 5 мільярдаў долараў. Палітолагі лічаць, што рашэнне Лукашэнкі палітычнае. Цяпер кітайцы — першыя інвестары ў Беларусі. Расія субсідуе ўладу за кошт зніжак на нафту і газ і імпарту беларускіх прадуктаў і патрабуе прыватызацыі. Еўропа крэдытуе ў абмен на палітычныя рэформы. У кітайцаў няма патрабаванняў, і яны забяспечваюць рэспубліцы жывыя грошы. Удзельнікі будаўнічага рынка ўпэўнены, што новага інвестара ўжо знайшлі, інакш «Итера» не была б так хутка выключана з праекта.

**«Укррудпром» (Украіна)**

Ці ёсць жыццё на планеце Беларусь ніжэй адзнакі ў 200 долараў на месяц? Спантанныя страйкі, якія ўспыхваюць то там, то сям, паказваюць, што няма. І для Лукашэнкі яны значна небяспечней, чым арганізаваныя напады апазіцыянераў — стандартнай і праверанай «вакцыны» супраць гэтай хваробы ў беларускіх уладаў няма.

**«Росбалт» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. МАШЫНА ЗА КРЫТЫКУ ДЫКТАТАРА

Скандалам закончыўся конкурс выканаўцаў «айтысаў» у Алма-Аце. Айтыс, або айтыш, — гэта форма вуснай народнай песеннай паэзіі, якая выконваецца ў форме дуэлі двух акынаў. Песні падчас змагання могуць быць на любую тэму. Па выніках спаборніцтва выбіраецца пераможца, пры гэтым ацэньваецца як музычнасць і рытмічнасць, так і кемлівасць у падхопліванні аргументаў суперніка. Конкурс акынаў, які прайшоў у лютым, быццам не меў крамольнага падтэксту (гэты жанр чымсьці нагадвае побытавыя частушкі), аднак у выніку ён ператварыўся ў сапраўдную палітычную маніфестацыю. Вялікі рэзананс выклікалі словы песні акына з Уральська, ён выказаў папрок Назарбаеву за тое, што той за сем месяцаў страйку нафтавікоў у Жанаазене не знайшоў часу з'ездзіць і пагаварыць з імі. У першы дзень змаганняў журы дало гэтаму спеваку невысокую адзнаку, аднак зала прымусіла змяніць гэта рашэнне. Пакуль журы не павысіла спеваку адзнаку, людзі ў зале працягвалі стаяць, не спыняючы свае апладысменты. З улікам таго, што сабралася амаль 5 тысяч чалавек, відовішча было вельмі моцнае (яго, дарэчы, можна паглядзець у інтэрнэце). Закончылася ўсё тым, што акына з Уральску прызналі адным з 4-х лепшых і падаравалі машыну ў якасці прызу.

**Паводле казахскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. ЗАМЕСТ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА БАБУР

Незадоўга да 14 лютага высветлілася, што ўлады Узбекістана забаранілі дзень святога Валянціна, і замест гэтага далі моладзі ўказанне адзначаць дзень нараджэння мясцовага героя — мангольскага імператара Бабура, які нарадзіўся ў Андзіжана і потым заваяваў вялікую частку Паўднёвай Азіі. Агенцтва «Associated Press» прыводзіць цытату з узбекскай газеты, па версіі якой Дзень святога Валянціна з'яўляецца выключна інтрыгамі «злых сіл», накіраванымі на падрыў нацыянальных каштоўнасцяў. Рэформа календара шакавала ўсіх мясцовых гісторыкаў. Справа ў тым, што ў Бабура былі вельмі арыгінальныя каштоўнасці: ён быў гомасексуалістам і ўжываў гашыш. У дадатак сярэднявечны палітык нават не быў узбекам. Яго пяру належаць знакамітыя словы, якія ілюструюць няпростыя «этнічныя» адносіны таго часу: «Амаль сто сорак гадоў сталічны горад Самарканд належаў нашай дынастыі. Невядома адкуль узяўся ўзбек, чужынец і вораг прыйшоў і захапіў яго». Адным словам, ніхто не ведае сэнс культу Бабура. Адзіны лагічны адказ — Карымаў вырашыў прапагандаваць каханне ўсіх адценняў.

**Паводле казахскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. ПРЭМ'ЕР АГІТУЕ СУПРАЦЬ ШАТЛАНДСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Брытанскі прэм'ер Дэвід Кэмеран наведаў Шатландыю, каб абараніць свой погляд наконт запланаванага мясцовымі ўладамі на другую палову наступнага года рэферэндуму пра незалежнасць краю. Кэмеран і яго партыя кансерватараў супраць незалежніцкіх лозунгаў цяперашняга прэм'ера Шатландыі Алекса Салманда. У Эдынбургу Кэмеран выступіў з прамовай, акцэнтуючы ўвагу аўдыторыі на тэзісе: Шатландыя можа быць больш моцнай і больш справядлівай выключна ў складзе Вялікабрытаніі. На яго думку, у іншым выпадку Шатландыя не мае будучыні, паколькі сутыкнецца з вялікімі фінансавымі і структурнымі праблемамі. Аднак пры гэтым лідар торы выступіў за пашырэнне аўтаноміі рэгіёну. Аргументы прэм'ера, здаецца, не астудзілі баявы настрой шатландскіх нацыяналістаў. Яны заявілі, што працягнуць падрыхтоўку да рэферэндуму. Дарэчы, колькасць шатландцаў, якія збіраюцца галасаваць за выхад краю са складу Аб'яднанага Каралеўства, апошнім часам заўважна вырасла. Цяпер іх каля 40 працэнтаў, хаця месяц таму было толькі 30.

**Паводле брытанскай прэсы**

### АЎСТРЫЯ. КАДЫРАЎ СЯБРУЕ З ІСЛАМАФОБАМІ



Дэлегацыя дэпутатаў аўстрыйскай правай папулісцкай Партыі свабоды (FPÖ) у Венскім парламенце нанесла нечаканы візіт у Грозны. Палітыкі паехалі ў Чачню, каб пасля вяртання на радзіму зрабіць яшчэ больш незвычайную заяву. Калі верыць дэпутатам, у Чачні пабудавана сапраўднае дэмакратычнае грамадства. Усё дзякуючы адміністратарскаму генію Рамзана Кадырава. Абсурднасць сітуацыі палягае ў тым, што Партыя свабоды — ксенафобская партыя, якая вельмі часта робіць адказнымі за ўсе праблемы тых самых мусульманэмігрантаў, у тым ліку чачэнцаў. Для даведкі: у Аўстрыі камуна чачэнцаў, якія збеглі з Чачні за час войнаў і праўлення Кадыравых, складае 25 тысяч чалавек. Між тым, вядома, што Кадыраў-малодшы — адзін з самых заўзятых на Каўказе аматараў ісламскіх традыцый. Самі «свабодаўцы» тлумачаць гэты парадокс тым, што жыццё ў кадыраўскай Чачні цяпер такое цудоўнае, што ніхто з чачэнцаў не збіраецца эміграваць у Аўстрыю. Такім аргументам мала хто верыць. На думку прэсы, цалкам рэальна, што сябрам FPÖ папросту заплацілі. Раней, пасля падзення рэжыму Садама Хусэйна, у Багдадзе знайшлі дакументы, адпаведна якім партыя аўстрыйскіх папулістаў атрымлівала грошы за рэкламу Іраку на Захадзе.

**Паводле нямецкай прэсы**

ГЕАПАЛІТЫКА

# НОВАЯ БІТВА ЗА ГІБРАЛТАР

*Алег НОВІКАЎ*

**Іспанская кансерватыўная Народная партыя (PP), якая прыйшла да ўлады ў мінулым лістападзе, у сваёй праграме абяцае вярнуць у склад дзяржавы Гібралтар. Чым закончыцца гэта спроба аднавіць тэрытарыяльнае адзінства Іспаніі?**



Як вядома, юніён-джэк развіваецца над Гібралтарскім пралівам ад часу падпісання трактату ў галандскім горадзе Утрэхт у 1714 годзе. Мірны пакт паставіў кропку ў вайне за іспанскую спадчыну, у якой Іспанія прайграла, а Англія перамагла і атрымала «скалу» (так часта называюць Гібралтар).

З таго часу Мадрыд ніколі не пакідаў думкі змяніць статус-кво стратэгічна важнага фарпосту. У тым жа 1714 годзе іспанцы спрабавалі штурмам вярнуць крэпасць, але няўдачна. Пасля быў штурм у 1727 годзе — і зноў правал. Нарэшце, пяцігадовая беспасяховая асада ў часы вайны за незалежнасць Амерыкі. Падчас яе іспанцы перапрабавалі ўсе сродкі. Абмяркоўвалася нават ідэя марскога дэсанту конніцы — коні павінны былі плыць з караблёў на сушу, апранутыя ў пробкавыя камізэлькі. Аднак у выніку «скала» выстаяла, стаўшы сімвалам непрыступнасці. Статус непрыступнасці быў пацверджаны падчас напалеонаўскіх войнаў.

На думку гісторыкаў, наступны тэст крэпасць магла не прайсці. У 1940 годзе, калі пасля падзення Францыі ўся кантынентальная Заходняя Еўропа перайшла пад кантроль гітлераўцаў і іх саюзнікаў, Берлін і Мадрыд пачалі сумесную падрыхтоўку да атакі на Гібралтар (усё мірнае насельніцтва з-за не пагрозы на той час было ўжо эвакуявана). У ліпені 1940 года Франка даслаў Чэрчылю ноту з патрабаваннем вяртання тэрыторыі. 12 лістапада Гітлер падпісаў план аперацыі «Фелікс», падчас якой прадугледжваліся ўступленне Іспаніі ў вайну, марш-кідок корпуса Вермахта на поўдзень Іспаніі з захопам Партугаліі, пераход пад кантроль немцаў іспанскага Марока, Азорскіх выспаў і, натуральна, захоп Гібралтару.

Аднак у выніку план аперацыі «Фелікс» так і застаўся на паперы.

У 1950-я гады, калі рэжым Франка стабілізаваўся, Мадрыд зноў патрабаваў вяртання Гібралтара і, акрамя ўсяго іншага, рэферэндуму. 10 верасня 1967 года на рэферэндуме жыхары Гібралтара — не без адміністратыўнага ціску Лондана — прагаласавалі за тое, каб застацца пад апекай Вялікабрытаніі, што канчаткова сапсавала стаўленне Франка да анклаву: больш за 17 гадоў Іспанія трымала мяжу з Гібралтарам зачыненай.

Апошні раз Іспанія мела шанец перагледзець Утрэхтскую дамову ў пачатку стагоддзя. Лондан пагадзіўся на стварэнне трохбаковай камісіі з удзелам Іспаніі, Гібралтару і Вялікабрытаніі, праца якой, праўда, закончылася безвынікова. Адначасова прайшоў рэферэндум, на якім 95 працэнтаў гібралтарцаў пацвердзілі свой намер заставацца падданымі Елізаветы Другой.

І вось чарговы раунд экспансіі ганарлівых іспанцаў. Яшчэ падчас восеньскіх выбараў Народная партыя паабяцала ў выпадку перамогі паставіць на павестку дня іспанскага МЗС праблему вяртання Гібралтару. Пакуль ішла кампанія і лічылі галасы, такія абяцанкі можна было спісаць на перадвыбарчы папулізм. Аднак кансерватары, якія з'яўляюцца нашчадкамі партыі франкістаў, знешнепалітычныя апетыты не пакінулі. Прэм'ер Марыяна Рахой ужо прапанаваў брытанскаму калегу Дэвіду Кэмерану пачаць перамовы наконт будучага калоніі. У студзені Хасэ Мануэль Гарсія, новы іспанскі міністр замежных спраў, стаў героем скандалу. Пабачыўшы ў сценах Еўрапарламенту кіраўніка МЗС Вялікабрытаніі, ён прывітаў яго слоганам: «Іспанскі Гібралтар!».

З улікам вынікаў рэферэндуму 2002 года такая ваяўнічая пазіцыя здаецца абсалютна неадэкватнай. Аднак нельга забываць, што цяперашняя канфрантацыя вакол Гібралтара праходзіць ва ўнісон з абвастрэннем адносін Вялікабрытаніі і Аргенціны з-за Фальклендскіх (Мальвінскіх) выспаў.

Напярэдадні 20-й гадавіны канфлікту 1982 года Буэнас-Айрэс пачаў сапраўдную дыпламатычную вайну супраць Лондану, патрабуючы для пачатку як мінімум перамоваў наконт статусу і будучыні рэгіёну. Шансы пачаць нейкі дыялог у Аргенціны, якую падтрымлівае ўся Лацінская Амерыка, вельмі някепскія. І гэта можа стаць прававым прэцэдэнтам, які Мадрыд таксама будзе ўжываць у гібралтарскім пытанні.

Па-другое, зараз эканомікі Іспаніі ўсе спецыялісты прагназуюць сцэнар Грэцыі. Між тым, у краіне і так амаль пяць мільёнаў беспрацоўных. Прапанаваны на днях «народнікамі» праект працоўнай рэформы ўжо выклікаў маштабныя пратэсты прафсаюзаў. А, як вядома з гісторыі, лепшы сродак адцягнуць інтарэс людзей ад сацыяльна-эканамічнай праблематыкі — абвастрыць пачуццё пакрыўджанай нацыянальнай годнасці.

Брытанская газета «Telegraph» зрабіла невялікае апытанне жыхароў Ла-Лінеа, самага блізкага горада ад мяжы з Гібралтарам. Суседзяў тут сапраўды не любяць. Фінансавае заканадаўства Гібралтара з яго нізкімі падаткамі цягне інвестараў укладваць грошы туды, а не ў Ла-Лінеа.

Не дзіўна, што ў асяроддзі амаль сямі тысяч жыхароў рэгіёну, якія запісаліся ў гастарбайтэры ў Гібралтар, таксама чуюцца антыанглійскія ноткі.

Праблема ўскладняецца памежным рэжымам. Вялікабрытанія не ўваходзіць у Шэнгенскую зону: таму на мяжы тут дасюль існуе пашпартны кантроль, які, калі верыць сведкам, можа заняць часам дзве гадзіны. Гэта таксама не падабаецца тым, хто штодня прыязджае ў крэпасць з Іспаніі на працу, каб пасля вярнуцца дахаты. Адсюль папулярнасць ідэй інтэграцыі Гібралтара і Іспаніі.

У сувязі з гэтым апошнія навіны пра ідэю вяртання Гібралтару ў склад Іспаніі былі ўспрынятыя ў калоніі вельмі насцярожана. Старшыня мясцовага ўрада выказаў шкадаванне наконт таго, што Іспанія ўступіла ў XXI стагоддзе з тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі. Але ён мае надзею астудзіць апетыты Мадрыду мірнымі сродкамі.

Галоўнае, што зараз непакоіць старшыню ўрада і яго суайчыннікаў, — тое, што іх думка можа быць праігнараваная на Даўнінгстрыт. Інакш кажучы, прадстаўніка Гібралтару папросту не пусцяць на брытанска-іспанскія перамовы, якія непасрэдна будуць тычацца лёсу «скалы».

Заклапочанасць выклікаюць фрагменты нядаўна апублікаваных мемуараў Пятра Хайна, міністра па еўрапейскіх справах у кабінеце лейбарыста Тоні Блэра. Аказваецца, падчас зачыненых кансультацый з іспанцамі Тоні Блэр ледзь не пагадзіўся на тое, каб стварыць сумесную брытанска-іспанскую адміністрацыю ў калоніі. Натуральна, жыхароў горада-крэпасці пры гэтым ніхто не спытаў.

На днях у Лондане павінна адбыцца сустрэча брытанскага і іспанскага прэм'ераў. Па выніках рандэву можна будзе казаць пра сур'ёзнасць прэтэнзій Мадрыду наконт вяртання «скалы».

З НАГОДЫ

# ХТО ПРЫКУСІЎ ЯЗЫК?

Алег НОВІКАЎ

**Шакаваная вынікам рэферэндуму ў Латвіі, дзе 75 працэнтаў прагаласавалі супраць надання дзяржаўнага статусу рускай мове, чырвона-карычневая супольнасць шукае вінаватых. Прапануем агляд блогасферы і аналітыкі.**




Безумоўна, хапае тых, хто паспрабаваў кампенсаваць канфуз эмацыйнымі ксенафобскімі пасажамі: «Іх ледзь больш мільёна... рэліктавы этнас, што сыходзіць у гістарычны нябыт... у сваёй вартай жалю спробе затрымацца ў гэтай гісторыі спрабуюць аблаташыць рускіх».

Некаторыя знайшлі самае, на іх погляд, лагічнае тлумачэнне навінам з Рыгі: «З вялікай верагоднасцю дадзеныя рэферэндуму былі брутальнай фальсіфікацыяй. Гэта, вядома, пакуль толькі меркаванне. Але меркаванне, заснаванае на логіцы».

Справа дайшла да таго, што ў правале нават падазраюць арганізатараў рэферэндуму. «Умовы канстытуцыйнага рэферэндуму даволі жорсткія. Рашэнне будзе лічыцца прынятым, калі за яго прагаласуе кваліфікаваная большасць, г.зн. больш паловы занесеных у спісы выбарцаў. Для таго, каб руская мова стала дзяржаўнай, трэба было сабраць 750 тысяч галасоў выбарцаў. Ідэя — відавочна невыканальная. Такім чынам, мэта ініцыятывы была іншая. Якая?» — задаюць пытанне на адным з форумаў.

Адказу няма. Аднак нельга не пагадзіцца з адным латышскім дэпутатам: «Ліндэрман (адзін з ініцыятараў рэферэндуму) аказаў мядзведжую паслугу тым грамадзянам Латвіі, якія падпісаліся за правядзенне рэферэндуму. Цяпер дасягнуты прама процілеглы вынік — грамадзяне Латвіі мабілізаваліся і сталі адзінымі і актыўнымі».

Самы вялікі парадокс патрыятычнай аналітыкі працэсаў у Латвіі заключаецца ў тым, што шматлікія каментатары, аналізуючы яго дэталі, нечакана пачалі праяўляць сентыменты да латвійскіх парадкаў. Нацыяналісты пабачылі ў інстытуце «неграмадзян» магчымае рашэнне нацыянальнага пытання ў Расіі. Прыклад — пост блогера Redcat: «Скажыце, вас раздражняе, што ўсе гэтыя джамшуты ў Расіі па-руску не размаўляюць? Што яны селяцца асобнай дыяспарай і маюць зносіны толькі з сабе падобнымі? Што жывуць так, як прызвычаіліся, замест таго, каб жыць цывілізавана, як белыя людзі? Што паводзяць сябе, нібы яны ў нас гаспадары? А рускія менавіта так паводзілі сябе ў Прыбалтыцы».

Больш таго, крытэрыі надання латвійскага грамадзянства (добрае веданне мовы і гісторыі) нагадваюць тэзісы Уладзіміра Пуціна, якія ён выклаў у сваім рэзанансным артыкуле пра рашэнне нацыянальнага пытання ў Расіі.

Далей больш. Руская патрыятычная супольнасць, якая не карыстаецца любоўю з боку Крамля, капаючыся ў гісторыі і прававых аспектах падрыхтоўкі плебісцыту, выявіла дзіўныя рэчы. Такія палітычныя свабоды, якія мае руская меншасць у Латвіі, этнічным рускім на іх радзіме ніколі не сніліся.

Мінулай вясной трое рускамоўных палітычных актывістаў выступілі з прапановай правесці рэферэндум па змены ў Канстытуцыі. Цалкам папулісцкая ініцыятыва атрымала грамадскі рэзананс — і «цягнік пайшоў». Арганізатары нанялі натарыусаў, адкрылі пункты збору подпісаў, правялі агітацыйную кампанію. Для параўнання, прыкладна ў гэты ж час латвійскія нацыяналісты спрабавалі ініцыяваць рэферэндум пра перавод усёй школьнай адукацыі на латышскую мову. Але так і не змаглі сабраць патрэбную колькасць натарыяльна завераных подпісаў. Затым сабраныя подпісы былі перададзены ў латвійскі ЦВК. Выбаркам правёў прадугледжаную законам працэдуру і абвясціў рэферэндум.

Паспрабуйце арганізаваць нешта падобнае ў Расіі. Тут за апошніх 6 гадоў ніводнай новай партыі не зарэгістравалі, а вы хочаце змены ў Канстытуцыю ўносіць...

Нарэшце шматлікія славянафілы прызналі, што змагацца за нейкія ідэі ўсё ж такі камфортней ва ўмовах еўрапейскай дэмакратыі.

Праўда, у большасці каментараў вынікам рэферэндуму даецца негатыўная ацэнка, што, як адзначалася, правакуе адвечнае рускае пытанне: «Хто вінаваты?». І спасылка на ўжо згаданы інстытут неграмадзян яўна не працуе. Вынікі рэферэндуму ў Расіі адразу ахрысцілі няправільнымі, паколькі ў галасаванні не ўдзельнічалі так званыя неграмадзяне, галоўным чынам рускамоўныя. Аднак іх у Латвіі каля 319 тысяч. Калі гэту лічбу прыплюсаваць да колькасці тых, хто падтрымаў дзяржаўны статус рускай мовы (270 тысяч), то атрымаецца 589 тысяч, а трэба было 771.

Больш таго, 74,8% (821 722) прагаласавалі супраць увядзення другой дзяржаўнай мовы, а гэта значыць, што супраць галасавала нейкая частка рускай меншасці, якая складае амаль 40 працэнтаў насельніцтва. Ім і дасталася ад прапуцінскага аналітыка Міхаіла Лявонцьева: «Рэферэндум пра статус рускай мовы ў Латвіі — лагічны працяг усёй гісторыі, пачынаючы з так званай «барацьбы за незалежнасць», калі незалежнасць была падараваная латышам «рускамоўнымі», якія выступалі за Народны Фронт».

Да не менш арыгінальных канцэптаў можна аднесці пазіцыю прэзідэнта Асацыяцыі незалежных палітолагаў Прыднястроўя Андрэя Сафонава: «Вынікі рэферэндуму ў Латвіі пра наданне рускай мове статусу другой дзяржаўнай — гэта прысуд сістэме дзяржаўнага ўладкавання, створанай Уладзімірам Леніным. Урэшце, у штучна створаных рэспубліках нацыянальная бюракратыя запаліла ў шматлікіх сваіх супляменніках жаданне атрымліваць выгаду за чужы кошт, як гэта здарылася ў Латвіі». Ці значыць гэта, што пачынаць адраджэнне рускай мовы ў Прыбалтыцы патрэбна з крытыкі асноў марксізму-ленінізму, Сафонаў не сказаў.

Цікавы тэзіс высунуў журналіст Канстанцін Гайваронскі. Ён правёў аналогіі паміж вынікамі рэферэндуму і выбарамі ў Расіі і прыйшоў да высновы, што латышскіх выбаршчыкаў замбавалі па метаду Пуціна. «І там, і тут людзі, якія не мелі аб'ектыўнай інфармацыі, прынялі эмацыйнае рашэнне. І нават лічбы апынуліся блізкія. Калі зняць з нашай і расійскай сітуацый сакральныя покрывы, то дыялог у сухой рэшце выглядае так: «Мы хочам сумленнай палітыкі!» — «Не, вы хочаце вялікіх узрушэнняў, вы загіпнатызаваная пятая калона, якая працуе на грошы замежнай дзяржавы і г.д.»

Атрымліваецца, што ва ўсім вінаваты Пуцін, што прыдумаў дзейсныя сродкі прапаганды, якія экспартавалі латышскія нацыяналісты. Пуціна абвінавачваюць не толькі ў вынаходніцтве абсалютнага піяру. «У глабальным плане вынікі рэферэндуму — гэта параза афіцыйнай Масквы, паколькі за 20 гадоў расійская палітыка так і не знайшла рэальных рычагоў для абароны грамадзянскіх правоў суайчыннікаў у Латвіі», — адзначае сайт «Новы рэгіён».

Як бачым, палеміка працягваецца. Без спроб паўплываць на яе ход хочацца, каб яе ўдзельнікі не прайшлі міма цытаты ў нямецкай «Sueddeutsche Zeitung»: «У гэтым зацяжным канфлікце Масква губляе ўсе больш прадстаўнікоў маладога пакалення рускамоўнага насельніцтва краін Балтыі, якія бачаць свае перспектывы ў Еўрасаюзе, а не ў аўтарытарнай, карумпаванай Расіі».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЭНРЫКЕ КАПРЫЛЕС РАДОНСКІ



Галоўны апанент Уга Чавеса на прэзідэнцкіх выбарах не паспеў атрымаць мандат адзінага кандыдата ад апазіцыі, як тут жа стаў мішэнню чорнага піяру. Прыхільнікі Чавеса пачалі інфармацыйную кампанію супраць Капрылеса. Яны малююць Энрыке як сіяніста, імперыяліста і наогул чалавека нявартага. Напрыклад, вядучая адной з дзяржаўных радыёстанцый напісала пра яго артыкул пад назвай «Сіянізм — наш вораг», дзе падкрэсліваецца, што Капрылес вырас у габрэйскай сям'і. Ён і праўда нашчадак габрэяў, уцекачоў з Еўропы падчас Халакосту. Але на гэтым яго сувязі з сіяністамі, падобна, заканчваюцца. Тэлевядоўца дзяржаўнага канала VTV у сваім шоў «Брытва» нядаўна раскрытыкаваў апазіцыянераў, а потым дастаў нейкія паперы і заявіў, што гэта паліцэйскі пратакол 2000 года. І там нібы сказана, што Энрыке Капрылеса заспелі ў аўтамабілі, калі ён займаўся каханнем з мужчынам. А сам Чавес публічна называе свайго праціўніка «свіннёй». Вось такія асаблівасці баліварскай палітычнай культуры.

### ДАРЫГА НАЗАРБАЕВА



Дачка прэзідэнта Казахстана і былая жонка галоўнага апазіцыянера краіны Аліева, які хаваецца ад казахскіх уладаў на Захадзе, імкліва вяртаецца ў вялікую палітыку, тым самым падвышаючы шанцы стаць афіцыйным пераемнікам бацькі. Пасля таго, як яе абралі ў парламент, Дарыга знялася ў дакументальным фільме пра саму сябе. Стужка «Мая зорка» распавядае пра гастролі Дарыгі (яна ў дадатак оперная спявачка) у некаторых еўрапейскіх сталіцах. Як гаворыцца ў анатацыі да фільму: «Лепшыя ўзоры сусветнай опернай класікі, якія ўвайшлі ў фільм, знаходзяць новае жыццё і гучанне, дзякуючы адмысловай манеры выканання Дарыгі Назарбаевай». Нашто Назарбаевай здымаць пра сябе фільм, не зразумела, хаця, з іншага боку, гэты жанр вельмі папулярны ў сям'і. Так, да 70-годдзя прэзідэнта быў зняты фільм «Неба майго дзяцінства» пра маладыя гады Нурсултана. А дачка Дарыгі — Венера — у 2011 годзе знялася ў стужцы «Байканур». Застаецца сказаць, што ў казахаў кінапробы самой Дарыгі захаплення не выклікалі. Адзін з мясцовых паэтаў напісаў на выхад фільму верш: «Разозлённый лжерекламой // Тут (видать, в полубреду) // Я послал ментов по маме // И ещё в «Мою звезду». // Снова срок теперь мотаю // За язык я нервный свой, // Отсижу, но точно знаю: // Я в культуру — ни ногой!»

### ЯКАБ ЗУМА



Прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі і лідар Афрыканскага Нацыянальнага Кангрэсу выступіў з гістарычнай прамовай перад парламентам краіны, у якой даў зразумець, што ўрад, які фармуе яго партыя, не будзе разглядаць праект нацыяналізацыі горназдабываючай прамысловасці. На думку прэзідэнта, гэта можа значыць «катастрофу». Раней левая фракцыя АНК актыўна дабівалася пачатку нацыяналізацыі сектару, які гістарычна належыць белым грамадзянам ПАР. Асабліва агрэсіўна праяўляла сябе моладзевае крыло партыі пад кіраўніцтвам Юліўса Малемы. Аднак цяпер прадпрымальнікі могуць перавесці дух. Нацыяналізацыі не будзе. А лідара моладзевага крыла АНК увогуле выгналі з партыі, у тым ліку за тое, што ён распальваў расавыя канфлікты, спяваючы забароненую песню «Забей бура». Праўда, расслабіцца бізнэсоўцам таксама не дадуць. Дзяржава плануе ўзняць падаткі на 50 працэнтаў, каб укласці грошы ў шэраг праектаў, якія ў час крызісу могуць аслабіць праблему беспрацоўя. У дадатак левыя маюць намер працягваць барацьбу за змену формы ўласнасці на рудніках. Малема ўжо заклікаў сваіх прыхільнікаў не дапусціць таго, каб з праграмы партыі выключылі лозунг пра нацыяналізацыю шахтаў. Акрамя таго, Малема і яго прыхільнікі на днях выканалі новую версію «Забі бура». Песня называецца «Забі снегавіка».

ДАТА

# БЕЛАРУС НЕПАДРОБНАЙ ШЧЫРАСЦІ

Сяргей ЧЫГРЫН

**25 лютага спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Янкі Геніюша — беларускага доктара, бібліяфіла, мужа Ларысы Геніюш.**



Янка Геніюш, сын Юрка, Ларыса Геніюш

Васіль Быкаў у сваёй кнізе «Доўгая дарога дадому» пра Янку Геніюша сказаў, што «ўвогуле ён мне падабаўся сваёй непадробнай беларускай шчырасцю». А калі Янка Геніюш заязджаў да Васіля Быкава ў Гародню, то яны вялі доўгія гутаркі пра ўсё на свеце, але найперш пра Беларусь і лёс беларусаў. З іх вялікі пісьменнік «пазнаў нямала новага і нават неспадзяванага з жыцця на акупацыйнай тэрыторыі, пад немцамі, а таксама ў Празе. Факты, пра якія распавядаў Геніюш, не надта ўлагоджваліся з тымі, што мы засвоілі з савецкай прапаганды…» Так згадваў Васіль Быкаў Янку Геніюша.

Па характару Іван Пятровіч быў розны — то спакойны, то занадта рэзкі і гарачы ў выказваннях, то чулліва-лагодны, то вясёлы. Але найперш да канца сваіх дзён ён быў і застаўся шчырым беларусам, патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. Дый іншым Янка Геніюш быць не мог. Тым больш, што побач з ім, нягледзячы на ўсе пакуты, цяжкія і шматгадовыя растані, была слынная паэтка Беларусі Ларыса Геніюш. Яны разам дзялілі свае гора і радасці, здзекі і хваляванні, трывогу і неспакой. На надмагільным помнічку ў Зэльве, які пры жыцці ставіла яму сама Ларыса Антонаўна (цяпер ім абодвум стаіць помнік на Зэльвенскіх гарадскіх могілках), былі выбіты такія радкі:

*Па сонца асветы ўзлятаў,*
*нібы птах,*
*З палоскі сялянскае, вузкае.*
*Адзін толькі ведаў у жыцці*
*сваім шлях*
*Пачэсны, цяжкі, беларускі.*

А калі да Ларысы Геніюш прыязджалі сябры, і яны прыходзілі на зэльвенскія могілкі да магілы Янкі Геніюша, Ларыса Антонаўна казала: «Вось тут спіць мой Янка, на мяккай пярынцы. Каторы гадочак спіць Яначка, адбегаў сваё, адгараваў…»

Янка Геніюш нарадзіўся 24 лютага 1902 года ў Крынках на Беласточчыне. Дарэчы, у Крынках пачынаецца і ўвесь род Ларысы Геніюш, якая аб гэтым успамінае ў артыкуле «Крынкі» («Маладосць», 1997, №1): «Казаў мой дзед Павел, што некалі прыйшлі туды ў пушчу два браты Мікалай і Міхал, якія і залажылі Крынкі. Ад Мікалая пайшлі Міклашэвічы, а ад Міхала — Міхайлоўскія — два старыя, адвечныя роды ў Крынках». І калі Ларыса Антонаўна Міклашэвіч выйшла замуж за Янку Геніюша, то запыталася жартам у яго: «А дзе ж ты нарадзіўся?» — «Гдзе? У Крынках!» — адказаў Янка. І сапраўды, дзе ж яшчэ можна нарадзіцца на Беласточчыне, як не ў славутых Крынках…

З Крынак шлях ляжаў у Прагу, куды Янка Геніюш прыехаў вучыцца. Ён паступіў у Карлаўскі ўніверсітэт, а пасля яго заканчэння атрымаў медыцынскую адукацыю, стаў урачом-венеролагам. У тым жа 1935 годзе ў сям'і Геніюшаў нарадзіўся сын Юрка. Пабыўшы два гады дома, Ларыса з сынам пераязджаюць у Прагу да Янкі.

Жыццё ў Празе было вельмі цікавым і разнастайным. Тут жылі дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускія спевакі, кампазітары, мастакі, пісьменнікі. З імі ўсімі быў знаёмы Янка Геніюш, з многімі шчыра сябраваў. А яшчэ ён быў актыўным сябрам пражскага камітэта Беларускай народнай самапомачы.

Падчас акупацыі Прагі нямецкімі войскамі кіраўнік Беларускай народнай самапомачы (БНС) Іван Ермачэнка адправіў Янку Геніюша ў Беларусь, у прыватнасці, у Слонім на лекарскую працу. Пры жыцці доктар філалагічных навук прафесар Алег Лойка расказаў мне адзін цікавы эпізод з жыцця Янкі Геніюша ў акупаваным немцамі Слоніме: «Падчас акупацыі ў 1943–1944 гадах мой бацька быў намеснікам слонімскага гебітартца (слонімскага райздраву), а гебіткамісаратрцам быў не хто іншы, як дзядзька Янка, спадар Іван Пятровіч Геніюш. Толькі па рэцэптах за подпісам майго бацькі выдаваліся ў слонімскай аптэцы лякарствы. Тыя лекі ішлі да партызанаў, і спадар Геніюш не мог таго не ведаць.

А яшчэ Іван Пятровіч стаў героем у вачах майго бацькі, калі ён не ўскінуў руку дзеля прывітання слонімскага гебіткамісара Эрэна, п'ючы піва пры рэстараннай стойцы, калі ў рэстаран зайшоў Эрэн. Эрэн зрабіў на тое заўвагу, на якую дзядзька Янка зрэагаваў імгненна: «А хто тут гаспадар, мы ці вы?!» Праз некалькі дзён слонімскі арцтгэбіт узначальваў ужо не Геніюш: Эрэн прагнаў яго ў Баранавічы. Іншай меры пакарання Эрэн не дабіўся, бо за Геніюшам стаяла слава тых, хто падпісаў з Прагі ліст самому Гітлеру». Што датычыць ліста Гітлеру, дык пра гэта добра расказала Ларыса Геніюш у сваёй «Споведзі» і пра ўсе тыя махінацыі, якія вытвараў у акупацыйнай Празе Іван Ермачэнка.

Сказанае Алегам Лойкам пра рэпліку Янкі Геніюша ў адрас гебіткамісара Эрэна, аспрэчыў Барыс Данілюк (1923–2011), які падчас акупацыі жыў у Слоніме. У адным з пісем пры жыцці да аўтара гэтых радкоў спадар Барыс пісаў: «У Слоніме пры немцах не было ніякага рэстарану, апрача харчоўні самапомачы. У ёй піва не прадавалі, ды і ў такую харчоўню гэбіткамісар ніколі не пайшоў бы. Піва, магчыма, было ў «Soldatenheim», але туды для «Einhemishe», у тым ліку і для доктара Геніюша, не было доступу». Хто з іх меў рацыю — цяжка сказаць, але ж ад смелага і рызыкоўнага Янкі Геніюша, які моцна любіў Беларусь, можна было чакаць і такой рэплікі ў адрас чужынцаў.

Пасля вайны, у 1948 годзе, Янку і Ларысу Геніюшаў незаконна пазбавілі чэшскага грамадзянства, і з Прагі іх вывезлі ў Беларусь. А праз год яны былі асуджаныя Вярхоўным судом Беларусі на 25 гадоў няволі.

У 1956 годзе Геніюшы былі датэрмінова вызвалены і вярнуліся ў Зэльву, дзе пасяліліся ў хаце бацькоў Янкі па вуліцы Савецкай, 7а. Сам Іван Пятровіч уладкаваўся працаваць доктарам у мясцовай зэльвенскай бальніцы. Пісьменнік Уладзімір Арлоў прыгадвае: «Янка Геніюш быў добрым лекарам, што маглі б засведчыць і ягоныя чэшскія пацыенты, і хворыя Зэльвенскай раённай бальніцы, начальства якой прыніжала былога гулагаўскага вязня, не прызнаючы замежны Янкаў дыплом».

Янка Геніюш вельмі любіў беларускія кнігі. Ён іх купляў у крамах, прасіў сяброў, каб высылалі яму новыя беларускія выданні з Мінска, з абласных гарадоў. Некалі ён першы даў сваёй нарачонай Ларысе пачытаць вершы Янкі Купалы, расказваў ёй пра гісторыю Беларусі, пра вялікіх людзей Бацькаўшчыны. Ці не Іван Пятровіч адкрыў жонцы — будучай паэтцы Ларысе Геніюш — свет на беларускасць, натхніў на паэзію?! Бо ведаў ён шмат. Пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік надаўна прыгадаў, як ён быў яшчэ школьнікам, а Іван Пятровіч натхніў яго падпісацца на Беларускую савецкую энцыклапедыю. «Іван Пятровіч фанатычна любіў беларускія кнігі: купляў усе, якія выдаваліся, нават па некалькі паасобнікаў, купляў тыя, якія трэба было купляць, і тыя, якія яму былі нават не патрэбныя», — успамінае Уладзімір Ягоўдзік.

Калі не стала Янкі і Ларысы Геніюшаў, я пабываў у іх доме з настаўнікам з Дзярэчына Пятром Марціноўскім. Тады якраз з Беластока Валянціна Геніюш — нявестка Геніюшаў — прыехала, каб вырашыць пытаннем з домам Геніюшаў у Зэльве. «Усю бібліятэку Янкі і Ларысы Геніюшаў абяцала купіць Нацыянальная бібліятэка Беларусі, але ў апошні момант адміністрацыя бібліятэкі адказалася ад кніг, — уздыхнула Валянціна. — Бярэце, хлопчыкі, штось-небудзь сабе з гэтых выданняў…»

Кніг у хаце Геніюшаў сапраўды было шмат: у адным пакойчыку яны стаялі на паліцах ад падлогі да столі. Вялікая гара выданняў па медыцыне ляжала проста на падлозе. Мы ад убачанага проста разгубіліся. У гэтым доме можна было зрабіць музей Геніюшаў, куды прыязджалі б штогод тысячы турыстаў, бо Зэльву сёння ведаюць толькі таму, што там жылі і пахаваны Янка і Ларыса Геніюшы. Але, на вялі жаль, ніякага музея там няма, нават на 100-годдзе паэткі не дазволілі мясцовыя ўлады ўстанавіць на доме мемарыяльную шыльду.

Уладзімір Арлоў у сваёй кнізе «Імёны свабоды» згадвае: «Калі Іван Пятровіч цяжка захварэў, «дабрадзеі» пусцілі чутку, нібыта ён ужо сканаў, і ў дом Геніюшаў пачалі прыходзіць людзі з жалобнымі вянкамі. Ён памёр на жончыных руках. Ларыса Антонаўна сама яго мыла і апранала. «Пахавалі са слязьмі, ціха, без палкіх прамоў. Не ўсё было добра, аднак нельга аб гэтым...»

Пры жыцці ў іх хаце часта гасцілі беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, палітыкі. Па-рознаму яны ставіліся найперш да Івана Пятровіча, які пасля сталінскіх лагераў страшна ненавідзеў камуністаў і савецкую ўладу, а яшчэ мацней любіў Беларусь і ўсё жыццё марыў аб яе незалежнасці ад Расіі. Пакуль мара Янкі Геніюша не споўнілася…



Доктар Геніюш вядзе прыём хворых у Зэльве

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# КАЗКІ ДЗЯДЗЬКІ СЕРЖУКА

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**У кнігарні «ЛогвінаЎ» адбылася прэзентацыя кнігі і аўдыёдыска «Дзіць-дзілінь: пара гуляць у казкі» вядомага беларускага грамадскага дзеяча, журналіста, а цяпер і пісьменніка-казачніка Сержука Вітушкі.**


Фота аўтара

Сяржук Вітушка



Ілюстрацыя Міхаіла Анемпадыстава

Але перш чым пачаць распавядаць пра гэтую заўважную культурную падзею, мушу адзначыць, што, магчыма, яна не была б такой чаканай, калі б не асоба аўтара. Сяржук Вітушка — адзін з пачынальнікаў маладзевага беларускага адраджэнскага руху, арганізатар экалагічных акцый, без якіх нельга ўявіць 80-я гады ў Беларусі. У той час моладзевая арганізацыя «Талака», якую ўзначальваў Сяржук, была адным з вядучых нюс-мэйкераў для партыйных выданняў і савецкіх баявых лісткоў, кшталту «Политического собеседника». Нягледзячы на тагачаснае шалёнае цкаванне «талакоўцаў» і іх лідара, Сяржук назаўсёды застаўся палымяным патрыётам Беларусі, шчырым і таленавітым чалавекам. Нават калі вымушаны быў па стану здароўя адыйсці ад актыўнай грамадскай дзейнасці і пераехаць у Вільню. Але і тады ў старажытнай сталіцы ВКЛ Сяржук Вітушка браў удзел у адраджэнні беларускай гімназіі, працаваў настаўнікам.

Вопыт настаўніка атрымаў свой лагічны працяг у творчым жыцці Сержука: ім была падрыхтавана да выдання дзіцячая кніга «Дзіць-дзілінь: пара гуляць у казкі», да якой быў выдадзены аўдыёдыск з аналагічнай назвай. Цікава, што амаль усе казкі Сержука Вітушкі былі прачытаны і запісаны не прафесіянальнымі чытальнікамі, а вядомымі ў беларускай культуры творцамі. Сярод тых, хто прыняў удзел у працы над дыскам, мы знаходзім прозвішчы музыкантаў Алега Хаменкі, Ганны Хітрык, Лявона Вольскага, Зміцера Вайцюшкевіча, Сяргея Сокалава-Воюша, Алеся Камоцкага, літаратараў Уладзіміра Арлова, Андрэя Хадановіча, Адама Глобуса, Тамары Лісіцкай. Акрамя гэтых выканаўцаў гучаць галасы заслужанай артысткі Беларусі Зінаіды Бандарэнкі і амбасадара Швецыі ў Беларусі Стэфана Эрыксана.

Многія з гэтых вядомых асоб, якія агучылі казкі, з ахвотай прыйшлі на прэзентацыю кнігі і дыска ў кнігарню «Логвінаў», цаснулі руку аўтару. Прыезд у сталіцу Сержука Вітушкі быў самым галоўным сюрпрызам для тых, хто доўгія гады ведаў яго па «Талацэ», хто сачыў за творчай дзейнасцю Сержука.

Вядучы прэзентацыі, мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі, зазначыў, што выданне кнігі і аўдыёдыска з казкамі Сержука — гэта вынік сумеснай працы многіх людзей, паплечнікаў аўтара. І творчы плён сумеснай працы не быў бы такім важкім, калі б не намаганні тых, хто ўзяў каардынацыю праекта ў свае рукі. А гэта супрацоўнікі «Беларускага Радыё Рацыя» і інтэрнэт-партала Tuzin.FM. Дзякуючы гэтаму, сама праца і атмасфера ў студыі нагадвала 80-я гады, калі нікога не трэба было ўлагоджваць, угаворваць, калі ўсе пагаджаліся і працавалі дружнай талакой.

Як паведаміў у пачатку прэзентацыі ўладальнік кніжнай крамы «Логвінаў» Павел Касцюкевіч, кніга Сержука Вітушкі «Дзіцьдзілінь: пара гуляць у казкі» з ілюстрацыямі Міхала Анемпадыстава па колькасці продажаў заняла шостае месца ў агульным спісе ўсёй прапанаванай пакупнікам прадукцыі. А вось сярод дзіцячай літаратуры твор не меў сабе роўных. Гэта вялікі поспех светлага казачніка з Вільні, які мае паўтарыцца і ў выпадку з аўдыёдыскам!

Кіраўнік інтэрнэт-партала Tuzin.FM. Сяргей Будкін падзякаваў усім паплечнікам: творчым асобам, якія згадзіліся «аддаць» праекту свае галасы, выдаўцам, мастаку, які аформіў кнігу і дыск з такімі вышталцонымі ілюстрацыямі, за плённую сумесную працу. Вынікам яе стала цудоўнае выданне, якое паслужыць нашым дзеткам, упрыгожыць хатнюю фанатэку беларуса. Таксама ўражвае той факт, што кожны трэк дыска сваім асабістым жыццём мае непаўторную акустычную атмасферу, кранае розныя струны душы таго, хто слухае казкі Сержука Вітушкі.

Літаратар і бізнесовец Адам Глобус прызнаўся, што таксама захапляецца складаннем казак. Але ў яго яны атрымліваюцца ўрбаністычнымі, часцяком «чорнымі» па змесце. Але папрацаваць над казкамі Сержука Вітушкі — «светлага» казачніка — было для Адама новым творчым вопытам.

Як абсалютна новым досведам стаў удзел у такім праекце для амбасадара Швецыі ў Беларусі Стэфана Эрыксана. «У працы амбасадара, — падкрэсліў спадар Эрыксан, — выпадаюць розныя творчыя магчымасці, якія не хочацца прапускаць». Адным з такіх шанцаў для цікавай працы і сустрэч стаў запіс казкі «На Купалле» для праекта Сержука Вітушкі «Дзіць-дзілінь: пара гуляць у казкі». «Гэта цудоўны праект, і я рады, што прыняў у ім удзел!» — падкрэсліў спадар амбасадар.

Калі слова было прадстаўлена самому казачніку, дык зала кнігарні здрыганулася ад апладысментаў удзячнай публікі, асабліва дзетак, якія ўчынілі ў кнігарні невялікі гармідар. Сяржук шчыра дзякаваў усім, хто аддаў часцінку сваёй душы і таленту ў рэалізацыю гэтага праекта з яго казкамі. Падкрэсліў, што пазнаў усе галасы, тых хто чытаў яго казкі. А яшчэ Сяржук падзяліўся з прысутнымі сваімі планамі. Па-першае, ён працуе над класічнымі беларускімі казкамі, якія апрацоўвае, робіць больш сучаснымі і больш цікавымі сённяшнім маленькім слухачам. Па-другое, у планах Сержука выданне кнігі казак «Тэатр на далонях», у якой ён вучыць як з дапамогай дзіцячых пальчыкаў распавядаць цікавыя гісторыі.

Яшчэ адзін удзельнік праекта «Дзіць-дзілінь: пара гуляць у казкі» — вядомы беларускі фолькмузыкант, кіраўнік фолк-рок-гурта «Палац» Алег Хаменка — надаў сустрэчы непаўторнае музычнае адценне. Бо ў яго выкананні гучала беларуская народная музыка, якая мае ў большасці сваёй казачныя карані. Тут згадваюцца і «Дзеўкасямілётка», і «Кола груката́ла», «Чужыя дзеўкі» і шмат іншых мелодый. «Я ганаруся, што ўзяў удзел у агульнай працы над гэтымі цудоўнымі казкамі», — адзначыў напрыканцы прэзентацыі Алег Хаменка. Гонар за сваю працу і яе вынік стаў лейтматывам сустрэчы мінчукоў з віленскім беларускім казачнікам Сержуком Вітушкам.

ВЫСТАВА

# СІЛУЭТЫ РЫГОРА ПЕЧНІКАВА

Алена ЗЯЛЕВІЧ

**Напэўна, такой шматлікай мастацкай выставы, што адкрылася ў музеі-сядзібе «Пружанскі палацык», яшчэ не было. Гэта 508 графічных работ пружанскага мастака Рыгора Піліпавіча Печнікава.**



«Сілуэты» — такая назва выставы цалкам адпавядае яе зместу, тут прадстаўлены накіды і эскізы, якія здалёк сапраўды нагадваюць абрысы сілуэтаў. Магчыма, нехта задумаецца, навошта паказваць накіды. Але менавіта па эскізах і накідах можна адчуць руку майстара. Некаторыя мастацтвазнаўцы нават выдзяляюць маляванне накідаў у асобны накірунак выяўленчага мастацтва.

Рыгор Піліпавіч Печнікаў нарадзіўся 7 лютага 1940 года ў Гомелі. У гэтым жа годзе яго сям'я пераехала ў Пружаны, дзе ён вучыўся ў СШ №2. Падчас вучобы праявіліся мастацкія здольнасці Рыгора Піліпавіча: ён прымаў удзел у розных конкурсах, афармляў школьныя газеты, таму вырашыў паступаць у мастацкае вучылішча імя Глебава. Ажыццявіць сваю мару з першага разу не ўдалося. Рыгор Піліпавіч не стаў адчайвацца. Паспрабаваў свае сілы ў другі раз, а пасля і ў трэці. Яго мара здзейснілася ў 1960 годзе, калі ён паступіў на вячэрняе аддзяленне Мінскага мастацкага вучылішча. Вучыўся ён у славутага мастака Валянціна Волкава. Вучобу сумяшчаў з працай мастака-афарміцеля на заводзе. А ў 1963 годзе ён быў залічаны на аддзяленне «Графіка» Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута.

Напрыканцы 1960-х Печнікаў вярнуўся ў Пружаны. Тут працаваў мастаком на заводзе радыёдэталяў, настаўнікам малявання і чарчэння ў школах раёна, кіраўніком гуртка юных мастакоў у Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі, стаяў ля вытокаў адкрыцця мастацкага аддзялення Дзіцячай школы мастацтваў імя Рыгора Шырмы і быў яе першым выкладчыкам.

Віталь Раманоўскі, Наталля Грыцко, Вольга Басак, Кацярына Бушук, дачка Анастасія і шмат іншых таленавітых хлопчыкаў і дзяўчынак, якіх нацэліў на творчасць Рыгор Піліпавіч, звязалі сваё жыццё з мастацтвам. За гэты час ім была створана вялікая колькасць мастацкіх твораў, з якімі знаёмы многія пружанцы. Ён займаўся афармленнем інтэр'ераў у школах, знакамітага музея ў аграрна-тэхнічным каледжы, павільёнаў гарадскога рынку. Па праекту Рыгора Піліпавіча выкананы Царскія вароты ў Свята-Мікалаеўскай царкве ў вёсцы Засімавічы і іканастас Свята-Пакроўскай царквы ў Гарадзечна. Мастак плённа працуе і зараз, асноўны накірунак яго творчасці — іконы.

Работы, прадстаўленыя на выставе, створаны мастаком у 1960–1970 гадах. Асноўная частка — гэта накіды людзей і натуршчыкаў. А яшчэ шмат пружанскіх замалёвак — вуліц і куточкаў гораду, якія сёння ўжо не пазнаць.

СПАДЧЫНА

# РАТУЙ, СВЯТЫ ФЕЛІЦЫЯН!

Віктар ХУРСІК

**Апошнім часам руйнуецца гістарычны цэнтр Мінска. Зусім нядаўна зніклі абрысы першай электрастанцыі, зараз ідзе наступ на вуліцу Гандлёвую і паўднёва-ўсходнюю частку Менскага замчышча.**

Абсалютна мае рацыю старшыня Беларускага таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч, калі кажа, што ў прапанаваных афіцыйных праектах па аднаўленню гэтых аб'ектаў тырчаць вушы прыдуманай гісторыі. І двойчы мае рацыю, калі папракае ў гэтым расіян.

Расійская парадыгма ў беларускай гістарычнай навуцы працягвае існаваць. Галоўны яе пастулат — Расія і праваслаўе задавалі і задаюць тон у развіцці народаў Усходняй Еўропы. Адсюль у нашых чыноўнікаў ды і ў архітэктараў-рэстаўратараў жаданне трымацца менавіта гэтай думкі. Бяспройгрышны варыянт. Праваслаўе ў нас, як і ў Расіі, — дзяржаўная рэлігія. Я не супраць праваслаўя. Але я не бачыў ніводнага дзяржаўнага дакумента, які бы забараняўся адраджаць былое аблічча горадоў ці ўсталёўваць помнікі адпаведна беларускаму духу і гісторыі XV — канца XVIII стагоддзяў. Не ведаю, якой веры сёння нашы кіраўнікі, а ў той час яны былі каталікамі альбо пратэстантамі, радзей — уніятамі, і шчыравалі на дзяржаўнай ніве нічым не горш за сённяшніх.

Мінскі ваявода Крыштаф Завіша (1666–1721) пакінуў для нашчадкаў унікальны збор сваіх успамінаў. Мінгарвыканкам адмовіўся ў мінулым годзе далучыцца да яго выдання, хаця «Успаміны Крыштафа Завішы» павінны ляжаць на стале ў кожнага мінскага чыноўніка, каб ведаць, як належыць шчыра служыць народу.

Прывяду толькі некалькі радкоў: «Рэлíквію — мошчы святога Філіцыяна-пакутніка, дадзеную мне ў Рыме ў юбілейны 1700 год найвышэйшым пастырам Клеменсам XI, ахвяраваў касцёлу айцоў-езуітаў у Мінску, якога ў час судоў трыбунала, скліканага ў Мінску, як патрона ваяводства і Вялікага княства Літоўскага ўрачыста інтрадукаваў віленскі




біскуп Бжастоўскі пры вялікай колькасці высакародных людзей і сходзе простага люду ў працэсіі з цэхамі, брацтвамі, музыкамі ад царквы Святога Духа ўніятаў айцоў-базыльянаў да згаданага касцёла. Была тая інтрадукцыя вялікапышнасцю і выдаткамі значная. Труну, абабітую пунсовым аксамітам, з багатымі галунамі, усю ў шкле, несла ў калчане начальства ўсіх мінскіх манаскіх ордэнаў. Манашкі асісціравалі ў працэсіі. Было два біскупы: віленскі і іерапалітанскі — яснавяльможны ксёндз Панцэржынскі, былі віленскія канонікі і грамада духавенства, скліканага з плябаніі. Проста і людна, з вялікапышнасцю і расходамі святы перанаселены, прыняты за заступніка літоўскага княства, ён славіцца вялікімі цудамі. Уводзіны былі 5-га лютага».

Але костачкі заступніка Беларусі выкінулі на сметнік сталічныя будаўнікі. Відаць, яны палічылі, што так будзе правільна з пункту гледжання айчыннай гісторыі.

Дзяржаўны дзеяч і вялікі мецэнат Крыштаф Завіша праслаўляў не толькі Мінск, а і ўсё ВКЛ сваім старшынёўствам на сеймах, удзелам у дэлегацыях на міжнародных перамовах, судзействам на трыбуналах. Ён мог прамаўляць без паперкі па пяць гадзін, пакінуў пасля сябе шэсць кніг, пра якія, на жаль, не ведаюць сёння самыя дасведчаныя беларускія літаратуразнаўцы. Ён быў у сяброўскіх адносінах са шведскім каралём Карлам XII і меў ад яго ўзнагароду за храбрасць, ён быў цёпла прыняты Пятром I у Слуцку, не кажучы ўжо пра даверлівыя дачыненні з каралямі Рэчы Паспалітай. Крыштаф Завіша — быў. Значыць, была і наша гісторыя, існуе матэрыяльная гістарычная спадчына тых часоў, якую нельга парушыць, а тым больш пераўвасобіць.

Каму сёння патрэбны святыя заступнікі? Можа, толькі Астаповічу, які працягвае даказваць, што ў Мінска была свая гісторыя...

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**Макс — барадаты здаравяк**

Спакойны, паслухмяны і добры сабака, будзе адданым сябрам і сапраўдным чальцом сям'і. Макс падыходзіць для жыцця ў кватэры — трывае да 2-разовага выгулу. Любіць дзяцей, прыязны да іншых жывёл. Цудоўна паводзіць сябе на прагулцы, не цягне павадок. Максу 3 гады, ён каля 55 сантыметраў, прыгожага светла-рудага колеру.



Валанцёр прытулку «СуперПёс» Анастасія распавядзе вам пра Макса і іншых гадаванцаў. Тэлефануйце: 8 029 7755753

**Хвосцік — вялікі прыгажун**



Гэты кот гатовы паўсюль ісці за чалавекам і разбівае стэрэатып, што каты любяць дом, а не гаспадара. Інтэлігентны Хвосцік заўсёды носіць чорна-белы фрак і ў яго неверагодна прыгожыя вочы — ізумрудныя. Кот вельмі ласкавы і добры. Хвосціку 1,5 гады, ён кастрыраваны, прызвычаены да латку і здаровы.

Тэлефануйце і знаёмцеся: 8 029 6612792 Людміла.

***СуперПёс альбо СуперКот — самы лепшы падарунак на любое свята! Заходзьце ў каталог жывёл на форуме прытулку http://forum.superkot.com/***

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## ПІШАМ ДЫКТОЎКУ

Марат ГАРАВЫ

**21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы, распачаўся першы этап V Агульнанацыянальнай беларускай дыктоўкі, якая праводзіцца рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» пры падтрымцы тэлеканала «Белсат».**

У Мінску дыктоўка адбылася ў офісе ТБМ. Сярод удзельнікаў мерапрыемства прысутнічалі ганаровыя госці: прадстаўнікі пасольстваў Грузіі і Чэхіі, а таксама мінчане і госці сталіцы — людзі розных занняткаў і ўзросту.

Тэксты дыктоўкі — верш народнага паэта Беларусі Максіма Танка «Родная мова» (1943) і ліст у рэдакцыю народнага паэта Беларусі Янкі Купалы (замест прамовы на святкаванні дваццацігоддзя літаратурнай творчасці першага народнага паэта Беларусі ў Беларускім дзяржаўным тэатры 23 чэрвеня 1925 года) — чытала першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім.

У каментары «НЧ» Анісім нагадала, што дыктоўка праводзіцца пяты год запар па ініцыятыве беларускага філосафа Уладзімера Падгола і таму грамадскасцю назапашаны пэўны вопыт. Паводле яе слоў, тэксты дыктоўкі прымеркаваны да 100-гадовага юбілею з дня нараджэння Максіма Танка і 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы.

Як адзначыла першы намеснік старшыні ТБМ, у шэрагу рэгіёнаў краіны дыктоўку ўжо пісалі ў выходныя дні, прычым у некаторых месцах, у тым ліку і на Лідчыне, адбылося паразуменне грамадскасці з уладамі і мерапрыемства праводзілася ў дзяржаўных бібліятэках. Паводле яе слоў, у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў дыктоўку пісалі студэнты разам з выкладчыкамі. Такім чынам, падчас дыктоўкі народ засведчвае, што ад мовы ён не адракаўся, мову людзі любяць, шануюць і жадаюць, каб іх родная мова гучала паўсюль, у тым ліку на радыё і па тэлевізіі, а не толькі ў грамадскім транспарце. «Пра гэта, дарэчы, кажуць і дзеці», — зазначыла Анісім. Яна, навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, у Заводскім раёне сталіцы сустракалася з навучэнцамі Мінскай беларускай гімназіі №14, якія чыталі вершы Максіма Танка і Пімена Панчанкі.

Другі і трэці этапы дыктоўкі адбудуцца 15 і 25 сакавіка і прысвячаюцца, адпаведна, Дню Канстытуцыі і 94-й гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дарэчы, у Міжнародны дзень роднай мовы ў сталіцы адбыліся розныя мерапрыемствы. Так, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы ў рамках Года кнігі і святкавання 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі распачаў першы этап грамадска-культурнай акцыі «Чытаем Купалу разам». Падчас мерапрыемства вершы Купалы прагучалі з вуснаў прадстаўнікоў Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце міністраў. Акрамя таго, наведвальнікі імпрэзы атрымалі цудоўную магчымасць на працягу толькі аднаго вечара пазнаёміцца з унікальнымі каштоўнасцямі з фондаў музея — прыжыццёвымі выданнямі кніг паэта з аўтографамі самога аўтара.

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбыўся літаратурны вечар «Матчын дарунак ад самай калыскі», да якога падрыхтавана выстава ў фондаў музея «Якуб Колас і Нацыянальная акадэмія навук Беларусі: да вытокаў беларускай навукі аб слове» з рэдкімі дакументамі і матэрыяламі, звязанымі з навуковай дзейнасцю песняра.

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сёння адбыліся літаратурныя чытанні паэтычных твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 180

Падпісана да друку 24.02.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.